Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь

# Пачатковая школа

## 1 клас

# Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне

Дапаможнік для настаўнікаў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

*Рэкамендавана
Навукова-метадычнай установай
«Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь*

Мінск
Нацыянальны інстытут адукацыі
«Аверсэв»
2015

## Прадмова

Каляндарна-тэматычнае планаванне з’яўляецца дапаможнікам для настаўнікаў, якія працуюць у 1 класах устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання. У ім для кожнага канкрэтнага ўрока вычляняецца абавязковы для навучання аб’ём матэрыялу, вызначаюцца яго адукацыйныя мэты, колькасць і віды абавязковых кантрольных работ. Выкарыстанне каляндарна-тэматычнага планавання дапаможа паспяхова арганізаваць працэс навучання ў 1 класах у адпаведнасці з мэтамі і задачамі дапрацаваных вучэбных праграм.

Планаванне вучэбнага матэрыялу ў дапаможніку з’яўляецца прыкладным, што дае права настаўнікам у межах гадзін, адведзеных на вывучэнне прадмета, уносіць у планаванне змяненні з улікам падрыхтоўкі вучняў класа і асаблівасцей тэхналогіі навучання, а таксама выкарыстоўваць пры навучанні дадатковы вучэбны матэрыял, які рэкамендаваны Міністэрствам адукацыі.

Прыкладнае каляндарна-тэматычнае планаванне для настаўнікаў 1 класаў падрыхтавалі:

Уводзіны ў школьнае жыццё — В. І. Цірынава.

Навучанне грамаце — І. М. Наронская.

Русский язык — М. Б. Анціпава.

Матэматыка — Т. М. Чабатарэўская, В. У. Нікалаева; Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан, С. В. Гадзаава, Т. М. Канашэвіч.

Чалавек і свет — Т. А. Кавальчук, В. М. Удавічэнка.

Працоўнае навучанне — А. Ф. Журба, Н. А. Юрчанка.

## Уводзіны ў школьнае жыццё

Агульная колькасць гадзін — 60 (20 навучальных дзён, па 3 урокі)

1. Цірынава, В. І. Уводзіны ў школьнае жыццё / Введение в школьную жизнь : вучэб. дапам. для 1 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / В. І. Цірынава. — Мінск : НІА, 2011—2015 (ВД).
2. Тиринова, О. И. Введение в школьную жизнь. 1 класс. Дидактический материал : учеб.-нагляд. пособие для учреждений общ. сред. образования / О. И. Тиринова. — Минск : НИО, 2011; Минск : Аверсэв, 2012 (ВНД).

| № урока і дата правядзення | Тэма ўрока | Мэты вывучэння тэмы | Характарыстыка асноўных відаў і спосабаў дзейнасці (з рэкамендуемымі практыкаваннямі) | Вучэбнае абсталяванне |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | **Першы вучэбны дзень** | | |
| 1 | Беларусь — наша Радзіма[1] | ***Адукацыйныя***: прывіццё цікавасці да гісторыі і традыцый нашай Радзімы — Рэспублікі Беларусь; ***развіваючыя***: пашырэнне кругагляду; ***выхаваўчыя***: выхаванне пачуцця любові і павагі да Айчыны, гонару за родны край | Удзел у гутарцы аб першым школьным дні, нашай Радзіме — Рэспубліцы Беларусь. Знаёмства з кнігай «Беларусь — наша Радзіма. Падарунак Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі першакласніку». Дэкламаванне вершаў пра Радзіму на беларускай і рускай мовах. Гульня-віктарына «Прырода роднага краю» | Кніга «Беларусь — наша Радзіма. Падарунак Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі першакласніку»; дзяржаўная сімволіка Рэспублікі Беларусь; фізічная карта Рэспублікі Беларусь для 1—4 класаў; аўдыязапіс Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь; аўдыязапіс песні пра Беларусь (на выбар настаўніка); **ЭСН** «Чалавек і свет. 1 клас. Беларусь — наша Радзіма» |
| 2 | Знаёмства з настаўнікам і аднакласнікамі | ***Адукацыйныя***: знаёмства з настаўнікам, аднакласнікамі, школай; увядзенне знака «Паднятая рука»; асваенне школьных правілаў: «Калі адказвае адзін вучань, усе слухаюць», «Гатовы да адказу — падымі руку», «Вучань для адказу ўстае»; ***развіваючыя***: развіццё камунікатыўных уменняў у працэсе абмеркавання і прыняцця нормаў калектыўнага ўзаемадзеяння; развіццё ўмення выказваць свае прапановы па рашэнні праблемных сітуацый; ***выхаваўчыя***: выхаванне ўважлівага стаўлення да людзей у сітуацыі знаёмства; выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Практычнае засваенне школьных правілаў: «Калі адказвае адзін вучань, усе слухаюць»; «Гатовы да адказу — падымі руку»; «Вучань для адказу ўстае». Удзел у вучэбным дыялогу: уменне слухаць, задаваць пытанні па тэме паведамлення, адказваць на пытанні суразмоўцы. Удзел у абмеркаванні і прыняцці «Правілаў нашага класа». Увядзенне знака «Паднятая рука». Гульня з мячом «Запомні нашы імёны» | ВНД: **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 13.** Сюжэтны малюнак «Адказ вучня» Шкатулка з асабістымі прадметамі настаўніка (для аповеду пра сябе); плакат «Правілы нашага класа» (нарыхтоўка для запісу правілаў паводзін, устаноўленых самімі вучнямі) |
| 3 | Экскурсія па ўстанове адукацыі | ***Адукацыйныя***: знаёмства з установай адукацыі, школьнымі памяшканнямі; асваенне школьных правілаў паводзін у сталовай, бібліятэцы, спартыўнай зале, актавай зале; ***развіваючыя***: развіццё камунікатыўных уменняў у працэсе абмеркавання | Засваенне правілаў паводзін падчас экскурсіі па ўстанове адукацыі. Знаёмства са школьнымі памяшканнямі: вучэбным класам, сталовай, бібліятэкай, спартыўнай залай, актавай залай. Знаёмства з прафесіямі і працай дарослых ва ўстанове адукацыі. | ВД, с. 3. ВНД: **Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Аловак» **Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка» Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў) |

[1] Тэма першага ўрока штогод карэкціруецца ў адпаведнасці з рэкамендацыямі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | і прыняцця нормаў калектыўнага ўзаемадзеяння; ***выхаваўчыя***: выхаванне ўважлівага стаўлення да людзей у сітуацыі знаёмства; выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Удзел у вучэбным дыялогу: уменне слухаць, задаваць пытанні па тэме паведамлення, адказваць на пытанні суразмоўцы. Гутарка па ўражаннях ад экскурсіі. Знаёмства з вучэбным дапаможнікам. Знаёмства з гульнявымі персанажамі вучэбнага дапаможніка. Арыенціроўка ў вучэбным дапаможніку па ўмоўных абазначэннях: сонейка — новы навучальны дзень; званок — новы ўрок. Чытанне і абвядзенне па контуры слова «Школа» | |
| **Другі вучэбны дзень** | | | | |
| 1 | Правілы паводзін вучня на ўроку і перапынку | ***Адукацыйныя***: асваенне школьных правілаў: «У адказ на словы прывітання вучні моўчкі ўстаюць», «У пачатку і канцы кожнага ўрока вучні стоячы вітаюць настаўніка»; «Гатоўнасць пары да адказу вызначаюць два вучні»; увядзенне знака «Праца ў пары»; ***развіваючыя***: развіццё прасторавай арыентацыі на лісце ў клетку; развіццё сінтаксічнага ладу маўлення: фармулёўка пытання па ўзоры настаўніка; асваенне вопыту працы ў пары ў працэсе выканання вучэбнага задання; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Знаёмства з правіламі школьнага прывітання. Прывітанне настаўніка. Прывітанне аднакласнікаў. Увядзенне знака «Праца ў пары». Праца ў парах: выкарыстанне правілаў маўленчага этыкету ў дыялогу (словы прывітання). Асваенне і замацаванне правілаў: «Гатовы да адказу — падымі руку», «Вучань для адказу ўстае», «У адказ на словы прывітання вучні моўчкі ўстаюць», «У пачатку і канцы кожнага ўрока вучні стоячы вітаюць настаўніка»; «Гатоўнасць пары да адказу вызначаюць два вучні». Практычная работа па прасторавай арыентацыі на лісце без разлінoўкі па пытаннях і заданнях настаўніка. Знаёмства з правіламі працы ў пары з выкананнем роляў «настаўнік», «вучань». Знаёмства з правіламі бяспечных паводзін на перапынку. Клопат аб захаванні свайго здароўя і здароўя навакольных. Гульня на трэніроўку ўвагі і самарэгуляцыі паводзін «Дашкольнік — вучань» | ВД, с. 4 (або па выбары настаўніка — с. 7). ВНД: **Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Аловак» **Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка» **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 8.** Знак «Праца ў пары» **Мал. 13.** Сюжэтны малюнак «Адказ вучня» **Мал. 14.** Сюжэтны малюнак «Прывітанне вучнямі адзін аднаго» **Мал. 15.** Сюжэтны малюнак «Прывітанне настаўніка» Плакат «Правілы нашага класа»; карткі з імёнамі дзяцей (ва ўсіх вучняў); каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); дзве карткі з выявай аднаго і двух вучняў (для правядзення рэфлексіі); аўдыязапіс песні «Коробка с карандашами» (сл. У. Прыходзькі, муз. Г. Гладкова) |
| 2 | Знаёмства з правіламі пісьма: вучымся правільна сядзець, трымаць ручку і аловак. Прасторавая арыентацыя | ***Адукацыйныя***: асваенне правілаў правільнай пасадкі, умення трымаць ручку (аловак); знаёмства з новай формай адказу, увядзенне знака «Адказ хорам»; увядзенне знака «Праблема»; замацаванне паняццяў «права», «лева», «верх», «ніз»; ***развіваючыя***: развіццё пра- | Трэніроўка ў захаванні правілаў правільнай пасадкі за вучэбным сталом (партай). Практычнае засваенне ўмення правільна трымаць у руцэ ручку і аловак. Удзел у гутарцы пра важнасць вучобы ў школе. Асваенне новай формы адказу «Адказ хорам». Увядзенне знака «Праблема». | ВД, с. 7 (або па выбары настаўніка — с. 4). ВНД: **Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Аловак» **Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка» **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | сторавай арыентацыі ў памяшканні і на лісце паперы; развіццё зрокавай каардынацыі — маляванне і пісьмо па контуры; развіццё зрокавага ўспрымання на аснове аналізу, параўнання і знаходжання адрозненняў паміж малюнкамі;<br>***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння; беражлівых адносін да школьных рэчаў | Асваенне прыёму параўнання: пошук адрозненняў на двух малюнках.<br>Гульнявыя практыкаванні для адпрацоўкі і замацавання паняццяў «права», «лева», «верх», «ніз» | **Мал. 11.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Праблема»<br>**Мал. 28.** Плакат «Правільная пасадка вучня за партай»<br>**Мал. 29, 30.** Плакаты «Правільна трымай ручку і размяшчай на парце сшытак» (для вучняў, якія пішуць правай ці левай рукой)<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў) |
| 3 | Рэжым дня вучня | ***Адукацыйныя***: знаёмства з рэжымам дня школьніка; замацаванне школьных правілаў: «Калі адказвае адзін вучань, усе слухаюць», «Гатовы да адказу — падымі руку»;<br>***развіваючыя***: асэнсаванне новага сацыяльнага статусу вучня (вучаніцы); асваенне вопыту планавання школьных і хатніх спраў; развіццё звязнага маўлення — складанне апавяданняў па сюжэтных малюнках, па зададзенай тэме;<br>***выхаваўчыя***: выхаванне станоўчых адносін да школы, пачуцця гонару за званне «школьнік (вучань, вучаніца)» | Калектыўнае планаванне школьных і хатніх спраў у рэжыме дня вучня 1 класа.<br>Замацаванне школьных правілаў: «Калі адказвае адзін вучань, усе слухаюць», «Гатовы да адказу — падымі руку».<br>Выкананне вучэбных дзеянняў у сітуацыі выбару (выбар адной з дзвюх наклеек, аргументацыя свайго выбару).<br>Складанне апавяданняў па серыі сюжэтных малюнкаў «Як першакласнік збіраўся ў школу», «Рэжым дня школьніка».<br>Складанне звязнага апавядання па зададзенай тэме «Мае любімыя гульні дома і на вуліцы».<br>Практыкаванне ў адрозніванні геаметрычных фігур.<br>Размалёўванне або штрыхоўка геаметрычных фігур | ВД, с. 5.<br>ВНД:<br>**Мал. 1—4.** Сюжэтныя малюнкі на тэму «Як першакласнік збіраўся ў школу»: «Хутка ў школу», «Першага верасня», «Сям'я выпраўляе ў школу», «Добры дзень, школа!»<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>Тры мячы рознага колеру; каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў) |
| **Трэці вучэбны дзень** | | | | |
| 1 | Арыенціроўка на лісце з разліноўкай у клетку | ***Адукацыйныя***: замацаванне паняццяў «права», «лева», «верх», «ніз»; асваенне формы самаацэнкі выкананага задання з дапамогай знакаў «+», «–», «?»;<br>***развіваючыя***: развіццё прасторавай арыентацыі на лісце ў клетку; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці;<br>***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Замацаванне правілаў школьнага прывітання.<br>Адпрацоўка школьных правілаў пачатку і канца ўрока.<br>Прасторавая арыентацыя на лісце з разлiноўкай у клетку (форзац 2 вучэбнага дапаможніка): замацаванне паняццяў «права», «лева», «верх», «ніз».<br>Выкладванне геаметрычных фігур на лісце па інструкцыі настаўніка.<br>Знаёмства са сшыткавай клетачкай.<br>Гульня «Запалі святло ў акенцы».<br>Выкананне практычнай работы — арыентацыя па клетках сшыткавага ліста.<br>Практычнае асваенне прыёмаў самаацэнкі выкананага задання з дапамогай знакаў «+», «–», «?» | ВД, с. 6.<br>ВНД:<br>**Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Аловак»<br>**Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка»<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 8.** Знак «Праца ў пары»<br>**Мал. 13.** Сюжэтны малюнак «Адказ вучня»<br>**Мал. 14.** Сюжэтны малюнак «Прывітанне вучнямі адзін аднаго»<br>**Мал. 15.** Сюжэтны малюнак «Прывітанне настаўніка»<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); наборы геаметрычных фігур (ва ўсіх вучняў) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 2 | Арганізацыя працоў-нага месца. Дзяжурства вучняў | ***Адукацыйныя***: удакладненне ўяўленняў вучняў аб прафесіях і працы дарослых; знаёмства з абавязкамі дзяжурных у класе; асваенне алгарытму складання апавядання па сюжэтным малюнку; ***развіваючыя***: развіццё зрокавага ўспрымання; развіццё звязнага маўлення: складанне апавядання па сюжэтным малюнку з апорай на асобныя малюнкі (часткі цэлага малюнка); ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Удзел у гутарцы аб прафесіях. Гульня «Падбяры рабочы інструмент». Знаёмства з вучэбнымі прыладамі. Развіццё зрокавага ўспрымання, увагі. Правілы падтрымання парадку на парце і ў партфелі. Практычная работа: навядзенне парадку на парце. Практычная работа: навядзенне парадку ў партфелі (праца арганізуецца, калі партфель выкарыстоўваецца вучнямі 1 класа для захоўвання вучэбных прыладаў). Знаёмства з абавязкамі дзяжурных па класе. Складанне апавядання па сюжэтным малюнку. Размалёўванне контурнага малюнка | ВД, с. 11—12. ВНД: **Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Аловак» **Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка» **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 11.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Праблема» Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); школьныя прылады для дэманстрацыі: сшытак, падручнік, ручка, пенал, аловак, лінейка, пэндзлік, фарбы, клей, альбом для малявання, гумка; атрыбуты дзяжурных па класе |
| 3 | Выкананне дзеянняў па алгарытме | ***Адукацыйныя***: асваенне паслядоўнасці выканання практычных дзеянняў; асваенне формы самаацэнкі выкананага задання з дапамогай знакаў «+», «–», «?»; асваенне алгарытму складання апавядання аб прадмеце; ***развіваючыя***: развіццё прасторавай арыентацыі на лісце ў клетку; развіццё звязнага маўлення: складанне апавядання па алгарытме; асваенне прыёму параўнання прадметаў па розных прыметах (колеры, форме, велічыні); ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Асэнсаванне паняцця «паслядоўнасць дзеянняў». Вызначэнне паслядоўнасці дзеянняў казачнага героя. Маляванне па клетках у пэўнай паслядоўнасці. Самаацэнка з дапамогай знакаў «+», «–», «?». Маляванне карабліка па алгарытме. Выкарыстанне алгарытму для складання апавядання аб прадмеце (мячы). Параўнанне прадметаў па розных прыметах (форме, колеры, велічыні). Падабенства і адрозненне прадметаў. Параўнанне мячоў па форме, колеры, велічыні. Засваенне паняццяў «аднолькавыя», «падобныя па адной прымеце», «розныя». Самастойная праца вучняў: маляванне мяча, які будзе адрознівацца ад іншых мячоў па нейкай прымеце (па выбары вучня) | ВД, с. 9. ВНД: **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 18—22.** Сюжэтныя малюнкі на тэму «Спартыўныя гульні з мячом»: «Футбол», «Баскетбол», «Валейбол», «Тэніс», «Рэгбі» **Мал. 106.** Алгарытм для складання апавядання аб прадмеце Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); мяч |
| **Чацвёрты вучэбны дзень** | | | | |
| 1 | Асваенне прыёму параўнання: выдзяленне прымет прадметаў на аснове іх супастаўлення | ***Адукацыйныя***: засваенне прыёмаў параўнання і абагульнення; асваенне прыёму мадэлявання колькасных адносін; асваенне прыёмаў самаацэнкі і ўзаемаацэнкі выкананага задання з дапамогай знакаў «+», «–», «?»; | Праверка разумення і прыняцця вучнямі вучэбнай задачы. Асваенне прыёмаў параўнання і абагульнення на аснове вылучэння розных прымет прадметаў. Выдзяленне прымет прадметаў. Успрыманне на слых казкі пра божую кароўку. Адказы на пы- | ВД, с. 13. ВНД: **Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Аловак» **Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка» **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | ***развіваючыя***: развіццё лагічнага мыслення на аснове ўстанаўлення галоўных і другарадных прымет прадметаў; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці пры ажыццяўленні самаацэнкі і ўзаемаацэнкі;<br>***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння; выхаванне ўважлівага стаўлення да навакольных, падобных і непадобных на нас | танні настаўніка па праслуханай казцы.<br>Выказванне сваіх меркаванняў пра герояў казкі і іх учынкі.<br>Удзел у гутарцы аб уважлівым стаўленні да навакольных, якія не падобныя на іншых.<br>Мадэляванне колькасных адносін.<br>Кантрольна-ацэначная дзейнасць з выкарыстаннем знакаў «+», «–», «?». Самаацэнка і ўзаемаацэнка выкананага задання | **Мал. 11.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Праблема»<br>**Мал. 26.** Прадметны малюнак. Божая кароўка без чорных кропак (*ілюстрацыя да казкі*)<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў) |
| 2 | Арыенціроўка па лінейках рабочага радка. Развіццё графічных навыкаў: прамыя лініі, круг і паўкруг | ***Адукацыйныя***: асваенне асноўных правілаў пісьма: захоўванне правільнай пасадкі, нахіленае размяшчэнне сшытка, уменне трымаць ручку; асваенне паняццяў «рабочы радок» і «нерабочы радок», арыентаванне на лісце ў лінейку; знаёмства з новай формай самаацэнкі выкананага задання з дапамогай лінейкі;<br>***развіваючыя***: развіццё дробнай маторыкі пальцаў, каардынацыі кісці рукі; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці пры ажыццяўленні самаацэнкі і ўзаемаацэнкі; развіццё агульнанавучальных уменняў і навыкаў: уменне карыстацца пісьмовымі прыладамі, выконваць правілы гігіены вучэбнай працы;<br>***выхаваўчыя***: выхаванне культуры пісьмовай мовы; асваенне культуры зносін у пары ў працэсе ўзаемаацэнкі | Гульнявая сітуацыя «Віншавальная паштоўка». Практычнае асваенне правілаў пасадкі пры пісьме. Знаёмства з правіламі размяшчэння сшытка на парце. Эксперымент з нахіленым пісьмом. Практычнае асваенне правілаў размяшчэння сшытка на парце. Знаёмства з правільным трыманнем ручкі ў руцэ.<br>Завучванне на памяць верша аб правілах пісьма.<br>Пальчыкавая гімнастыка.<br>Знаёмства з разліноўкай ліста ў лінейку.<br>Увядзенне паняццяў «вузкі (рабочы) радок» і «шырокі (нерабочы, дадатковы) радок», або міжрадковая прастора. Практычная работа: замацаванне паняццяў «рабочы радок» і «дадатковы (нерабочы) радок».<br>Маляванне на лісце з разліноўкай.<br>Развіццё маўлення. Калектыўнае складанне звязнага апавядання.<br>Выкананне малюнкаў па контуры.<br>Кантрольна-ацэначная дзейнасць. Увядзенне новай шкалы для самаацэнкі. Выбар крытэрыю. Ажыццяўленне самаацэнкі. Праверка адэкватнасці самаацэнкі на аснове ацэнкі настаўніка | ВД, с. 14.<br>ВНД:<br>**Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка»<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 8.** Знак «Праца ў пары»<br>**Мал. 28.** Плакат «Правільная пасадка вучня за партай»<br>**Мал. 29.** Плакат «Правільна трымай ручку і размяшчай на парце сшытак» (для вучняў, якія пішуць правай рукой)<br>**Мал. 30.** Плакат «Правільна трымай ручку і размяшчай на парце сшытак» (для вучняў, якія пішуць левай рукой)<br>Віншавальныя паштоўкі з тэкстам, напісаным каліграфічна правільным почыркам; лісты паперы (без разліноўкі) памерам 1/2 або 1/4 фармату А4; калька |
| 3 | Правілы ветлівасці | ***Адукацыйныя***: асваенне правілаў ветлівасці ў розных сітуацыях (у школе, сям'і, транспарце, магазіне); замацаванне школьных правілаў паводзін; | Стварэнне праблемнай сітуацыі. Пошук адказу на пытанне «Якія ветлівыя словы, у якіх сітуацыях трэба выкарыстоўваць?».<br>Асваенне этычных нормаў паводзін. | ВД, с. 15.<br>ВНД:<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 8.** Знак «Праца ў пары»<br>**Мал. 14.** Сюжэтны малюнак «Прывітанне вучнямі адзін аднаго» |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | ***развіваючыя***: развіццё звязнага маўлення вучняў у розных сітуацыях зносін; развіццё здольнасці разумець эмацыянальны стан чалавека па міміцы; ***выхаваўчыя***: выхаванне ўважлівага стаўлення да навакольных; выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Стварэнне гульнявой сітуацыі «Непаслухмяная лялька». Трэніроўка ў вызначэнні эмацыянальнага стану чалавека па яго міміцы. Замацаванне ведаў аб ветлівых словах. Паўтарэнне правілаў ветлівасці ў сітуацыях прывітання і развітання. Паўтарэнне правілаў ветлівасці падчас абеду. Паўтарэнне слоў падзякі. Паўтарэнне правілаў ветлівасці падчас паездкі ў транспарце. Паўтарэнне правілаў ветлівасці ў магазіне. Гульня «Збяры пазлы» | **Мал. 31.** Сюжэтны малюнак «Бабуля выпраўляе ўнукаў у горад» Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); лялька |
| **Пяты вучэбны дзень** | | | | |
| 1 | Выкананне дзеянняў на аснове сістэмы арыенціраў | ***Адукацыйныя***: фарміраванне ўмення вылучаць сістэму арыенціраў для выканання дзеяння; асваенне прыёмаў параўнання і сістэматызацыі; асваенне прыёмаў самаацэнкі і ўзаемаацэнкі выкананага задання з дапамогай знакаў «+», «–», «?»; ***развіваючыя***: развіццё лагічнага мыслення на аснове асваення прыёмаў параўнання і сістэматызацыі; развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання і зрокава-маторнай каардынацыі; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў працэсе самаацэнкі і ўзаемаацэнкі; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Калектыўная пабудова арыентіровачнай асновы разумовых дзеянняў. Арыенціроўка на лісце з разліноўкай у клетку. Графічная дыктоўка (дыягнастычная методыка Д. Б. Эльконіна): 1) маляванне трэніровачнага (першага) узору, самаацэнка; 2) маляванне другога ўзору па інструкцыі настаўніка, самаацэнка; 3) маляванне трэцяга ўзору з самастойным завяршэннем працы, самаацэнка. Рухавая гульня (на выбар настаўніка) | ВД, с. 16. ВНД: **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 8.** Знак «Праца ў пары» Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў) |
| 2 | Асваенне прыёмаў абагульнення і класіфікацыі | ***Адукацыйныя***: асваенне прыёмаў лагічнага запамінання на аснове абагульнення, групоўкі і класіфікацыі; ***развіваючыя***: развіццё лагічнага мыслення на аснове вызначэння заканамернасці ў пабудове рада прадметаў; развіццё звязнага маўлення: складанне апавядання па алгарытме; развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання і зрокава-маторнай каардынацыі: суаднясенне прадметаў з геаметрычнымі фігурамі, лепка; | Асваенне прыёмаў абагульнення, групоўкі і класіфікацыі. Трэніроўка зрокавай памяці і лагічнага запамінання. Групоўка прадметаў па розных прыметах. Вырашэнне праблемнай сітуацыі. Асваенне прыёму лагічнага запамінання. Узаемаправерка. Праца ў пары з размеркаваннем роляў: «вучань» па памяці называе прадметы, «настаўнік» правярае па вучэбным дапаможніку. Складанне апавядання па алгарытме. | ВД, с. 17. ВНД: **Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Алоўак» **Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка» **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 8.** Знак «Праца ў пары» **Мал. 11.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Праблема» **Мал. 107.** Алгарытм для складання апавядання аб прадмеце Каляровыя алоўкі (ва ўсіх |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Вызначэнне заканамернасці ў пабудове рада прадметаў. Практыкаванні для развіцця зрокава-прасторавага ўспрымання і зрокава-маторнай каардынацыі | вучняў); набор геаметрычных фігур (ва ўсіх вучняў); пластылін (ва ўсіх вучняў) |
| 3 | Добрыя ўчынкі ў жыцці чалавека | ***Адукацыйныя***: асваенне маральных і этычных нормаў паводзін; усведамленне маральнага боку ўчынкаў людзей («добрыя» і «дрэнныя» ўчынкі, справы); ***развіваючыя***: развіццё здольнасці да суперажывання, узаемадапамогі, патрэбы да здзяйснення добрых спраў, учынкаў; развіццё зрокава-маторнай каардынацыі (маляванне па пункцірных лініях); ***выхаваўчыя***: выхаванне добразычлівага стаўлення да навакольных; выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Назіранне «Дабро і зло ў казцы». Стварэнне гульнявой сітуацыі. Ацэнка маральнага боку ўчынкаў казачных герояў. Назіранне «Дабро і зло ў жыцці чалавека». Праслухоўванне песні «Доброта» (муз. І. Лучанка, сл. Н. Тулупавай). Удзел у гутарцы пра дабрыню і добрыя ўчынкі. Ацэнка маральнага боку ўчынкаў чалавека. Праектаванне добрых спраў. Развіццё зрокава-маторнай каардынацыі. Самаацэнка. Тэст «Добры — злы». Праца ў парах. Пошук выйсця са складанай сітуацыі. Абыгрыванне сітуацый, у якіх трэба падабраць словы для прабачэння за свой учынак: «Разбіў кубак», «Разліў на стол талерку з супам», «Згубіў каштоўную рэч», «Выпадкова пакрыўдзіў сябра» і інш. | ВД, с. 18.<br>ВНД:<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 8.** Знак «Праца ў пары»<br>**Мал. 32.** Казачны персанаж. Кракадзіл Гена<br>**Мал. 33—37.** Казачны персанаж. Старая Шапакляк. Доктар Айбаліт. Бармалей. Кот Леапольд. Мышаняты з мультфільма «Кот Леапольд»<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); аўдыязапіс песні «Доброта» (муз. І. Лучанка, сл. Н. Тулупавай) |
| **Шосты вучэбны дзень** | | | | |
| 1 | Развіццё зрокава-прасторавай каардынацыі і ўяўлення | ***Адукацыйныя***: асваенне ўмення карыстацца вучэбнымі прыладамі (праца з лінейкай); пашырэнне ўяўленняў вучняў пра жывёл; ***развіваючыя***: развіццё ўяўлення, зрокава-прасторавага ўспрымання і зрокава-маторнай каардынацыі; развіццё сінтаксічнага ладу маўлення: складанне словазлучэнняў па пытаннях настаўніка; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Знаёмства з правіламі выкарыстання лінейкі. Злучэнне кропак з выкарыстаннем лінейкі па алгарытме: 1) прыкладаем лінейку да дзвюх кропак; 2) левай рукой прытрымліваем лінейку, правай рукой злучаем кропкі з дапамогай алоўка. Развіццё зрокавага ўспрымання. Маляванне фігур жывёл па кропках. Удзел у гутарцы аб прадстаўніках жывёльнага свету. Пашырэнне ўяўленняў вучняў пра жывёл. Практыкаванне «Падбірай, называй, запамінай» (развіццё маўлення). Практыкаванне «Хто дзе жыве?» (развіццё маўлення). Гульня-жарт «Бачылі — не бачылі» (развіццё ўяўлення). Практыкаванне-віктарына «А вы ведаеце, хто?» (развіццё пазнавальнай цікавасці) | ВД, с. 19.<br>ВНД:<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 23.** Прадметны малюнак. Певень<br>**Мал. 38.** Прадметны малюнак. Мядзведзь<br>**Мал. 39.** Прадметны малюнак. Заяц<br>**Мал. 40.** Прадметны малюнак. Сабака<br>**Мал. 41.** Прадметны малюнак. Карова<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); вучнёўскія лінейкі (ва ўсіх вучняў); школьная лінейка для працы на дошцы |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 2 | Складанне апавядання па апорных словах | ***Адукацыйныя***: фарміраванне ўмення падбіраць словы з процілеглым значэннем; асваенне ўмення карыстацца вучэбнымі прыладамі (праца з лінейкай); пашырэнне ўяўленняў вучняў аб насякомых (мурашках);<br>***развіваючыя***: развіццё адвольнай увагі; развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання і зрокава-маторнай каардынацыі; развіццё звязнага маўлення: складанне апавядання па апорных словах;<br>***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння; выхаванне беражлівых адносін да навакольнай прыроды | Праслухоўванне аўдыязапісу «Гукі лесу». Назіранне за словамі, якія маюць супрацьлеглае значэнне. Выбар апорных слоў для складання апавядання.<br>Складанне апавядання пра мурашку з апорай на словы з супрацьлеглым значэннем.<br>Пашырэнне ўяўленняў вучняў пра мурашак. Гутарка аб мурашках і ладзе іх жыцця. Знаёмства з літаратурнымі творамі аб мурашках: праслухоўванне байкі І. Крылова «Страказа і Мурашка».<br>Трэніроўка артыкуляцыйнага апарату: развучванне скорагаворкі.<br>Развіццё зрокава-маторнай каардынацыі. Практыкаванне «Дарожкі».<br>Развіццё зрокавага ўспрымання.<br>Рухавая гульня «Хуткая мурашка». Развіццё маўлення. Дыдактычная гульня з мячом «Мяч лаві, назад кідай — адным словам называй» | ВД, с. 20.<br>ВНД:<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 42.** Ілюстрацыя да байкі І. Крылова «Страказа і Мурашка»<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); лінейкі (ва ўсіх вучняў); аўдыязапіс «Гукі лесу»; мяч |
| 3 | Абагульненне і класіфікацыя прадметаў па розных прыметах | ***Адукацыйныя***: асваенне прыёмаў абагульнення і класіфікацыі прадметаў па розных прыметах; асваенне прыёмаў самаацэнкі і ўзаемаацэнкі выкананага задання з дапамогай знакаў «+», «–», «?»; асваенне алгарытму апісання;<br>***развіваючыя***: развіццё лагічнага мыслення на аснове асваення аперацыі суаднясення паняццяў «род» — «від»; развіццё звязнага маўлення на аснове складання апавядання-апісання; развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання і зрокава-маторнай каардынацыі; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў працэсе самаацэнкі і ўзаемаацэнкі;<br>***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння; выхаванне беражлівых адносін да рэчаў (цацак) | Асваенне прыёмаў абагульнення, групоўкі і класіфікацыі прадметаў па розных прыметах.<br>Абагульненне і класіфікацыя прадметаў. Практыкаванне «Знайдзі лішнюю цацку».<br>Праца ў парах: узаемакантроль і ўзаемаацэнка выкананага задання з выкарыстаннем знакаў «+», «–», «?».<br>Калектыўная праверка працы з абгрунтаваннем выбару «лішняй» цацкі.<br>Асваенне аперацыі суаднясення паняццяў «род» — «від».<br>Практыкаванне ў лічэнні прадметаў.<br>Развіццё зрокавага ўспрымання.<br>Складанне апавядання-апісання любімай цацкі па алгарытме: колер — форма — велічыня — адчуванні органаў пачуццяў (якая навобмацак, з якога матэрыялу зроблена і інш.) — як з ёй можна гуляць | ВД, с. 21.<br>ВНД:<br>**Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Алоўак»<br>**Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка»<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 8.** Знак «Праца ў пары»<br>**Мал. 12.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Пастка»<br>**Мал. 107.** Алгарытм для складання апавядання аб прадмеце<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); любімыя цацкі дзяцей |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| **Сёмы вучэбны дзень** | | | | |
| 1 | Асваенне прыёму сэнсавага суаднясення | ***Адукацыйныя***: асэнсаванне і прыняцце вучэбнай задачы; асваенне прыёму самаацэнкі выкананага задання з дапамогай знакаў «+», «–», «?»; ***развіваючыя***: развіццё лагічнага мыслення на аснове асваення прыёму сэнсавага суаднясення; развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання і зрокава-маторнай каардынацыі; развіццё творчага ўяўлення; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў працэсе ажыццяўлення самакантролю і самаацэнкі; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Развіццё ўмення прымаць вучэбную задачу.<br>Практыкаванні ў асваенні прыёму сэнсавага суаднясення.<br>Развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання: маляванне па ўзоры з арыенцірам на дзве ўмовы — колер і вышыня ўзору.<br>Кантрольна-ацэначная дзейнасць: самакантроль і самаацэнка з дапамогай знакаў «+», «–», «?».<br>Дыягностыка адвольнай рэгуляцыі дзеянняў.<br>Развіццё творчага ўяўлення. Разглядванне малюнкаў двух аднолькавых матылькоў. Выкананне вучэбнага задання — кожнага матылька трэба размаляваць па-рознаму.<br>Развіццё прасторавай арыентацыі.<br>Рашэнне задачы на кемлівасць з лічыльнымі палачкамі | ВД, с. 22.<br>ВНД:<br>**Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Алоак»<br>**Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка»<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 11.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Праблема»<br>**Мал. 40.** Прадметны малюнак. Сабака<br>**Мал. 43—45.** Ілюстрацыя да задачы. Хлопчык высокага росту. Хлопчык сярэдняга росту. Хлопчык нізкага росту<br>**Мал. 46.** Ілюстрацыя да задачы. Ліса, заяц і мядзведзь<br>**Мал. 47—51.** Прадметныя малюнкі. Мышка. Сыр. Костачка для сабакі. Норка для мышкі. Кот<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); набор лічыльных палачак (ва ўсіх вучняў) |
| 2 | Рацыянальныя прыёмы завучвання на памяць | ***Адукацыйныя***: асваенне прыёмаў завучвання на памяць; ***развіваючыя***: развіццё памяці на аснове адвольнага запамінання; развіццё звязнага маўлення вучняў: складанне апавядання па сюжэтных малюнках; развіццё творчага ўяўлення; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Завучванне верша з апорай на рухальную памяць.<br>Завучванне верша з апорай на зрокавую памяць па прадметных малюнках.<br>Завучванне верша з апорай на зрокавую памяць па сюжэтных малюнках.<br>Складанне апавядання па сюжэтных малюнках.<br>Дамалёўванне адсутных элементаў малюнка.<br>Узнаўленне вершаў, вывучаных на памяць | ВД, с. 23.<br>ВНД:<br>**Мал. 2.** Сюжэтны малюнак «Першага верасня»<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 8.** Знак «Праца ў пары»<br>**Мал. 10.** Знак «Адказ хорам»<br>**Мал. 27.** Прадметны малюнак. Капялюш<br>**Мал. 47.** Прадметны малюнак. Мышка<br>**Мал. 51.** Прадметны малюнак. Кот<br>**Мал. 52.** Прадметны малюнак. Дом<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў) |
| 3 | Падрыхтоўка рукі да пісьма. Развіццё графічных навыкаў: лініі з закругленнем унізе, паўкруг | ***Адукацыйныя***: асваенне асноўных правілаў пісьма: захаванне правільнай пасадкі, нахіленае размяшчэнне сшытка, уменне трымаць ручку; замацаванне паняццяў «рабочы радок» і «нерабочы радок», арыентаванне на лісце ў лінейку; асваенне формы самаацэнкі выкананага задання з дапамогай лінейкі; ***развіваючыя***: развіццё дробнай маторыкі пальцаў, каардынацыі кісці рукі; развіццё агульнанавучальных | Паўтарэнне правілаў пасадкі пры пісьме, размяшчэння сшытка на парце і правільнага трымання ручкі.<br>Пальчыкавая гімнастыка «Рыбка».<br>Падрыхтоўка да пісьма. Практыкаванне «Рыбка на хвалях».<br>Замацаванне паняццяў «рабочы радок» і «нерабочы радок».<br>Маляванне і пісьмо элементаў літар на лісце з разліноўкай.<br>Маляванне рыбкі па контуры.<br>Пісьмо элементаў літар.<br>Кантрольна-ацэначная дзейнасць: самакантроль і самаацэн- | ВД, с. 24.<br>ВНД:<br>**Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка»<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 28.** Плакат «Правільная пасадка вучня за партай»<br>**Мал. 29.** Плакат «Правільна трымай ручку і размяшчай на парце сшытак» (для вучняў, якія пішуць правай рукой)<br>**Мал. 30.** Плакат «Правільна трымай ручку і размяшчай на парце сшытак» (для вучняў, якія пішуць левай рукой) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | уменняў і навыкаў: умення карыстацца пісьмовымі прыладамі, выконваць правілы гігіены вучэбнай працы; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў працэсе ажыццяўлення самаацэнкі; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры пісьмовай мовы | ка выкананай працы з фіксацыяй на лінейцы самаацэнкі. Развіццё маторыкі рукі. Практыкаванне «Акварыум» | Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); калька (ва ўсіх вучняў) |
| **Восьмы вучэбны дзень** | | | | |
| 1 | Асваенне прыёму сістэматызацыі | ***Адукацыйныя***: фарміраванне ўмення фармуляваць вучэбнае заданне; фарміраванне ўмення выдзяляць сістэму арыенціраў для выканання дзеяння; асваенне прыёмаў самаацэнкі і ўзаемаацэнкі выкананага задання з дапамогай знакаў «+», «–», «?»; ***развіваючыя***: развіццё лагічнага мыслення на аснове прыёмаў пошуку заканамернасцей у радзе прадметаў і іх сістэматызацыі; развіццё прасторавай арыентацыі на лісце ў клетку; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў працэсе самаацэнкі і ўзаемаацэнкі; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Навучанне фармулёўцы вучэбнага задання. Выбар вучнямі формы працы: самастойна, у пары. Самастойная фармулёўка вучнямі вучэбнага задання і яго выкананне. Кантрольна-ацэначная дзейнасць: узаемакантроль і ўзаемаацэнка з дапамогай знакаў «+», «–», «?». Асваенне прыёму сістэматызацыі. Навучанне пошуку заканамернасці. Развіццё прасторавай арыентацыі: замацаванне паняццяў «права», «лева», «верх», «ніз». Гульнявыя практыкаванні па арыенціроўцы на лісце ў клетку. Самастойная фармулёўка вучэбнага задання па арыенціроўцы на лісце ў клетку | ВД, с. 25. ВНД: **Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Алавак» **Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка» **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 8.** Знак «Праца ў пары» **Мал. 9.** Знак «Праца ў групе» **Мал. 11.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Праблема» Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); набор геаметрычных фігур (ва ўсіх вучняў) |
| 2 | Выкананне дзеянняў па правіле, інструкцыі | ***Адукацыйныя***: фарміраванне ўмення выконваць дзеянні ў адпаведнасці з правілам; асваенне прыёмаў самаацэнкі і ўзаемаацэнкі працы з дапамогай знакаў «+», «–», «?»; ***развіваючыя***: развіццё адвольнай увагі; развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання і зрокава-маторнай каардынацыі; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў працэсе самаацэнкі і ўзаемаацэнкі; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Гульня з правіламі (на выбар настаўніка). Выкананне вучэбнага задання з шматкампанентнай інструкцыяй. Фармулёўка вучэбнага задання і яго выкананне. Кантрольна-ацэначная дзейнасць: узаемакантроль і ўзаемаацэнка выкананага задання з выкарыстаннем знакаў «+», «–», «?». Развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання. Практыкаванне «Перамяшчэнне фігур» для развіцця зрокавага ўспрымання | ВД, с. 26. ВНД: **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 8.** Знак «Праца ў пары» Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў) |
| 3 | Правілы зносін у сітуацыі супрацоўніцтва | ***Адукацыйныя***: фарміраванне ўмення ўзгадняць дзеянні з аднакласнікамі; ***развіваючыя***: развіццё адвольнай увагі, рэгуляцыі паводзін; развіццё ўмення | Развіццё ўмення разумець эмацыянальны стан чалавека. Вызначэнне эмацыянальнага стану казачных герояў. Вызначэнне эмацыянальнага стану чалавека па міміцы. | ВД, с. 27. ВНД: **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 8.** Знак «Праца ў пары» **Мал. 53.** Казачны персанаж. Сумны П'еро |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | разумець эмацыянальны стан чалавека па міміцы; развіццё звязнага маўлення — слоўнае выказванне сваіх пачуццяў, жаданняў, уменне весці дыялог на зададзеную тэму; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння; выхаванне станоўчага эмацыянальнага стаўлення да аднагодкаў | Развіццё маўлення, фарміраванне ўмення выказваць свае жаданні. Фарміраванне ўмення весці дыялог на зададзеную тэму. Маўленчая сітуацыя «Давай гуляць разам». Маўленчая сітуацыя «Просьба аб дапамозе». Маўленчая сітуацыя «Віншаванне». Маўленчая сітуацыя «Прабачэнне». Фарміраванне ўмення ўзгадняць дзеянні ў пары | **Мал. 54.** Казачны персанаж. Вясёлы Бураціна **Мал. 55.** Маўленчая сітуацыя «Давай гуляць разам» **Мал. 56.** Маўленчая сітуацыя «Просьба аб дапамозе» **Мал. 57.** Маўленчая сітуацыя «Віншаванне» **Мал. 58.** Маўленчая сітуацыя «Прабачэнне» Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў) |
| **Дзявяты вучэбны дзень** | | | | |
| 1 | Развіццё адвольнай увагі | ***Адукацыйныя***: фарміраванне ўмення выконваць дзеянні ў адпаведнасці з правілам; асваенне незалежнасці вынікаў лічэння ад прасторавага размяшчэння прадметаў, спосабаў рашэння задання; асваенне прыёмаў самаацэнкі і ўзаемаацэнкі выкананага задання з дапамогай знакаў «+», «–», «?»; ***развіваючыя***: развіццё адвольнай увагі; развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў працэсе самаацэнкі і ўзаемаацэнкі; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Выкананне вучэбнага задання са шматкампанентнай інструкцыяй. Калектыўная фармулёўка вучэбнага задання і яго выкананне. Абгрунтаванне варыянтаў рашэння вучэбнай задачы. Кантрольна-ацэначная дзейнасць: узаемакантроль і ўзаемаацэнка выкананага задання з выкарыстаннем знакаў «+», «–», «?». Асваенне колькасных адносін. Асваенне незалежнасці колькасці ад прасторавага размяшчэння. Асваенне незалежнасці колькасці ад спосабаў рашэння задання. Пошук розных спосабаў рашэння задачы. Развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання. Выкладванне геаметрычных фігур з палачак. Рухавая гульня (на выбар настаўніка) | ВД, с. 28. ВНД: **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 8.** Знак «Праца ў пары» Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); лічыльныя палачкі |
| 2 | Алгарытм складання загадак | ***Адукацыйныя***: асваенне прыёмаў абагульнення і класіфікацыі прадметаў; асваенне алгарытму складання загадак; асваенне прыёму мадэлявання колькасных адносін; ***развіваючыя***: развіццё лагічнага мыслення на аснове асваення прыёмаў абагульнення і класіфікацыі прадметаў; развіццё звязнага маўлення і творчага ўяўлення — адгадванне і складанне загадак; развіццё зрокавага ўспрымання; асваенне вопыту кантрольна- | Асваенне прыёму абагульнення і класіфікацыі прадметаў. Калектыўная фармулёўка і выкананне вучэбнага задання. Праца ў парах: узаемакантроль і ўзаемаацэнка. Калектыўная праверка спосабу рашэння. Асваенне алгарытму складання загадак. Пабудова алгарытму загадкі. Выбар загадкі-ўзору. Аналіз узору. Выбар аб'екта для складання загадкі. Пошук характэрных прымет. Пошук асацыяцый. Складанне тэксту загадкі. Заданне на прымяненне атрыманага выніку дзейнасці. | ВД, с. 29. ВНД: **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 8.** Знак «Праца ў пары» **Мал. 25.** Прадметны малюнак. Кураня **Мал. 47.** Прадметны малюнак. Мышка **Мал. 59.** Прадметны малюнак. Кацяня **Мал. 61.** Прадметны малюнак. Сонца Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | ацэначнай дзейнасці ў працэсе ажыццяўлення ўзаемаацэнкі;<br>***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Мадэляванне колькасных адносін. Практычная работа па заданнях настаўніка: «Намалюйце столькі кружкоў, колькі домікаў вы бачыце», «Размалюйце домікі рознымі колерамі. Колькі алоўкаў трэба?».<br>Кантрольна-ацэначная дзейнасць: самаправерка і самаацэнка выкананай працы | |
| 3 | Замацаванне прыёмаў запамінання і ўзнаўлення | ***Адукацыйныя***: асваенне прыёму запамінання на аснове сэнсавай сувязі; асваенне прыёму запамінання на аснове групоўкі прадметаў;<br>***развіваючыя***: развіццё адвольнай увагі і памяці; развіццё лагічнага мыслення на аснове ўстанаўлення сэнсавых сувязей і асваення прыёму групоўкі;<br>***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння | Асваенне прыёму ўстанаўлення сэнсавай сувязі.<br>Запамінанне слоў на аснове сэнсавай сувязі.<br>Падбор пары на аснове сэнсавай сувязі. Устаноўка на запамінанне малюнкаў. Узаемаправерка ў парах.<br>Запамінанне слоў на аснове групоўкі.<br>Практыкаванне ў запамінанні прадметаў без групоўкі.<br>Узаемаправерка ў парах.<br>Групоўка прадметаў.<br>Практыкаванне ў запамінанні прадметаў на аснове групоўкі.<br>Узаемаправерка ў парах. Практыкаванне ў прыгадванні | ВД, с. 30.<br>ВНД:<br>**Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Аловак»<br>**Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка»<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 8.** Знак «Праца ў пары»<br>**Мал. 11.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Праблема»<br>**Мал. 60, 62—68**. Прадметныя малюнкі. Крэсла. Малпа. Лялька. Банан. Шышка. Будзільнік. Сняжынка. Снежная баба<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); палоска тоўстай або каляровай паперы, якая па памеры закрывае два рады прадметаў, прызначаных для запамінання (мінімальны памер 5 × 15 см; ва ўсіх вучняў) |
| **Дзясяты вучэбны дзень** | | | | |
| 1 | Выдзяленне агульных і адметных прымет прадметаў | ***Адукацыйныя***: фарміраванне ўмення выдзяляць прыметы прадметаў; пашырэнне ўяўленняў вучняў пра расліны (кветкі); асваенне алгарытму складання апавядання-апісання;<br>***развіваючыя***: развіццё лагічнага мыслення на аснове прыёмаў абагульнення, групоўкі, класіфікацыі і сістэматызацыі; развіццё звязнага маўлення: складанне апавядання-апісання кветкі па алгарытме;<br>***выхаваўчыя***: выхаванне культуры зносін у працэсе вучэбнага ўзаемадзеяння; выхаванне беражлівых адносін да навакольнай прыроды | Практыкаванне ў абагульненні і класіфікацыі «Знайдзі лішнюю расліну».<br>Практыкаванні ў групоўцы прадметаў па розных прыметах.<br>Практыкаванне ў сістэматызацыі: пабудова лагічнага ланцужка на аснове пошуку заканамернасці.<br>Складанне апавядання-апісання кветкі па алгарытме: форма кветкі расліны — сцябло, на якім размешчаны кветкі і лісце — форма лісця — дзе расце кветка — што яшчэ ведаеце пра кветку.<br>Пашырэнне ўяўленняў вучняў пра свет раслін. Удзел у гутарцы аб асцярожным стаўленні да колераў.<br>Гульня з мячом «А я яшчэ ведаю» (замацаванне назваў кветак) | ВД, с. 31.<br>ВНД:<br>**Мал. 5.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Аловак»<br>**Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка»<br>**Мал. 7.** Знак «Паднятая рука»<br>**Мал. 11.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Праблема»<br>**Мал. 12.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Пастка»<br>**Мал. 108.** Апора для складання апавядання аб расліне (кветцы)<br>Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); мяч |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 2 | Падрыхтоўка рукі да пісьма. Развіццё графічных навыкаў: паралельныя лініі, лініі з пятлёй, паўкруг | ***Адукацыйныя***: асваенне асноўных правілаў пісьма: захаванне правільнай пасадкі, нахіленае размяшчэнне сшытка, уменне трымаць ручку; замацаванне паняццяў «рабочы радок» і «нерабочы радок», арыентаванне на лісце ў лінейку; асваенне формы самаацэнкі выкананага задання з дапамогай лінейкі; ***развіваючыя***: развіццё дробнай маторыкі пальцаў, каардынацыі кісці рукі; развіццё агульнанавучальных уменняў і навыкаў: уменне карыстацца пісьмовымі прыладамі, захоўваць правілы гігіены вучэбнай працы; асваенне вопыту кантрольна-ацэначнай дзейнасці ў працэсе ажыццяўлення самаацэнкі; ***выхаваўчыя***: выхаванне культуры пісьмовай мовы | Паўтарэнне правілаў пасадкі пры пісьме, размяшчэння сшытка на парце і правільнага трымання ручкі. Пальчыкавая гімнастыка «Кветкі». Падрыхтоўка да пісьма. Практыкаванне «Кветкі». Замацаванне паняццяў «рабочы радок» і «нерабочы радок». Маляванне і пісьмо элементаў літар на лісце з разліноўкай. Маляванне кветак па контуры. Пісьмо элементаў літар. Кантрольна-ацэначная дзейнасць: самакантроль і самаацэнка выкананай працы з фіксацыяй на лінейцы самаацэнкі. Развіццё маторыкі рукі. Практыкаванне «Клумба». Гульня «Садоўнік» (замацаванне назваў кветак) | ВД, с. 32. ВНД: **Мал. 6.** Гульнявы персанаж вучэбнага дапаможніка «Ручка» **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 9.** Знак «Праца ў групе» **Мал. 28.** Плакат «Правільная пасадка вучня за партай» **Мал. 29.** Плакат «Правільна трымай ручку і размяшчай на парце сшытак» (для вучняў, якія пішуць правай рукой) **Мал. 30.** Плакат «Правільна трымай ручку і размяшчай на парце сшытак» (для вучняў, якія пішуць левай рукой) Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); калька |
| 3 | Абагульненне ведаў пра правілы дарожнага руху | ***Адукацыйныя***: выяўленне ўяўленняў вучняў пра правілы дарожнага руху; паўтарэнне сігналаў святлафора; паўтарэнне асноўных правілаў пераходу праезнай часткі, дарожных знакаў «Пешаходны пераход», «Падземны пераход»; ***развіваючыя***: развіццё адвольнай увагі і лагічнага мыслення на аснове пошуку неадпаведнасцей; ***выхаваўчыя***: выхаванне бяспечных паводзін на дарозе | Удзел у гутарцы пра правілы дарожнага руху. Паўтарэнне ведаў пра сігналы святлафора. Паўтарэнне правілаў пераходу праезнай часткі. Знаёмства з дарожнымі знакамі «Пешаходны пераход», «Падземны пераход». Развіццё адвольнай увагі. Малюнак-«небыліца». Пошук недарэчных дэталяў малюнка. Замацаванне правілаў дарожнага руху на школьным участку або вуліцы. Калектыўны пераход дарогі ва ўстаноўленым месцы ў суправаджэнні педагога | ВД, с. 33. ВНД: **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 12.** Знак для арганізацыі вучэбнай сітуацыі «Пастка» Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў) |
| **Адзінаццаты вучэбны дзень** | | | | |
| 1 | Узаемаразмяшчэнне прадметаў у прасторы | ***Адукацыйныя***: асваенне прыёмаў абагульнення і класіфікацыі прадметаў па розных прыметах; ***развіваючыя***: развіццё лагічнага мыслення на аснове асваення аперацыі суаднясення паняццяў «род» — «від»; развіццё зрокава-прасторавага ўспрымання і арыентацыі ў памяшканні і на лісце паперы; развіццё сінтаксічнага ладу маўлення: пабудова маўленчых канструкцый з прыназоўнікам «за», «перад», «на», | Паўтарэнне паняццяў «права», «лева», «ніз», «верх». Гульня «Знайдзі сваё месца»: выкананне каманд педагога па арыенціроўцы ў прасторы («за», «перад», «паміж», «справа», «злева» і інш.). Змяненне ўмоў гульні — самастойная пабудова маўленчых канструкцый з прыназоўнікам «за», «перад», «паміж», «справа», «злева» і інш. Асваенне прыёмаў абагульнення, групоўкі і класіфікацыі прадметаў на аснове суаднясення паняццяў «род» — «від». | ВД, с. 34. ВНД: **Мал. 7.** Знак «Паднятая рука» **Мал. 10.** Знак «Адказ хорам» Каляровыя алоўкі (ва ўсіх вучняў); 2—3 цацкі для гульні ў хованкі |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | нанне вымаўлення зычных гукаў: лапа — ліпа, кот — кіт), «Наадваротка» (зубраня — зебраня) | |
| 6 | Зычныя гукі і іх літары. **Пазакласнае чытанне**. Кніжкі-маляванкі «Мая першая кніга» | 1 | Фарміраванне фанематычнага слыху, развіццё ўмення вылучаць зычны ў пачатку слова; развіццё ўмення адрозніваць у вуснай мове цвёрдыя і мяккія зычныя гукі, вучыць разумець іх сэнсаадрознівальную ролю; развіццё цікаўнасці да кнігі, фарміраванне ўмення арыентавацца ў кнізе (вокладка, назва кнігі) | Практыкаванні ў вылучэнні гукаў у слове, зычных гукаў, цвёрдых і мяккіх зычных гукаў. Практыкаванні «Пазнач гук», «Вызнач першы гук», «Так ці не» (вызначэнне зычных гукаў), «Чытаем па малюнках» (па першых гуках выяў на прадметных малюнках угадаць слова. Напрыклад, **м**ышка — **а**пельсін — **к**ніга, атрымаем слова **МАК**). Знаёмства з кніжкамі-маляванкамі серыі «Мая першая кніжка», разгляд кніжак, чытанне вершаў, адказы на пытанні па прачытаным. Афармленне выставы кніг «Мая першая кніга» | 10 |
| **Букварны (асноўны) перыяд (70 г)** | | | | | |
| 7 | Гукі [с], [с’]. Літары **С**, **с** | 1 | Знаёмства вучняў з гукамі [с], [с’], і літарай, якая іх абазначае, садзейнічаць іх трываламу засваенню, развіццё фанематычнага слыху, фарміраванне ўмення выдзяляць гукі ў мове, узбагачэнне слоўнікавага запасу вучняў | Падрыхтоўка да дзялення слоў на склады: гульнёвае практыкаванне «Лясная школа» (Хто ў лесе жыве? Лі...(-са), во...(-жык). Адгадванне загадак. Вылучэнне гукаў [с], [с’] у словах, гукавы аналіз слоў, работа са схемамі абазначэння цвёрдага і мяккага зычнага гука. Знаёмства з літарамі **С**, **с**. Адпрацоўка правільнага вымаўлення гукаў (дыдактычная гульня «Помпа», паветра выходзіць з помпы і свішча: с-с-с). Праца над скорагаворкамі, разгадванне рэбуса | 11 |
| 8 | Гукі [п], [п’]. Літары **П**, **п** | 1 | Знаёмства вучняў з гукамі [п], [п’] і літарай, якая іх абазначае, развіццё ўмення адрозніваць гукі [п], [п’] і літары **п**, **П** ад іншых гукаў і літар; садзейнічаць замацаванню графічнага вобраза друкаванай літары; узбагачэнню слоўнікавага запасу, развіццю вуснага маўлення вучняў | Выдзяленне гукаў [п], [п’] у словах, гукавы аналіз слоў, графічны аналіз літары **П**. Гульнёвае практыкаванне «Пачуй гук» (вылучэнне слоў з гукамі [п], [п’]). Калектыўнае састаўленне апавядання па малюнку, адказы на пытанні, падбор загалоўка да тэксту | 12 |
| 9 | Гукі [м], [м’]. Літары **М**, **м** | 1 | Знаёмства вучняў з гукамі [м], [м’] і літарай, якая іх абазначае, развіццё ўмення адрозніваць гукі [м], [м’] і літары **м**, **М** ад іншых гукаў і літар; замацаванне вывучаных літар, развіццё маўлення вучняў шляхам складання апавядання па сюжэтным малюнку, слыхавых успрымання, узбагачэнне слоўнікавага запасу вучняў па тэме «Транспарт» | Гульнёвае практыкаванне «Магазін» (пакупка прадуктаў, у словах-назвах якіх ёсць гукі [с], [с’], [п], [п’] з апорай на прадметныя малюнкі. Выдзяленне гукаў [м], [м’] у словах, гукавы аналіз слоў, графічны аналіз літары **М**. Работа па малюнку, адказы на пытанні па тэме «Транспарт. Яго віды». Гульнёвае практыкаванне «Я ў транспарце» (абмеркаванне з вучнямі правілаў паводзін у транспарце) | 13 |
| 10 | Гук [т]. Літары **Т**, **т** | 1 | Пазнаёміць вучняў з гукам [т] і літарамі **Т**, **т**, акцэнтаваць увагу на тым, што гук [т] у словах ніколі не бывае мяккім; садзейнічаць замацаванню графічнага вобраза друкаванай літары; развіваць маўленне вучняў | Паўтарэнне: паказ літар, якімі абазначаюцца гукі [с], [с’], [п], [п’], [м], [м’], завучванне скорагаворак. Практыкаванні ў вымаўленні гука [т], выдзяленні яго ў словах, гукавы аналіз гука і слоў, графічны аналіз літары **Т**. Калектыўнае складанне тэксту па малюнку, падбор | 14—15 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | загалоўка. Гульнёвае практыкаванне «Чуйныя вушкі» (знаходжанне слоў з зададзеным гукам). Дыдактычная гульня «Хто першы» (паставіць цацкі так, каб патрэбны гук быў у пачатку слова, у канцы слова...). Разгадванне рэбуса (буквар, с. 15) | |
| 11 | Гукі [л], [л']. Літары **Л**, **л** | 1 | Знаёмства з гукамі [л], [л'] і літарамі **Л**, **л**, развіццё ўмення адрозніваць гукі [л], [л'] у словах; садзейнічаць замацаванню графічнага вобраза друкаванай літары **л**; развіваць вуснае маўленне вучняў | Паўтарэнне: гульнёвае практыкаванне «Не памыліся» (адрозненне на слых і ў вымаўленні цвёрдых і мяккіх зычных), чытанне слоў па схемах-палосках. Адгадванне загадак, выдзяленне гукаў [л], [л'] у словах, адпрацоўка вымаўлення гукаў, падбор слоў з дадзеным гукам, графічны аналіз літары **Л** | 16 |
| 12 | Гукі [н], [н']. Літары **Н**, **н**. **Пазакласнае чытанне**. Прыказкі — моўны скарб нашага народа | 1 | Пазнаёміць з гукамі [н], [н'] і літарамі **Н**, **н**; садзейнічаць замацаванню графічнага вобраза друкаванай літары **Н**, вучыць абагульняць і групаваць прадметы па адметных прыметах, развіваць лагічнае мысленне, вуснае маўленне вучняў | Адгадванне загадак, выдзяленне гукаў [н], [н'] у словах, адпрацоўка вымаўлення гукаў, падбор слоў з дадзеным гукам, графічны аналіз літары **Н**. Групоўка прадметаў па адметных прыметах. Дыдактычная гульня «У краме». У краме можна набыць толькі тыя рэчы, у якіх ёсць гукі [н], [н']. Знаёмства з відам вуснай народнай творчасці — прыказкамі. Тлумачэнне прыказак. Гульнёвае практыкаванне «Збяры прыказку» (вучні знаходзяць працяг прыказкі, злучаюць яе пачатак і канцоўку, з атрыманымі прыказкамі састаўляюць невялікія апавяданні). Завучванне прыказак. Групоўка прыказак па тэмах «Сяброўства», «Вучоба» і г. д. | 17 |
| 13 | Гук [ш]. Літары **Ш**, **ш** | 1 | Пазнаёміць вучняў з гукам [ш], літарамі **Ш**, **ш**, звярнуць увагу на тое, што гук [ш] у словах ніколі не бывае мяккім; садзейнічаць замацаванню графічнага вобраза друкаванай літары **ш**; развіваць уменне класіфікаваць прадметы, вучыць разгадваць рэбусы, садзейнічаць замацаванню вывучаных літар праз чытанне палосак слоў з пачатковымі літарамі ў іх, развіццё маўлення вучняў | Выдзяленне гука [ш] у словах, адпрацоўка вымаўлення гука [ш], дагаворванне чыстагаворак, развучванне скорагаворак. Гульнёвае практыкаванне «Чуйныя вушкі». Знаёмства з літарамі **Ш**, **ш**. Класіфікацыя прадметаў па адметных прыметах. Чытанне слоў па палосках-схемах. Разгадванне рэбусаў. Дыдактычная гульня «Адзенне»: апрануць можна толькі тыя рэчы, у якіх ёсць гук [ш] (шалік, шкарпэткі...) | 18—19 |
| 14 | Гук [р]. Літары **Р**, **р** | 1 | Пазнаёміць вучняў з гукам [р], звярнуць увагу на тое, што гук [р] у словах ніколі не бывае мяккім; садзейнічаць замацаванню графічнага вобраза друкаванай літары **р**, адпрацоўваць уменне вылучаць першыя зычныя ў словах, садзейнічаць замацаванню вывучаных літар, развіццю маўлення вучняў | Выдзяленне гука [р] у словах, адпрацоўка вымаўлення гука [р], дагаворванне чыстагаворак, развучванне скорагаворак. Гульнёвае практыкаванне «Чуйныя вушкі». Дыдактычная гульня «Зямля — вада — паветра» (дзеці падбіраюць словы з гукам [р], у ходзе гульні «прысядаюць», «плывуць», «ляцяць» у залежнасці ад лексічнага значэння слова. Напрыклад, рысь — рыба — арол). Знаёмства з літарамі **Р**, **р**, графічны аналіз літар. Работа па малюнку, вуснае маляванне на тэму «На рыбалцы» | 20 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 15 | Гукі [к], [к']. Літары **К**, **к** | 1 | Пазнаёміць вучняў з гукамі [к], [к'] і адпаведнай літарай; садзейнічаць замацаванню графічнага вобраза друкаванай літары **к**; развіваць фанематычны слых, удакладніць уяўленне пра свойскіх жывёл, пашыраць слоўнікавы запас вучняў | Выдзяленне гукаў [к], [к'] у словах, адпрацоўка вымаўлення гукаў, развучванне скорагаворак, вершаў, адгадванне вершаваных загадак. Знаёмства з літарамі **К**, **к**. Гульнёвае практыкаванне «Чуйныя вушкі». Дыдактычная гульня «У краме». Разгадванне рэбусаў. Складанне невялікага апавядання па малюнку па тэме «Свойскія жывёлы» | 21 |
| 16 | Гук [д]. Літары **Д**, **д** | 1 | Пазнаёміць з гукам [д] і адпаведнай літарай, звярнуць увагу на тое, што гук [д] у словах ніколі не бывае мяккім; садзейнічаць замацаванню графічнага вобраза друкаванай літары **д**, замацаванню вывучаных літар праз чытанне палосак слоў з пачатковымі літарамі ў іх, узбагачэнню слоўнікавага запасу вучняў | Выдзяленне гука [д] у словах, адпрацоўка вымаўлення гука [д], дагаворванне чыстагаворак, развучванне скорагаворак, графічны аналіз літары **Д**. Складанне сказаў па прадметных малюнках буквара. Гульнёвае практыкаванне «А ў нас на двары» (вучні называюць словы-назвы з гукам [д]). Адгадванне рэбуса (драбіны). Чытанне слоў па лентах-схемах. Гульнёвае практыкаванне «Пазнай літару» | 22—23 |
| 17 | Аналіз слоў па першым і апошнім гуках | 1 | Развіваць фанематычны слых, фарміраваць уменне вызначаць паслядоўнасць гукаў у слове, садзейнічаць замацаванню вывучаных літар праз чытанне палосак слоў з першай і апошняй літарамі ў іх, развіццю маўленчых здольнасцей вучняў | Чытанне слоў па палосках, адгадванне загадак па прадметных малюнках у буквары. Апісанне прадметаў, разгадванне загадак. Гульнёвыя практыкаванні «Хто першы», «Не памыліся». Слоўнае маляванне па прадметных малюнках | 24—25 |
| 18 | Склад. Падзел слоў на склады. **Пазакласнае чытанне**. Загадкі з роднай хаткі | 1 | Адпрацоўваць уменне дзяліць словы на склады, вылучаць асобна пэўны склад; узбагачаць лексіку вучняў (*свойская жывёла*, *птушаняты*, *свойскія птушкі*), знаёмства вучняў з загадкамі, развіваць мысленне, кемлівасць, уменне адгадваць загадкі, моўныя здольнасці вучняў | Гульнёвае практыкаванне «Чуйныя вушкі» (вылучэнне гукаў, якімі адрозніваюцца словы). Падрыхтоўка да дзялення слоў на склады: гульнёвыя практыкаванні «Птушкі» (бу...(-сел), сі-ні-...(-ца), «Хто ў лесе жыве». Падзел слоў на склады. Дыдактычная гульня «Знайдзі адгадку» (па прадметных малюнках у падручніку). «Чытанне» слоў па схемах пад малюнкамі. Складанне апавядання па сюжэтным малюнку. Гульнёвае практыкаванне «Хто ў каго?» (словы — назвы маладых істот), падзел на склады. Знаёмства з рознымі відамі загадак: загадкі-пытанні, загадкі-рыфмаванкі, загадкі-апісанні і іншыя. Спаборніцтва паміж вучнямі «Разгадай» (адгадванне загадак) | 26—27 |
| 19 | Націск. Вызначэнне націскнога складу | 1 | Даць агульнае ўяўленне пра націск у слове, фарміраваць уменне вызначаць месца націску ў слове; паказаць значэнне націску для аб'яднання гукаў у слове, удасканальваць культуру маўлення: уменне правільна вымаўляць словы, ставіць у іх націск | Знаёмства з націскам, з націскнымі складамі. Гульнёвыя практыкаванні «У лесе» (паклічце тых, хто ў лесе), «Дары восені», адгадванне загадак, падзел слоў на склады, пастаноўка націску. Слоўнае маляванне па тэме «Восеньскія дары», разгадванне загадак па тэме ўрока | 28 |
| 20 | Літары **А**, **а** | 1 | Паказаць функцыянальнае адрозненне зычных і галосных гукаў. Пазнаёміць з галоснымі літарамі **А**, **а**, фарміраваць навык чытання адкрытага складу | Паўтарэнне: гульнёвае практыкаванне «Закончы слова» (ка-... ка-ша, ка-за). Выдзяленне гука [а] ў словах, адпрацоўка вымаўлення гука [а], дагаворванне чыстагаворак. Гульнёвае практыкаванне | 29—30 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | з літарай **а**, двухскладовых слоў-імён, адпрацоўваць пытальную інтанацыю: павышэнне голасу на першым націскным складзе, развіваць маўленне вучняў | «Чуйныя вушкі». Знаёмства з літарамі **А**, **а**, іх графічны аналіз. Увядзенне тэрміна «галосны гук». Чытанне складоў і слоў з гукам [а], падзел слоў на склады, чытанне слоў з «фіраначкай». Гульнёвае практыкаванне «Баскетбол» («ігракі» закідваюць мяч, г. зн. спалучаюць зычныя з галоснай **а**, вымаўляюць склад, затым двухскладовыя словы) | |
| 21 | Літары **Я**, **я** | 1 | Пазнаёміць з літарай **я**, якая абазначае мяккі склад (у пачатку слова і пасля галоснага), развіваць фанематычны слых; фарміраваць навык чытання слоў, сказаў з вывучанымі літарамі, садзейнічаць развіццю вуснага маўлення вучняў праз работу з тэкстам | Знаёмства з літарай **я**, якая абазначае мяккі склад (у пачатку слова і пасля галоснага). Чытанне слоў і тэкстаў з вывучанымі літарамі. Складанне сказаў. Гульнёвае практыкаванне «У краме» (набываем рэчы, якія пачынаюцца з «я»). Практыкаванні ў падзеле слоў на склады, пастаноўцы націску ў словах, падборы двух-, трохскладовых слоў | 31 |
| 22 | Галосны гук [у], літары **У**, **у** | 1 | Пазнаёміць з галосным гукам [у], літарамі **У**, **у**; садзейнічаць разуменню таго, што літара **У** можа быць і складам у слове і самім словам; адпрацоўваць нормы літаратурнай мовы, замацоўваць уменне даваць характарыстыкі вывучаным гукам, вылучаць патрэбны гук у слове; фарміраваць уменне адказваць на пытанні да тэксту | Выдзяленне гука [у] ў словах, адпрацоўка вымаўлення гука [у], гукавы аналіз, дагаворванне чыстагаворак, адгадванне вершаваных загадак. Знаёмства з літарамі **У**, **у**. Гульнёвае практыкаванне «Чуйныя вушкі». Работа па малюнку, гульнёвае практыкаванне «Што ў каго», «чытанне» сказаў, аналіз сказаў па колькасці слоў у іх. Гульнёвае практыкаванне «Паравоз», «чытанне» сказа пад малюнкам. «Чытанне» сказаў, тэксту | 32—33 |
| 23 | Галосны гук [і]. Літары **І**, **і** | 1 | Пазнаёміць з галосным гукам [і], літарамі **І**, **і**; садзейнічаць разуменню таго, што літара **і** можа быць і складам у слове і асобным словам, адпрацоўваць уменне чытаць сказы з вывучанымі літарамі; развіваць вуснае маўленне вучняў | Выдзяленне гука [і] ў словах, адпрацоўка вымаўлення гука [і], гукавы аналіз, дагаворванне чыстагаворак, адгадванне вершаваных загадак. Знаёмства з літарамі **І**, **і**. Падбор слоў з дадзеным гукам. Гульнёвыя практыкаванні «Чуйныя вушкі», «Следапыт» (адрозненне на слых галосных і зычных гукаў). Чытанне сказаў (і — склад слова, і — слова). Вусныя разважанні на тэму «Мая сям'я», чытанне сказаў | 34—36 |
| 24 | Гукі [х], [х']. Літары **Х**, **х**. **Пазакласнае чытанне**. Ехалі з горкі скарагаворкі | 1 | Пазнаёміць вучняў з гукамі [х], [х'] і літарамі **Х**, **х**; вучыць на слых адрозніваць гукі [х], [х'] у словах; практыкаваць у падборы прымет да пэўнага прадмета; садзейнічаць выпрацоўцы навыку чытання, правільнаму вымаўленню гукаў беларускай мовы, развіццю вуснага маўлення вучняў праз работу з тэкстам | Выдзяленне гукаў [х], [х'] у словах, адпрацоўка вымаўлення гукаў, развучванне скарагаворак, чыстагаворак, адгадванне вершаваных загадак, падбор слоў з дадзеным гукам. Знаёмства з літарамі **Х**, **х**. Чытанне складоў па складовай табліцы: «Цягнічок» (чытанне складоў па гарызанталі), «Башня» (па вертыкалі), «З купіны на купіну». Адгадванне рэбуса. Прагаворванне скарагаворак. Гульнёвыя практыкаванні «Хто хутчэй» (адпрацоўка хуткага і правільнага вымаўлення скарагаворак), «Збяры скарагаворкі», «Пакажы тое, аб чым гаворыш» (вучні паўтараюць скарагаворкі і імітуюць рухі) | 37 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 25 | Гукі [б], [б’]. Літары **Б**, **б** | 1 | Пазнаёміць з гукамі [б], [б’] і літарай, якая іх абазначае; вучыць на слых адрозніваць гукі [б], [б’] у словах, адпрацоўваць навык чытання трохлітарных слоў, уменне складаць сказы з прачытанымі словамі; пашыраць слоўнікавы запас вучняў | Выдзяленне гукаў [б], [б’] у словах, адпрацоўка вымаўлення гукаў, развучванне скорагаворак, вершаў, адгадванне вершаваных загадак, рэбусаў. Знаёмства з літарамі **К**, **к**. Чытанне складоў, слоў, апавядання. Адказы на пытанні па прачытаным. Гульнёвае практыкаванне «Засялі хатку». Аналіз і чытанне слоў, якія адрозніваюцца адным гукам | 38—39 |
| 26 | Чытанне слоў з «фіраначкай», складоў з **у**, **а** ў зліцці | 1 | Фарміраваць навык чытання адкрытага складу з літарамі **а**, **у**; адпрацоўваць літарны аналіз і сінтэз друкаванага слова, выкарыстоўваючы прыём «фіранкі»; узбагачаць слоўнікавы запас вучняў, адпрацоўваць навык чытання трохлітарных слоў з **а**, **у** ў сярэдзіне, развіваць вуснае маўленне вучняў | Чытанне слоў у слупках, выбарачнае чытанне знаёмых слоў, падзел слоў на склады. Гульнёвае практыкаванне «Будаўнік» (прачытаць словы, якія склаў хлопчык), «Канструктары» (на наборным палатне набраць новыя словы). Чытанне слоў з «фіраначкай», тэксту «Я дудар». Падзел слоў на склады, вызначэнне націску ў словах | 40—41 |
| 27 | Чытанне слоў тыпу «лук — сук», «каса — раса» | 1 | Фарміраваць навык чытання слоў тыпу «лук — сук», «каса — раса», адпрацоўваць уменне чытаць сказы з вывучанымі літарамі; развіваць вуснае маўленне вучняў | Гульнёвае практыкаванне «Канструктары» (скласці словы адпаведна схеме лук — сук, каса — раса). Чытанне тэксту, адказы на пытанні па тэксце, разгадванне рэбусаў, слоўнае маляванне па прачытаным. Гульнёвае практыкаванне «Што лішняе» (сарока, верабей, <u>акунь</u>, бусел) | 42—43 |
| 28 | Гукі [з], [з’]. Літары **З**, **з** | 1 | Пазнаёміць з гукамі [з], [з’] і літарамі **З**, **з**; вучыць на слых адрозніваць гукі [з], [з’] у словах; пашыраць уяўленне вучняў пра свойскіх і дзікіх жывёл; узбагачаць слоўнікавы запас вучняў | Выдзяленне гукаў [з], [з’] у словах, адпрацоўка вымаўлення гукаў, развучванне скорагаворак, чыстагаворак, адгадванне вершаваных загадак, падбор слоў з дадзеным гукам. Знаёмства з літарамі **З**, **з**. Чытанне складоў, слоў, сказаў. Адказы на пытанні па тэксце. Гульнёвае практыкаванне «Слова заблудзілася» (успрыманне на слых і групоўка слоў па пэўнай тэме) | 44 |
| 29 | Галосны гук [о]. Літары **О**, **о** | 1 | Пазнаёміць з галосным гукам [о], літарамі **О**, **о**; адпрацоўваць навык беглага чытання складоў з **о**, слоў з вывучанымі літарамі, пашыраць лексічны запас, развіваць маўленне вучняў | Выдзяленне гука [о] ў словах, адпрацоўка вымаўлення гука, развучванне скорагаворак, чыстагаворак, адгадванне вершаваных загадак. Знаёмства з літарамі **О**, **о**. Чытанне складоў, слоў з «фіраначкай». Адгадванне рэбуса. Гульнёвае практыкаванне «Так ці не» (на падставе прадметных малюнкаў) | 45—46 |
| 30 | Чытанне складоў з **о** ў зліцці. **Пазакласнае чытанне**. Калыханкі | 1 | Адпрацоўваць літарны аналіз і сінтэз друкаванага слова, выкарыстоўваючы прыём «фіранкі»; навык чытання тэкстаў з правільным інтанацыйным афармленнем сказаў; пазнаёміць з відам вуснай народнай творчасці — калыханкамі, развіваць маўленне вучняў | Гульнёвае практыкаванне «А ці О» (называюцца словы парамі, якія адрозніваюцца гукамі [а], [о]). Чытанне слоў з «фіраначкай», сказаў, тэкстаў.Назіранне і чытанне слоў, якія адрозніваюцца толькі адной літарай. Чытанне вершаў. Слоўнае маляванне па прачытаным. Складанне невялікага апавядання на тэму «Гуляем разам». Гульнёвае практыкаванне «Што пераблытаў мастак». Развучванне калыханак. Дыдактычная гульня «Я ляльку спаць кладу». Прыдумванне калыханак (Баю-баюшкі-баю, ... на краю, ... сядзяць, ... маўчаць) | 47—49 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 31 | Гукі [в], [в’]. Літары **В**, **в** | 1 | Фарміраваць уменне гукавога аналізу слоў, развіваць фанематычны слых дзяцей, садзейнічаць засваенню літар **В**, **в**; адпрацоўваць навык чытання невялікіх тэкстаў, практыкаваць у вусным пераказе тэксту, садзейнічаць развіццю вуснага маўлення вучняў праз работу з тэкстам | Выдзяленне гукаў [в], [в’] у словах, адпрацоўка вымаўлення гукаў, развучванне скорагаворак, чыстагаворак, адгадванне вершаваных загадак, падбор слоў з дадзеным гукам. Знаёмства з літарамі **В**, **в**. Чытанне складоў, слоў, сказаў, тэксту. Адказы на пытанні па тэксце з апорай на малюнак. Гульнёвае практыкаванне «У лесе» (знаходзім словы — назвы прадметаў з гукамі [в], [в’] у пачатку слова) | 50—51 |
| 32 | Гукі [г], [г’]. Літары **Г**, **г** | 1 | Пазнаёміць з гукамі [г], [г’] і літарамі **Г**, **г**; развіваць фанематычны слых: практыкаваць у складагукавым аналізе слоў, у вылучэнні ў словах гукаў, якія вывучаюцца, іх характарыстыцы; выпрацоўваць аўтаматызм чытання трохлітарных слоў; развіваць маўленне вучняў праз складанне сказаў з прачытанымі словамі і адказаў на пытанні па тэксце з апорай на малюнак | Гульнёвае практыкаванне «Адбівай мяч» (вымаўленне парамі цвёрдых і мяккіх зычных гукаў). Выдзяленне гукаў [г], [г’] у словах, адпрацоўка вымаўлення гукаў, падбор слоў з дадзеным гукам. Знаёмства з літарамі **Г**, **г**. Чытанне складоў, слоў, сказаў, тэксту. Адказы на пытанні па прачытаных сказах, тэкстах. Гульнёвае практыкаванне «Словы згубіліся» (вучням неабходна працягнуць сказ. У лесе растуць...) | 52—54 |
| 33 | Гук [ч]. Літары **Ч**, **ч** | 1 | Пазнаёміць з гукам [ч], звярнуць увагу на тое, што гук [ч] у словах ніколі не бывае мяккім; фарміраваць навык правільнага вымаўлення гэтага гука ў словах; удасканальваць навык чытання слоў з вывучанымі літарамі, садзейнічаць свядомаму ўспрыманню прачытанага, развіваць вуснае маўленне вучняў праз складанне сказаў па малюнку | Выдзяленне гука [ч] у словах, адпрацоўка вымаўлення гука, падбор слоў з дадзеным гукам. Знаёмства з літарамі **Ч**, **ч**. Чытанне складоў, слоў, сказаў, тэксту. Адказы на пытанні па прачытаных сказах, тэкстах. Адгадванне рэбуса. Складанне сказаў па малюнку, самастойнае прыдумванне падзей да адлюстраваных. Гульнёвае практыкаванне «Наадварот» (цёплы — халодны, блізкі...). Слоўнае маляванне «У каго якая хатка» | 55-56 |
| 34 | Літара **ы** | 1 | Пазнаёміць з галосным гукам [ы], літарай **ы**; даць першаснае ўяўленне пра ўтварэнне множнага ліку (адзін прадмет — многа прадметаў); дапамагчы адчуць артыкуляцыйнае і гукавое адрозненне пар слоў тыпу «шар — шары», удасканальваць хуткасць чытання трохлітарных слоў па аналогіі; адпрацоўваць хуткасць успрымання адкрытых складоў; выпрацоўваць інтанацыйна правільнае афармленне сказаў пры чытанні; развіваць звязнае вуснае маўленне пры складанні тэксту па сюжэтным малюнку | Выдзяленне гука [ы] ў словах, адпрацоўка вымаўлення гука, падбор слоў з дадзеным гукам. Гульнёвыя практыкаванні «Рэха» (вылучэнне галосных са складоў), «Чуйныя вушкі» (вылучэнне гукаў, якімі адрозніваюцца словы). Знаёмства з літарай **ы**. Чытанне складоў, слоў, сказаў, тэксту. Гульнёвае практыкаванне «Адзін — многа» (дом — дамы, дуб — ...). Работа над інтанацыйным афармленнем сказаў. Дакладнае вымаўленне клічных сказаў. Адказы на пытанні па прачытаных сказах, тэкстах. Адгадванне рэбуса. Гутарка па правілах дарожнага руху «Як трэба пераходзіць вуліцу». Гульнёвае практыкаванне «Лато» — складанне слоў са складоў. Слоўнае маляванне | 57—58 |
| 35 | Складанне апавядання па малюнку. Чытанне тэксту «Вада і вуда» | 1 | Вучыць складаць апавяданне па малюнку; выпрацоўваць навык чытання; развіваць уменне вылучаць націскныя склады ў слове; паказаць сэнсаадрознівальную ролю націску, развіваць звязнае вуснае маўленне пры складанні тэксту па сюжэтным малюнку | Гульнёвыя практыкаванні «Птушкі», «Хто ў лесе жыве» (падзел слоў на склады, націск у словах). Знаёмства з апавяданнямі. Чытанне, адказы на пытанні. Складанне апавядання па сюжэтных малюнках на тэму «На рыбалцы». Самастойнае прыдумванне наступных падзей да ўжо адлюстраваных. Гульнёвае практыкаванне «Што тут лішняе» (групоўка слоў — назваў прадметаў па тэме «Рыбы») | 59—60 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 36 | Чытанне тэксту «У шалашы». **Пазакласнае чытанне**. Беларуская народная казка «Каток — залаты лабок» | 1 | Адпрацоўваць тэхніку чытання, выпрацоўваць інтанацыйна правільнае афармленне сказаў пры чытанні; развіваць уменне разумець прачытанае і адказваць на пытанні па змесце, узбагачаць слоўнікавы запас вучняў, садзейнічаць развіццю вуснага маўлення вучняў праз работу з тэкстам | Чытанне тэкстаў. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый у адпаведнасці з маўленчай сітуацыяй. Састаўленне апавядання па сюжэтных малюнках на тэму «У лесе». Гульнёвае практыкаванне «Лабірынт» (работа ў парах, складанне і чытанне слоў тыпу «дом — дым»). Гульнёвае практыкаванне «Словы заблудзіліся» (тэма «Ягады»), разгадванне загадак па дадзенай тэме. Абмеркаванне прачытанай казкі «Каток — залаты лабок», інсцэніроўка ўрыўкаў казкі | 61—62 |
| 37 | Гук [ж]. Літары **Ж**, **ж** | 1 | Пазнаёміць вучняў з зычным гукам [ж], графічным вобразам літар **Ж**, **ж**; звярнуць увагу на тое, што гук [ж] у словах ніколі не бывае мяккім; адпрацоўваць навык чытання слоў знаёмай складова-літарнай структуры, тэкстаў, уменне правільна інтанаваць сказы, адказваць на пытанні па змесце прачытанага; садзейнічаць развіццю вуснага маўлення вучняў праз работу з тэкстам пры складанні тэксту па сюжэтным малюнку | Выдзяленне гука [ж] у словах, адпрацоўка вымаўлення гука, падбор слоў з дадзеным гукам. Знаёмства з літарамі **Ж**, **ж**. Чытанне складоў, слоў з «фіраначкай», тэксту. Праца над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні, пераказ. Чытанне па асобах. Адпрацоўка выразнага чытання клічных сказаў. Падзел слоў на склады. Гульнёвае практыкаванне «Так ці не?» (словы з гукам [ж]). Складанне невялікага апавядання па малюнку | 63—64 |
| 38 | Чытанне слоў з **ы** ў зліцці | 1 | Адпрацоўваць хуткасць успрымання адкрытых складоў; фарміраваць уяўленне аб тым, што ў мове ёсць словы з супрацьлеглым значэннем; развіваць маўленне вучняў | Выдзяленне гука [ы] ў словах, адпрацоўка вымаўлення гука. Гульнёвае практыкаванне «Чуйныя вушкі» (знаходжанне слоў з гукам [ы]. Чытанне адкрытых складоў, слоў. Дыдактычная гульня «Наадварот» (падбор слоў з супрацьлеглым значэннем). Слоўнае маляванне па прачытаным, адказы на пытанні | 65—67 |
| 39 | Гукі [ф], [ф’]. Літары **Ф**, **ф** | 1 | Пазнаёміць з зычнымі гукамі [ф], [ф’], літарамі **Ф**, **ф**; развіваць фанематычны слых: дыферэнцыраваць цвёрдыя і мяккія гукі ў моўным патоку; адпрацоўваць навык чытання, уменне абдумваць адказы на пытанні і дакладна фармуляваць іх, садзейнічаць развіццю вуснага маўлення вучняў праз работу з тэкстам пры складанні тэксту па сюжэтным малюнку | Выдзяленне гукаў [ф], [ф’] у словах, адпрацоўка вымаўлення гукаў, развучванне скорагаворак, чыстагаворак, адгадванне вершаваных загадак, падбор слоў з дадзеным гукам, графічны аналіз літары **Ф**. Падбор і чытанне слоў з вывучаемымі гукамі. Работа над тэкстам: чытанне, праца над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні, пераказ. Складанне невялікага апавядання па малюнку «У ката і мышку» | 68—70 |
| 40 | Чытанне слоў з **і** ў зліцці. Глухія і звонкія зычныя на канцы слова | 1 | Паказаць ролю літары **і** ў складзе пасля зычнага; звярнуць увагу на сэнсаадрознівальнае значэнне слоў з гукамі [і], [ы] ў складзе; адпрацоўваць навык чытання; развіваць вуснае маўленне вучняў; падвесці вучняў да разумення таго, што ёсць гукі, якія на канцы слова аглушаюцца; вучыць прыёму выбару патрэбнай літары (шляхам падстаноўкі слова *няма*), развіваць фанематычны слых, удасканальваць культуру маўлення вучняў | Гульнёвыя практыкаванні «Валейбол» (вымаўленне слоў з мяккімі і цвёрдымі зычнымі), «Хто больш» (падбор слоў, з гукамі [ф], [ф’]). Чытанне слоў, складоў, назіранне за роляй літары **і** ў складзе пасля зычнай, параўнанне складоў з **ы** і **і**. Аднаўленне слоў з прапушчанымі літарамі на канцы, назіранне за словамі, у якіх адбываецца аглушэнне зычнай (ду[п], зу[п]). Практыкаванні ў выбары патрэбнай літары (шляхам падстаноўкі слова *няма*). Гульнёвае практыкаванне «Што лішняе» (тэма «Лясныя жыхары») | 71—73 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 41 | Чытанне тэкстаў са словамі знаёмай структуры | 1 | Вучыць чытанню і напісанню слоў са збегам зычных у канцы і пачатку слова; развіваць маўленне вучняў праз адказы на пытанні да тэксту, уласныя выказванні | Чытанне і аналіз слоў са збегам зычных у канцы і пачатку слова. Работа над тэкстам «Жмуркі»: чытанне, праца над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні. Завучванне скорагаворкі. Дыдактычная гульня «Дзе РОГ?» | 74—75 |
| 42 | Галосны гук [э]. Літары **Э**, **э**. **Пазакласнае чытанне**. Мы — сябры прыроды | 1 | Пазнаёміць з гукам [э] і літарамі **Э**, **э**; развіваць фанематычны слых, уменне чытаць словы з новай літарай, развіваць звязнае маўленне вучняў, адпрацоўваць навык чытання; развіваць маўленне вучняў шляхам складання апавядання з апорай на малюнак; садзейнічаць удасканаленню дыкцыі і тэмпу маўлення | Гульнёвае практыкаванне «Знайдзі словы-хітруны» (знайсці ў слове схаванае слова — збор — бор). Выдзяленне гука [э] ў словах, адпрацоўка вымаўлення гука, падбор слоў з дадзеным гукам. Гульнёвыя практыкаванні «Рэха» (вылучэнне галосных са складоў), «Чуйныя вушкі» (вылучэнне гукаў, якімі адрозніваюцца словы). Знаёмства з літарай **э**. Чытанне складоў, слоў, сказаў, тэксту. Адказы на пытанні па прачытаных сказах, тэкстах. Чытанне па асобах. Абмеркаванне падрыхтаваных і прачытаных твораў па тэме пазакласнага чытання. Зачытванне, пераказ найбольш цікавых для вучняў урыўкаў апавяданняў, разгляд ілюстрацый | 76—77 |
| 43 | Тэкст «У хованкі». Чытанне, пераказ з апорай на малюнкі | 1 | Адпрацоўваць навык чытання; развіваць маўленне вучняў шляхам складання апавядання з апорай на малюнак; садзейнічаць удасканаленню дыкцыі і тэмпу маўлення; вучыць пераказу прачытанага | Знаёмства з творам «У хованкі». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Пераказ тэксту з апорай на малюнкі. Гульнёвае практыкаванне «Так ці не?» | 78—79 |
| 44 | Гук [й’]. Літара **й** | 1 | Пазнаёміць з зычным гукам [й’] і літарай **й**, адпрацоўваць навык цэласнага чытання слоў з **й**, **і**, уменне дыферэнцыраваць гукі [й’], [і] ў словах, уменне дзяліць словы з **й** на склады, садзейнічаць развіццю маўленчых здольнасцей вучняў | Выдзяленне гука [й’] у словах, адпрацоўка вымаўлення гука. Гульнёвае практыкаванне «Чуйныя вушкі» (знаходжанне слоў з гукам [й’]). Графічны аналіз слоў з гукам [й’]. Гульнёвыя практыкаванні «Канструктар» (канструяванне слоў з літар і складоў, што змешчаны ў буквары), «Чый гэта нос?», «Вароніны словы». Знаёмства з тэкстам «Рой». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Разгадванне рэбуса | 80—81 |
| 45 | **Ь** — паказчык мяккасці зычных | 1 | Пазнаёміць з літарай **ь** як паказчыкам мяккасці зычных; вучыць чытаць словы з **ь** у канцы і сярэдзіне слова, фарміраваць уменне адказваць на пытанні па змесце тэксту, развіваць маўленне вучняў | Графічны аналіз літары **ь**. Чытанне. Назіранне за роляй літары **ь** як паказчыка мяккасці зычнага гука. Чытанне заклічкі, пастаноўка пытанняў да малюнка. Параўнанне і правільнае вымаўленне слоў-«братоў» («стол — столь»). Гульнёвае практыкаванне «Так ці не?» (тэма «Лясныя жыхары») | 82—83 |
| 46 | Літары **Е**, **е** | 1 | Пазнаёміць з літарай **е**, якая абазначае мяккі склад (у пачатку слова і пасля галоснага), адпрацоўваць навык чытання слоў з новай літарай, вучыць чытаць тэкст па асобах, фарміраваць уменне адказваць на пытанні па змесце тэксту, удасканальваць культуру маўлення | Паўтарэнне: гульнёвае практыкаванне «Будаўнікі» (дапаўненне слоў складамі чай — чайка). Графічны аналіз літары **Е**. Чытанне складоў, слоў з літарай **е**. Работа над тэкстам: чытанне, адказы на пытанні настаўніка, чытанне па асобах | 84—85 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 47 | Чытанне слоў з **і**, **е** ў зліцці | 1 | Садзейнічаць дыферэнцыяцыі гукаў [і], [э] ў мяккіх складах слоў, адпрацоўваць навык цэласнага чытання шматскладовых слоў; фарміраваць уменне дакладна фармуляваць адказ на пастаўленае пытанне настаўніка, развіваць маўленчыя здольнасці вучняў | Выпрацоўка навыку чытання слоў з галоснымі [і], [э]. Работа над тэкстам «Восеньскі букет». Чытанне, праца над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка. Гульнёвыя практыкаванні «Дрэва — лес», «Прадоўжы сказ» (У дуброве растуць...) | 86 |
| 48 | Гукі [ц], [ц']. Літары **Ц**, **ц**. **Пазакласнае чытанне**. Хвілінкі-весялінкі (забаўлянкі, жарты, смяшынкі, гумарыстычныя творы) | 1 | Пазнаёміць з новымі зычнымі гукамі [ц], [ц'] і літарамі **Ц**, **ц**; працягваць работу па развіцці артыкуляцыйнага апарату і фанематычнага слыху, вучыць чытаць словы з новай літарай, пазнаёміць вучняў з жанрам забаўлянкі, жартоўнымі творамі, вучыць іх аналізаваць, узбагачаць слоўнікавы запас, развіваць маўленне вучняў | Выдзяленне гукаў [ц], [ц'] у словах, адпрацоўка вымаўлення гукаў, развучванне скорагаворак, чыстагаворак, адгадванне вершаваных загадак, падбор слоў з дадзеным гукам. Знаёмства з літарамі **Ц**, **ц**. Чытанне складоў, слоў, сказаў, тэксту. Адказы на пытанні па тэксце з апорай на малюнак. Гульнёвае практыкаванне «Якія ягады?». Работа па тэме пазакласнага чытання: знаёмства з жанрам забаўлянкі, жартоўнымі творамі; развучванне пацешак, заклічак, чытанне і аналіз вершаў-жартаў | 87—88 |
| 49 | Канструяванне слоў, сказаў | 1 | Садзейнічаць выпрацоўцы навыку чытання невялікіх тэкстаў з захаваннем паўз, інтанацый, што адпавядаюць знакам прыпынку; развіваць уменне складаць сказы і суадносіць іх са схемамі, развіваць вуснае маўленне вучняў | Гульнёвае практыкаванне «Чараўнікі» (совы — словы). Складанне сказаў па дадзеных схемах. Адгадванне рэбусаў, складанне сказаў з атрыманымі словамі. Назіранне за словамі тыпу «Піліп». Чытанне тэкстаў, адказы на пытанні, пераказ тэксту. Гульнёвае практыкаванне «Будаўнікі» | 89—91 |
| 50 | Гук [ў]. Літара **ў** | 1 | Пазнаёміць з зычным гукам [ў] і літарай **ў**, адпрацоўваць уменне дыферэнцыраваць гукі [ў], [у] ў словах; даваць характарыстыку вывучаным гукам; фарміраваць навык цэласнага чытання слоў; развіваць маўленне вучняў | Знаёмства з гукам [ў], літарай **ў**. Гукавы аналіз слоў. Гульнёвае практыкаванне па адпрацоўцы правільнага вымаўлення гука. Назіранне за словамі-хітрунамі, харавое чытанне. Знаёмства з тэкстам «Школа на лузе»: чытанне, адказы на пытанні, артыкуляцыйныя практыкаванні. Гульнёвае практыкаванне «Жабіны словы» | 92—93 |
| 51 | Чытанне слоў з **й**, **у** | 1 | Адпрацоўваць навык цэласнага чытання шматскладовых слоў, вучыць разуменню вобразных выразаў у мастацкім тэксце; дыферэнцыраваць гукі [ў], [й] у словах, развіваць звязнае маўленне вучняў | Чытанне слоў, супастаўленне ў словах апошніх гукаў, іх характарыстыка. Развучванне скорагаворкі. Выпрацоўка навыку чытання слоў з літарамі **й**, **у**. Знаёмства з творамі Я. Коласа «Музыкі», А. Вялюгіна «Снегіры». Адказы на пытанні, слоўнае маляванне па прачытаным. Адпрацоўка выразнага чытання вершаў. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый у адпаведнасці з маўленчай сітуацыяй. Дыдактычная гульня «Закончы сказ» | 94—95 |
| 52 | Чытанне слоў са збегам зычных у пачатку і ў канцы | 1 | Адпрацоўваць навык цэласнага чытання шматскладовых слоў, вучыць разуменню вобразных выразаў у мастацкім тэксце, развіваць вуснае маўленне, узбагачаць слоўнікавы запас вучняў | Знаёмства з творам «Мы майструем». Чытанне, праца над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка. Слоўнае маляванне па прачытаным. Падбор і чытанне прыказак па тэме «У майстэрні», разгадванне загадак | 96 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 53 | Чытанне слоў знаёмай структуры. Словы-«браты» | 1 | Адпрацоўваць навык чытання шматскладовых слоў; фарміраваць у дзяцей уяўленне аб тым, што ў мове ёсць словы з блізкім значэннем; адпрацоўваць навык правільнага і свядомага чытання, развіваць звязнае маўленне, узбагачаць слоўнікавы запас вучняў | Чытанне, знаёмства з тэкстам «Дружбакі», праца над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка. Знаёмства са словамі з блізкім значэннем. Гульнёвае практыкаванне «Знайдзі пару». Слоўнае маляванне па прачытаным. Практыкаванне ў вусным пераказе тэксту | 97 |
| 54 | Чытанне складоў з **а**, **я**. Літара **я** — паказчык мяккасці зычных. **Пазакласнае чытанне**. Вершы і творы на тэму «Маці» | 1 | Паказаць ролю літары **я** ў складзе пасля зычнай; адпрацоўваць хуткасць успрымання адкрытых складоў; навык чытання слоў з літарай **я**; узбагачаць слоўнікавы запас лексікай на тэму «Музычныя інструменты»; развіваць звязнае маўленне, узбагачаць слоўнікавы запас вучняў | Чытанне, супастаўленне слоў. Гульнёвае практыкаванне «Хто скача “Лявоніху”, а хто круціць “Мяцеліцу”?». Параўнанне вымаўлення цвёрдых і мяккіх складоў. Абмеркаванне падрыхтаваных і прачытаных твораў па тэме пазакласнага чытання. Работа па тэме пазакласнага чытання. Зачытванне, пераказ найбольш цікавых для вучняў урыўкаў апавяданняў, чытанне вершаў на памяць, разгляд ілюстрацый | 98—99 |
| 55 | Літары **і**, **е**, **я** — паказчыкі мяккасці зычных | 1 | Развіваць уменне правільна артыкуляваць цвёрдыя і мяккія склады ў словах, успрымаць іх на слых і абазначаць на пісьме; узбагачаць слоўнікавы запас лексікай на тэму «Дзіцяняты свойскай жывёлы»; адпрацоўваць навык чытання, развіваць звязнае маўленне, пашырэнне слоўнікавага запасу вучняў | Выпрацоўка навыку чытання складоў і слоў з галоснымі літарамі **і**, **е**, **я**. Работа над тэкстам «У каго хто?». Чытанне, праца над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, пераказ тэксту. Падзел слоў на склады, практыкаванне ў пастаноўцы націску. Гульнёвае практыкаванне «У каго хто?» | 100 |
| 56 | Чытанне тэксту «Каго як завуць» | 1 | Адпрацоўваць навык чытання тэксту з захаваннем паўз, інтанацый, што адпавядаюць знакам прыпынку; вучыць чытаць тэкст па асобах, развіваць маўленне вучняў; садзейнічаць удасканаленню дыкцыі і тэмпу маўлення | Знаёмства з тэкстам «Каго як завуць». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Чытанне тэксту па асобах. Слоўнае маляванне па прачытаным. Гульнёвае практыкаванне «Ці такія звяры ў нашых казках» (параўнанне: хітры, як ліс) | 101 |
| 57 | Беларуская народная казка «Воўк-гультай» | 1 | Адпрацоўваць навык чытання тэксту з захаваннем паўз, інтанацый, што адпавядаюць знакам прыпынку; вучыць падрабязнаму пераказу па пытаннях настаўніка, развіваць маўленне вучняў шляхам складання апавядання з апорай на малюнак; садзейнічаць удасканаленню дыкцыі і тэмпу маўлення | Знаёмства з тэкстам «У хованкі». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні, падрабязны пераказ прачытанага | 102 |
| 58 | Гук [дз’]. Літары **дз**, **Дз** | 1 | Пазнаёміць з зычным гукам [дз’], літарамі **дз**, **Дз**; развіваць фанематычны слых, адпрацоўваць правільнае вымаўленне гука [дз’] пры чытанні слоў, адпрацоўваць уменне ўважліва чытаць пытанне, абдумваць і дакладна фармуляваць адказ, развіваць маўленне вучняў, садзейнічаць удасканаленню дыкцыі і тэмпу маўлення | Знаёмства з гукам [дз’] і літарамі **дз**, **Дз**. Параўнанне колькасці гукаў і літар у словах. Выпрацоўка правільнай артыкуляцыі гука [дз’]. Развучванне чыстагаворак. Гульнёвыя практыкаванні «Імяніны», «Дзе яны раслі?». Чытанне і тлумачэнне прыказкі. Узгадванне казкі па малюнку, слоўнае маляванне | 103—104 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 59 | Чытанне тэксту «Зменлівы месяц» | 1 | Адпрацоўваць навык чытання тэксту з захаваннем паўз, інтанацый, што адпавядаюць знакам прыпынку; садзейнічаць разуменню прачытанага; развіваць маўленне вучняў; знаёміць з нормамі літаратурнай мовы | Знаёмства з тэкстам «Зменлівы месяц». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні, пераказ прачытанага | 105 |
| 60 | «Чаму месяц без вопраткі ходзіць?» **Пазакласнае чытанне**. В. Хомчанка. «Рукавічка», «Яблык», «Гузік» (па выбары) | 1 | Адпрацоўваць навык чытання тэксту з захаваннем паўз, інтанацый, што адпавядаюць знакам прыпынку; садзейнічаць разуменню прачытанага; развіваць мову вучняў; далучаць да норм літаратурнай мовы | Знаёмства з тэкстам «Чаму месяц без вопраткі ходзіць?». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні, пераказ прачытанага. Знаёмства са словамі-«братамі». Састаўленне сказаў. Гульнёвае практыкаванне «Што тут лішняе?» | 106—107 |
| 61 | Чаргаванне **к — ц** | 1 | Адпрацоўваць навык чытання тэксту з захаваннем паўз, інтанацый, што адпавядаюць знакам прыпынку; садзейнічаць разуменню прачытанага; развіваць мову вучняў; далучаць да норм літаратурнай мовы | Разглядванне малюнка на старонках буквара. Вызначэнне, што ў ім незвычайнага. Чытанне лічылкі «рэхам». Вызначэнне, наколькі загаловак адпавядае зместу. «Навядзенне парадку» ў вершы. Чытанне слоў у слупках, назіранне за чаргаваннем **к — ц**. Гульнёвае практыкаванне «Чараўнікі» — пераўтварэнне слоў, чаргаванне **к — ц** (дошка — на дошцы). Складанне сказаў з атрыманымі словамі | 108—109 |
| 62 | Літары **Ё**, **ё** як асобны склад. Літара **ё** ў складзе пасля зычнай | 1 | Пазнаёміць з галоснай літарай **ё**, якая абазначае мяккі склад (у пачатку слова і пасля галоснага), адпрацоўваць навык чытання з вывучанымі літарамі; фарміраваць у дзяцей уяўленне аб тым, што ў мове ёсць словы, якія гучаць аднолькава, але маюць рознае значэнне; узбагачаць слоўнікавы запас лексікай на тэму «Птушкі», развіваць вуснае маўленне вучняў | Знаёмства з літарамі **Ё**, **ё**. Назіранне за роляй літары **ё** як паказчыка мяккасці зычнага гука. Чытанне складоў з літарамі **е**, **ё**. Знаёмства з вершам «Нашы птушкі» А. Гурло і апавяданнем «Чмелікі». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні, пераказ прачытанага. Моўная хвілінка «Насякомыя» (разгляд прадметных малюнкаў, апісанне знешніх прымет, складанне сказаў, разгадванне загадак). Абмеркаванне ведаў вучняў па тэме «Птушкі нашага краю». Развучванне скорагаворак | 110—111 |
| 63 | Словы, супрацьлеглыя па значэнні | 1 | Адпрацоўваць навык чытання, садзейнічаць разуменню вобразных выразаў у мастацкім тэксце; узбагачаць слоўнікавы запас вучняў; удасканальваць навык правільнага гукавымаўлення, маўленчых здольнасцей вучняў | Знаёмства з вершам Г. Кляўко «Сцяжынка». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні, пераказ прачытанага. Знаёмства са словамі з супрацьлеглым значэннем. Гульнёвае практыкаванне «Наадварот» | 112 |
| 64 | Літары **Ю**, **ю** як асобы склад | 1 | Пазнаёміць з літарай **ю**, якая абазначае мяккі склад (у пачатку слова і пасля галоснага), фарміраваць навык чытання з вывучанымі літарамі, узбагачаць слоўнікавы запас вучняў па тэме «Школьныя прылады», развіваць маўленчыя здольнасці вучняў | Знаёмства з літарамі **Ю**, **ю**, чытанне слоў знаёмай канструкцыі. Завучванне верша. Гульнёвыя практыкаванні «Што ўмее аловак?», «Што тут лішняе? (па тэме «Школьныя прылады») | 113 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 65 | Роля літары **ю** ў складзе пасля зычнай | 1 | Паказаць ролю літары **ю** ў складзе пасля зычнай; фарміраваць уменне правільна артыкуляваць цвёрдыя і мяккія склады ў словах, успрымаць іх на слых, развіваць навык свядомага чытання твора, удасканальваць культуру маўлення вучняў | Назіранне за роляй літары **ю** як паказчыка мяккасці зычнага гука. Чытанне складоў і слоў з літарамі **ю**, **ё**, **е**. Знаёмства з тэкстам «Пяро і аловак». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні, пераказ прачытанага | 114 |
| 66 | Чытанне верша Я. Коласа «На рэчцы зімою». **Пазакласнае чытанне**. В. Вітка. «Азбука ад А да Я» | 1 | Развіваць навык свядомага чытання твора; садзейнічаць разуменню вобразных выразаў у мастацкім тэксце; даць першаснае ўяўленне вучням аб творчасці беларускага песняра Я. Коласа, прывіваць любоў і цікавасць да твораў беларускіх пісьменнікаў, развіваць маўленне вучняў | Знаёмства з вершам Я. Коласа «На рэчцы зімою». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый у адпаведнасці з маўленчай сітуацыяй | 115 |
| 67 | Ветлівыя словы беларускай мовы | 1 | Развіваць навык свядомага чытання твора; актывізаваць у вусным маўленні вучняў словы вітання, падзякі; вучыць ветлівасці, добрым адносінам да родных, удасканальваць культуру вуснага маўлення | Чытанне і аналіз твораў, адказы на пытанні. Вуснае разважанне на тэму «Як добра быць ветлівым». Гульнёвае практыкаванне «Словы ветлівасці». Самастойнае прыдумванне падзей з ужываннем ветлівых слоў. Чытанне і знаёмства з ласкавымі словамі. Складанне з імі сказаў. Гульнёвае практыкаванне «Закончы сказ» (практыкаванне ва ўжыванні ў мове ветлівых і ласкавых слоў) | 116 |
| 68 | Чытанне тэксту Д. Бічэль. «Курапатка» | 1 | Адпрацоўваць навык чытання; садзейнічаць успрыманню і разуменню зместу прачытанага; пашыраць уяўленні вучняў пра жыццё дзікіх жывёл зімой у лесе; узбагачаць слоўнікавы запас на тэму «Звяры і птушкі Беларусі»; працаваць над гукалітарным разборам слоў, развіваць звязнае маўленне вучняў | Знаёмства з тэкстам Д. Бічэль «Курапатка». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні, пераказ прачытанага. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый у адпаведнасці з маўленчай сітуацыяй. Адгадванне загадак. Складанне невялікага апавядання па тэме «Звяры і птушкі зімой» | 117 |
| 69 | Чытанне тэксту «Паўлюк і Цюлік» | 1 | Адпрацоўваць навык свядомага чытання, садзейнічаць успрыманню і разуменню зместу прачытанага; працаваць над развіццём звязнага маўлення вучняў, фарміраваць уменне пераказваць прачытанае, выказваць сваё меркаванне | Знаёмства з тэкстам «Паўлюк і Цюлік». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні, пераказ прачытанага. Вуснае разважанне на тэму «Лепшыя сябры». Гульнёвае практыкаванне «Збяры прыказкі» (падбор прыказак па тэме «Сяброўства») | 118 |
| 70 | Замацаванне вывучанага. Складанне вуснага апавядання па сюжэтным малюнку | 1 | Адпрацоўваць навык чытання з захаваннем арфаэпічных норм беларускай літаратурнай мовы; садзейнічаць разуменню зместу прачытанага, удасканаленню дыкцыі і тэмпу маўлення, развіваць звязнае маўленне вучняў | Чытанне твораў, адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый у адпаведнасці з маўленчай сітуацыяй. Складанне вуснага апавядання па сюжэтных малюнках. Чытанне і завучванне скорагаворкі | 119 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 71 | Гук [дж]. Літары **дж**, **Дж** | 1 | Пазнаёміць з гукам [дж], літарамі **дж**, **Дж**; развіваць фанематычны слых, адпрацоўваць правільнае вымаўленне гука [дж] пры чытанні слоў, садзейнічаць развіццю вуснага маўлення вучняў праз работу з тэкстам | Знаёмства з гукам [дж] і літарамі **дж**, **Дж**. Параўнанне колькасці гукаў і літар у словах. Выпрацоўка правільнай артыкуляцыі гука [дж]. Развучванне чыстагаворак. Гульнёвыя практыкаванні. Чытанне і тлумачэнне народнай прыметы. Завучванне вершаў | 120 |
| 72 | Адрозненне гукаў [дз'], [ч], [дж] і правільнае іх абазначэнне на пісьме. **Пазакласнае чытанне**. Творы беларускіх пісьменнікаў Я. Коласа, Я. Купалы | 1 | Адпрацоўваць навык чытання з захаваннем арфаэпічных норм беларускай літаратурнай мовы; садзейнічаць разуменню прачытанага; фарміраваць уменне пераказваць прачытанае, выказваць сваё меркаванне, развіваць фанематычны слых, маўленне вучняў | Чытанне твораў, адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый у адпаведнасці з маўленчай сітуацыяй. Першаснае знаёмства вучняў з творчасцю Я. Коласа і Я. Купалы. Выстава кніг пісьменнікаў. Чытанне найбольш цікавых, па меркаванні вучняў, урыўкаў з твораў, пераказ прачытанага | 121 |
| 73 | Чытанне тэкстаў (Л. Рашкоўскі .«Поні», «Зебра», А. Каско. «Жарт») | 1 | Адпрацоўваць навык чытання з захаваннем арфаэпічных норм беларускай літаратурнай мовы; развіваць маўленне вучняў; фарміраваць уяўленне пра словы, якія аднолькава гучаць, але маюць рознае значэнне | Чытанне твораў, адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый у адпаведнасці з маўленчай сітуацыяй. Назіранне за словамі, якія аднолькава гучаць, але маюць рознае значэнне | 122 |
| 74 | Надрадковы знак ' (апостраф) | 1 | Пазнаёміць вучняў з раздзяляльным знакам апострафам; развіваць фанематычны слых; вучыць чытаць і пісаць словы з апострафам; адпрацоўваць навык чытання, садзейнічаць разуменню прачытанага, развіваць маўленне вучняў | Знаёмства з надрадковым знакам — апострафам. Гульнёвае практыкаванне «Чуйныя вушкі». Чытанне слоў з апострафам, адпрацоўка правільнага вымаўлення. Знаёмства з тэкстам «Як хто спіць», адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні (выбарачнае чытанне) | 123 |
| 75 | Замацаванне вывучанага па тэме «Гукі і літары мовы» | 1 | Адпрацоўваць навык чытання з захаваннем арфаэпічных норм беларускай літаратурнай мовы, садзейнічаць разуменню прачытанага; развіваць мову, фанематычны слых вучняў | Знаёмства з тэкстам «Любіна пісьмо». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні, пераказ прачытанага. Знаёмства са словамі-«братамі» (мнагазначнымі словамі), складанне сказаў | 124 |
| 76 | Алфавіт | 1 | Замацаваць веды пра вывучаныя гукі і літары, пазнаёміць вучняў з беларускім алфавітам, раскрыць яго значэнне, удасканальваць дыкцыю і тэмп маўлення | Знаёмства з беларускім алфавітам. Гульнёвыя практыкаванні «Знайдзі сваё месца», «Літарка згубілася», «Рассялі жыхароў». Складанне сказаў з прапанаванымі словамі, падзел слоў на склады, вызначэнне націскнога складу | 125 |
| **Паслябукварны перыяд (14 г)** | | | | | |
| 77 | Беларусь — твая Радзіма. Так нараджалася Беларусь | 1 | Фарміраваць навык свядомага чытання тэкстаў, аднаўлення зместу прачытанага: знаходзіць у тэксце сказы для адказу на пытанні; пашыраць слоўнікавы запас на тэму «Родны край»; выхоўваць у вучняў пачуццё любові і павагі да Беларусі | Чытанне і абмяркоўванне тэкстаў «Беларусь — твая Радзіма», «Так нараджалася Беларусь». Вусныя выказванні, разважанні на тэмы: «Родны край», «За што я люблю Беларусь», «Мой любімы куток роднай старонкі» і г. д. Чытанне вершаў, аналіз прачытанага, адпрацоўка выразнасці чытання | 126—127 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 78 | Нашы асветнікі. А вось што мы ўбачылі ў музеі. **Пазакласнае чытанне**. Сустрэча з казкай. Беларуская народная казка «Лёгкі хлеб» | 1 | Ажыццявіць першапачатковае азнаямленне вучняў са славутымі людзьмі Айчыны, пашырыць уяўленні дзяцей пра мінулае нашай краіны; фарміраваць уменне выказваць свае ўражанні ад прачытанага; выхоўваць цікавасць да гісторыі сваёй краіны; нацыянальную свядомасць, адпрацоўваць навык свядомага чытання, садзейнічаць пашырэнню ўяўленняў дзяцей пра шматлікасць моў на Зямлі, развіваць звязнае маўленне вучняў | Паведамленне на тэму «Нашы асветнікі». Чытанне тэкстаў падручніка, разгляд малюнкаў, апісанне. Работа па тэме пазакласнага чытання: знаёмства з казкай, зачытванне і аналіз казкі, пераказ найбольш цікавых урыўкаў, тлумачэнне прыказак, прыдумванне казкі па аналогіі (работа ў групах) | 128—129 |
| 79 | Мінск — сталіца нашай Радзімы. Твая мова | 1 | Пашыраць уяўленне вучняў пра сталіцу Рэспублікі Беларусь — горад Мінск; адпрацоўваць навык свядомага чытання, фарміраваць уменне знаходзіць у тэксце сказы для адказу на пытанні настаўніка; выхоўваць пачуццё гонару за галоўны горад нашай Радзімы | Знаёмства з тэкстам «Мінск». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый. Слоўнае маляванне па прачытаным. Выказванне ўласных меркаванняў па тэме «За што я люблю свой горад» | 130—131 |
| 80 | Янка Купала — вялікі беларускі паэт. Верш «Хлопчык і лётчык» | 1 | Даць першасныя звесткі пра беларускага песняра Янку Купалу; развіваць уменне ўспрымаць і асэнсоўваць вершаваныя творы; выхоўваць любоў да паэзіі | Паведамленне настаўніка на тэму «Янка Купала — вялікі беларускі паэт». Знаёмства з вершам Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык». Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый. Слоўнае маляванне па прачытаным | 132—133 |
| 81 | Якуб Колас — беларускі пісьменнік. Верш «Каток» | 1 | Даць першасныя звесткі пра беларускага песняра Якуба Коласа; развіваць уменне ўспрымаць і асэнсоўваць вершаваныя вобразы, даваць простую ацэнку прачытанаму, садзейнічаць эмацыянальнаму ўспрыманню і асэнсаванню зместу твора, выпрацоўцы навыку чытання тэксту з захаваннем паўз, інтанацый, што адпавядаюць знакам прыпынку; развіваць уменне ствараць малюнак словамі, выказваць свае адносіны да героя твора | Паведамленне настаўніка на тэму «Якуб Колас — вялікі беларускі паэт». Знаёмства з вершам Якуба Коласа «Каток«. Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Адказы на пытанні, слоўнае маляванне па прачытаным. Адпрацоўка выразнага чытання верша | 134—135 |
| 82 | Вучымся ветлівасці | 1 | Актывізацыя ў вусным маўленні вучняў формулы маўленчага этыкету, адпрацоўка навыку чытання тэксту з захаваннем паўз, інтанацый, пашырэнне ўяўленняў пра словы, якія аднолькава гучаць, але маюць розны сэнс | Сюжэтна-ролевая гульня «Ветлівыя словы» з наступнай гутаркай аб ужыванні ў мове ветлівых слоў. Разыгрыванне жыццёвых сітуацый | 136—137 |
| 83 | Вусная народная творчасць. Казка «Спрэчка» | 1 | Знаёмства з жанрам вуснай народнай творчасці — казкай; развіццё ўмення чытаць тэкст па асобах, перадаваць сваё стаўленне да прачытанага | Чытанне, аналіз прачытанага. Праца над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні, пераказ. Чытанне па асобах. Складанне сказаў на тэму «Як я дапамагаю дома». Дыдактычная гульня «Я буду... Я не буду...» | 138—139 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 84 | У свеце прыроды. Апавяданне «Добры зайцаў звычай» | 1 | Фарміраванне навыку свядомага чытання цэлымі словамі, удакладненне, узбагачэнне і актывізацыя слоўніка дзяцей, адпрацоўка правільнага вымаўлення гукаў роднай мовы | Работа над узнаўленнем зместу прачытанага: адказы на пытанні настаўніка, знаходжанне ў тэксце сказаў для адказу на пытанні. Завучванне на памяць вершаў (па выбары) | 140—141 |
| 85 | Сапраўдныя сябры пазнаюцца ў бядзе. М. Танк. «Жук і слімак» | 1 | Садзейнічаць успрыманню і асэнсаванню зместу твора, адпрацоўка навыку чытання тэксту з захаваннем паўз, інтанацый, што адпавядаюць знакам прыпынку; фарміраваць уменне чытаць тэкст па асобах | Знаёмства з творам М. Танка «Жук і слімак». Чытанне верша па асобах. Адгадванне загадкі. Дыдактычная гульня «Закончы сказ» | 142—143 |
| 86 | Нашы святы. Дзяды. Калядкі. **Пазакласнае чытанне**. Па старонках любімых часопісаў | 1 | Пашырыць уяўленне вучняў пра нашы святы, вучыць выказваць свае меркаванні, развіваць навык асэнсаванага чытання невялікіх твораў (апавяданняў), фарміраваць уменне пераказваць прачытанае, выхоўваць цікавасць да культуры, традыцый беларускага народа | Гутарка на тэму «Нашы продкі. Нашы святы». Чытанне тэкстаў. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый у адпаведнасці з маўленчай сітуацыяй. Чытанне, аналіз прачытанага. Слоўнае маляванне па прачытаным. Складанне невялікіх апавяданняў па малюнках | 144—145 |
| 87 | Нашы святы. Вялікдзень. Купалле | 1 | Пашыраць уяўленне вучняў пра нашы святы, фарміраваць навык свядомага чытання цэлымі словамі, развіваць звязнае маўленне, фарміраваць маўленчыя ўменні, актывізаваць і ўзбагаціць слоўнік вучняў | Чытанне тэкстаў. Выбар моўных сродкаў для перадачы сваіх пачуццяў і эмоцый у адпаведнасці з маўленчай сітуацыяй. Складанне апавядання па сюжэтных малюнках на тэму «Нашы святы» | 146—147 |
| 88 | **Кантроль навыку чытання па тэксце А. Вольскага «Кропелька»** | 1 | Праверка сфарміраванасці дастатковага ўзроўню правільнага, свядомага чытання і разумення прачытанага | | |
| 89 | Як да нас прыйшла кніга. Ф. Скарына — беларускі першадрукар | 1 | Пашырэнне ведаў вучняў пра тое, як да нас прыйшла кніга, якое значэнне яна мае ў жыцці чалавека; развіццё навыкаў асэнсаванага, правільнага чытання, умення абдумваць і правільна фармуляваць адказы на пытанні | Паведамленне на тэму «Як да нас прыйшла кніга». Чытанне тэкстаў. Адказы на пытанні па прачытаным. Гутарка «Беларускі асветнік — Францыск Скарына», чытанне тэксту «Наш першадрукар», праца над пераказам прачытанага | 148—149 |
| 90 | Кніга — лепшы сябар чалавека. Апавяданне «Свята»; верш В. Берастава «Чыталачка» | 1 | Абагульненне і сістэматызацыя ведаў і ўменняў, набытых вучнямі ў працэсе падрыхтоўчага і букварнага перыядаў навучання грамаце, удасканаленне навыку чытання, развіццё творчых здольнасцей вучняў | Чытанне апавядання «Свята», верша В. Берастава «Чыталачка». Тлумачэнне прыказак, адгадванне загадак. Разважанні вучняў па тэме «Мой сябар — кніга» | 150—151 |

## Навучанне грамаце (навучанне пісьму)

Агульная колькасць гадзін — 90

1. Клышка, А. Пропісь 1 : вучэб. дапам. для 1 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / А. Клышка. — Мінск : НІА, 2014.
2. Клышка, А. Пропісь 2 : вучэб. дапам. для 1 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / А. Клышка. — Мінск : НІА, 2014.
3. Клышка, А. Пісьмо : вучэб. дапам. для 1 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / А. Клышка. — Мінск : НІА, 2014.

| № урока і дата | Тэма ўрока | Колькасць гадзін | Мэты і задачы вывучэння тэмы | Характарыстыка асноўных відаў дзейнасці | Старонкі буквара |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| **Падрыхтоўчы (далітарны) перыяд (6 г)** | | | | | |
| 1 | Пропісь. Рабочы радок і міжрадкоўе. Кароткая прамая лінія | 1 | Пазнаёміць вучняў з вучэбным дапаможнікам «Пропісь 1», асноўнымі правіламі пісьма: правільнай пасадкай пры пісьме, размяшчэннем сшытка на парце; з асноўнымі элементамі графічнай сістэмы (кароткая прамая лінія), рабочы радок | Знаёмства з вучэбным дапаможнікам «Пропісь 1»: вокладка, старонкі. Знаёмства з правільнай пасадкай пры пісьме, размяшчэннем сшытка на парце, правіламі пастаноўкі ручкі ў час пісьма. Выкананне практыкаванняў для засваення тэрмінаў «рабочы радок», «верхняя» і «ніжняя лінія» рабочага радка, кароткая прамая лінія. Знаёмства з касымі лініямі на старонцы (практыкаванне «Ідзе дождж» для адпрацоўкі ўмення пісаць з нахілам элементы графічнай сістэмы). Маляванне па ўзоры і самастойна («Скача жабка», «Расцягні спружыну», «Разматай клубок», «Танец мышкі»). Практыкаванні «Забіваем цвікі», «Лесвічка» (адпрацоўка напісання кароткай нахіленай лініі) | 1—5 |
| 2 | Кароткая прамая лінія | 1 | Пазнаёміць вучняў з асноўным элементам графічнай сістэмы (кароткая прамая лінія), асваенне асноўных правілаў пісьма: захаванне правільнай пасадкі, нахіленае размяшчэнне сшытка, уменне трымаць ручку | Практыкаванне «Лесвічка» (адпрацоўка напісання кароткай нахіленай лініі). Пісьмо кароткай прамой лініі | 5—6 |
| 3 | Доўгая прамая лінія | 1 | Пазнаёміць з асноўным элементам графічнай сістэмы (доўгая прамая лінія) і адпрацоўваць іх напісанне, фарміраваць правільную паставу пры пісьме і ўменне правільна карыстацца вучэбнымі прыладамі | Маляванне па ўзоры і самастойна. Пісьмо кароткай і доўгай нахіленых ліній па ўзоры (абводка) і самастойна. Практыкаванне «Ідзе дождж» | 6 |
| 4 | Кароткая прамая лінія з закругленнем унізе. Кароткая прамая лінія з закругленнем уверсе і ўнізе | 1 | Пазнаёміць з асноўнымі элементамі графічнай сістэмы (кароткая лінія з закругленнем унізе, кароткая лінія з закругленнем уверсе, кароткая прамая лінія з закругленнем уверсе і ўнізе) і адпрацоўваць іх напісанне, выпрацоўваць правільную паставу пры пісьме, фарміраваць уменне правільна карыстацца вучэбнымі прыладамі | Азнаямленне з памяткай «Правілы пісьма». Маляванне па ўзоры і самастойна. Пісьмо кароткіх нахіленых ліній па ўзоры (абводка) і самастойна | 7 |

| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 5 | Доўгая лінія з закругленнем унізе, доўгая лінія з закругленнем уверсе, доўгая лінія з закругленнем унізе і ўверсе | 1 | Пазнаёміць з асноўнымі элементамі графічнай сістэмы (доўгая лінія з закругленнем унізе, доўгая лінія з закругленнем уверсе, доўгая лінія з закругленнем унізе і ўверсе) і адпрацоўваць іх напісанне, выпрацоўваць правільную паставу на пісьме, фарміраваць уменне правільна карыстацца вучэбнымі прыладамі | Пісьмо па ўзоры і самастойна. Пісьмо доўгай лініі з закругленнем унізе, доўгай лініі з закругленнем уверсе, доўгай лініі з закругленнем унізе і ўверсе | 8 |
| 6 | Доўгая прамая лінія з пятлёю ўнізе і доўгая прамая лінія з пятлёю ўверсе | 1 | Пазнаёміць з асноўнымі элементамі графічнай сістэмы (доўгая прамая лінія з пятлёю ўнізе і доўгая прамая лінія з пятлёю ўверсе) і адпрацоўваць іх напісанне, выпрацоўваць правільную паставу, фарміраваць уменне правільна карыстацца вучэбнымі прыладамі | Пісьмо па ўзоры і самастойна. Пісьмо доўгай прамой лініі з пятлёю ўнізе і доўгай прамой лініі з пятлёю ўверсе | 9 |
| 7 | Доўгія і кароткія нахіленыя лініі, якія пачынаюцца закругленнем унізе. Авалы | 1 | Пазнаёміць з асноўнымі элементамі графічнай сістэмы (доўгія і кароткія нахіленыя лініі, якія пачынаюцца закругленнем унізе, авалы) і адпрацоўваць іх напісанне, выпрацоўваць правільную паставу, фарміраваць уменне правільна карыстацца вучэбнымі прыладамі | Пісьмо па ўзоры і самастойна. Пісьмо доўгіх і кароткіх нахіленых ліній, якія пачынаюцца закругленнем унізе, авалаў | 8—9 |
| **Букварны (асноўны) перыяд (70 г)** | | | | | |
| 8 | Літара **с** | 1 | Навучыць пісаць малую літару **с**; фарміраваць уменне правільна карыстацца вучэбнымі прыладамі і захоўваць правільную паставу пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **с**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры друкаванай і пісьмовай малой літары **с**. Напісанне спалучэнняў дзвюх літар **сс** | 10 |
| 9 | Літара **С** | 1 | Навучыць пісаць вялікую літару **С**; фарміраваць уменне правільна карыстацца вучэбнымі прыладамі і захоўваць правільную паставу пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **С**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **С**. Напісанне спалучэнняў вялікай і малой літар **С**, **с** | 10 |
| 10 | Літара **п** | 1 | Навучыць пісаць малую літару **п**, злучэнні **пс**, **сп**; выпрацоўваць уменне правільна размяшчаць сшытак на парце, карыстацца пісьмовымі прыладамі | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **п**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры друкаванай і пісьмовай малой літары **п**. Напісанне спалучэнняў дзвюх літар **пс**, **сп** (верхняе спалучэнне літар) | 11 |
| 11 | Літара **П** | 1 | Навучыць пісаць вялікую літару **П**, злучэнні **Пс**, **Сп**; выпрацоўваць уменне правільна размяшчаць сшытак на парце, карыстацца пісьмовымі прыладамі | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **П**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **П**. Напісанне спалучэнняў **Пс**, **Сп** (верхняе спалучэнне літар) | 11 |

| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 12 | Літара **м** | 1 | Навучыць пісаць малую літару **м**, адпрацоўваць напісанне спалучэнняў тыпу **см**, **сп**, сачыць за паставай вучняў, размяшчэннем сшытка і ручкі пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **м**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры друкаванай і пісьмовай малой літары **м**. Напісанне спалучэнняў дзвюх літар **см** (ніжняе спалучэнне літар), **сп** (верхняе спалучэнне літар) | 12 |
| 13 | Літара **М** | 1 | Навучыць пісаць вялікую літару **М**; сачыць за паставай вучняў, размяшчэннем сшытка і ручкі пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **М**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **М**. Самастойнае пісьмо літары. Гульнёвыя практыкаванні «Якую літару згубіў сабачка?», «Якую літару злізаў кот?» для адпрацоўкі напісання вывучаных літар | 13 |
| 14 | Літара **т** | 1 | Навучыць пісаць малую літару **т**, адпрацоўваць напісанне спалучэнняў тыпу **ст**, **пт**, **сп**, сачыць за паставай вучняў, размяшчэннем сшытка і ручкі пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **т**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры друкаванай і пісьмовай малой літары **т**. Пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літар. Напісанне спалучэнняў дзвюх літар **ст**, **пт**, **сп** (верхняе спалучэнне літар). Гульнёвае практыкаванне «Знайдзі пару» (суаднясенне і напісанне спалучэнняў з назвамі прадметаў, работа з прадметнымі малюнкамі) | 14 |
| 15 | Літара **Т** | 1 | Навучыць пісаць вялікую літару **Т**; сачыць за паставай вучняў, размяшчэннем сшытка і ручкі пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **Т**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **Т**. Пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літар. Адпрацоўка, па ўзоры настаўніка, ніжняга (**см**) і верхняга спалучэнняў літар (**сп**, **пс**, **ст**). Гульнёвыя практыкаванні «Знайдзі пару» (суаднясенне друкаваных і пісьмовых літар), «Пазнай літару» (дапісванне літар) | 15 — 16 |
| 16 | Літара **л** | 1 | Навучыць пісаць малую літару **л**; замацоўваць уменне пісаць раней вывучаныя малыя літары і іх спалучэнні; фарміраваць уменне правільна размяшчаць сшытак, трымаць ручку, сачыць за правільнай паставай вучняў пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **л**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры друкаванай і пісьмовай малой літары **л**. Пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літар. Напісанне спалучэнняў дзвюх літар **сл**, **пл** (ніжняе спалучэнне літар). Гульнёвыя практыкаванні «Знайдзі пару» (суаднясенне і напісанне спалучэнняў з назвамі прадметаў, работа з прадметнымі малюнкамі), «Чараўнікі» (пераўтварэнне элементаў літар у літары) | 17 |

| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 17 | Літара **Л** | 1 | Навучыць пісаць вялікую літару **Л**; замацоўваць уменне пісаць раней вывучаныя вялікія і малыя літары і іх спалучэнні; фарміраваць уменне правільна размяшчаць сшытак, трымаць ручку, сачыць за правільнай пастаноўкай вучняў пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **Л**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **Л**, пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літары. Адпрацоўка напісання вывучаных вялікіх літар, дапісванне літар. Гульнёвыя практыкаванні «Аднаві пару» (суаднясенне друкаваных і пісьмовых літар), «Пазнай літару» (дапісванне літар) | 18 |
| 18 | Літары **н**, **Н** | 1 | Навучыць пісаць малую і вялікую літары **н**, **Н**, выпрацоўваць уменне захоўваць інтэрвал пры напісанні літар, фарміраваць уменне правільна размяшчаць сшытак, трымаць ручку, сачыць за правільнай пастаноўкай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовымі малой і вялікай літарамі **н**, **Н**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры друкаванай і пісьмовай малой і вялікай літар **н**, **Н**. Пісьмо элементаў літар, самастойнае пісьмо літар. Напісанне спалучэнняў (ніжняе і верхняе спалучэнне літар) | 11 |
| 19 | Літары **ш**, **Ш** | 1 | Вучыць пісаць малую і вялікую літары **ш**, **Ш** і іх спалучэнні, асаблівую ўвагу звярнуць на вышыню, паралельнасць усіх элементаў літары **Ш**, фарміраваць правільную пастаноўку пры пісьме, культуру пісьма | Знаёмства з пісьмовымі малой і вялікай літарамі **ш**, **Ш**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры друкаванай і пісьмовай малой і вялікай літар **ш**, **Ш**. Пісьмо элементаў літар, самастойнае пісьмо літар. Напісанне спалучэнняў (ніжняе і верхняе спалучэнне літар). Гульнёвыя практыкаванні «Знайдзі пару», «Чараўнікі», «Пазнай літару» | 20—21 |
| 20 | Літары **р**, **Р** | 1 | Фарміраваць навык правільнага напісання малой і вялікай літары **р** і злучэння яе з іншымі літарамі; фарміраваць правільную пастаноўку пры пісьме, культуру пісьма | Знаёмства з пісьмовымі малой і вялікай літарамі **р**, **Р**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры друкаванай і пісьмовай малой і вялікай літар **ш**, **Ш**. Пісьмо элементаў, самастойнае пісьмо літар. Напісанне спалучэнняў з іншымі літарамі. Гульнёвае практыкаванне «Дапішы пару» | 22 |
| 21 | Літара **к** | 1 | Навучыць пісаць малую літару **к**; замацоўваць уменне пісаць раней вывучаныя малыя літары і іх спалучэнні; фарміраваць уменне правільна размяшчаць сшытак, трымаць ручку, сачыць за правільнай пастаноўкай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **к**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры друкаванай і пісьмовай малой літары **л**. Пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літар. Напісанне спалучэнняў. Гульнёвыя практыкаванні «Знайдзі пару» (суаднясенне і напісанне спалучэнняў з назвамі прадметаў, работа з прадметнымі малюнкамі) | 23 |

| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 22 | Літара **К** | 1 | Навучыць пісаць вялікую літару **К**; замацоўваць уменне пісаць раней вывучаныя вялікія і малыя літары і іх спалучэнні; фарміраваць уменне правільна размяшчаць сшытак, трымаць ручку, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **К**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **К**, пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літары. Адпрацоўка напісання вывучаных вялікіх і малых літар. Гульнёвыя практыкаванні «Знайдзі пару». Аналіз элементаў літар, групоўка літар | 24 |
| 23 | Літара **д** | 1 | Вучыць пісаць малую літару **д**; адпрацоўваць уменне захоўваць правільны нахіл літар, аднолькавую адлегласць паміж літарамі на рабочым радку; практыкаваць у напісанні вывучаных літар, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **д**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры друкаванай і пісьмовай малой літары **д**. Пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літар. Напісанне спалучэнняў. Гульнёвыя практыкаванні «Знайдзі пару». Разгадванне рэбусаў, аналіз слоў па першым гуку, выдзяленне зычнага гука ў пачатку слова, запіс спалучэнняў літар | 25 |
| 24 | Літара **Д** | 1 | Вучыць пісаць вялікую літару **Д**, адпрацоўваць уменне пісаць вывучаныя літары, практыкаваць у напісанні вывучаных літар, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **Д**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **Д**, пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літары. Адпрацоўка напісання вывучаных вялікіх і малых літар | 26 |
| 25 | Замацаванне вывучаных літар | 1 | Адпрацоўваць уменне захоўваць правільны нахіл літар, аднолькавую адлегласць паміж літарамі на рабочым радку; практыкаваць у напісанні вывучаных літар | Пісьмо малых літар **п**, **с**, **л**, **м**, **н**, **р**, злучэнне ліній пар друкаваных і пісьмовых літар. Гукавы аналіз слоў, вылучэнне першага зычнага гука, запіс адпаведных літар. Работа з прадметнымі малюнкамі. Пісьмо пад дыктоўку літар **Д**, **К**, **д**, **к**, **п**, **П**, **С**, **Л**, **р**, **Ш**, **В** і іх спалучэнняў | 27—29 |
| 26 | Літара **а** | 1 | Вучыць пісаць малую літару **а** і склады з ёй, адпрацоўваць уменне пісаць вывучаныя літары, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **а**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, самастойнае пісьмо літары і складоў. Утварэнне слоў-імёнаў | 30 |
| 27 | Літара **А** | 1 | Вучыць пісаць вялікую літару **А**, адпрацоўваць уменне пісаць вывучаныя літары, фарміраваць уменне адрозніваць уласныя імёны ад іншых слоў і пісаць іх з вялікай літары, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **А**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **А**, самастойнае пісьмо літар, складоў, слоў-імёнаў. Дапісванне складоў у двухскладовых словах (**Маша**, **Саша**). Паведамленне | 30 |

| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | аб напісанні з вялікай літары імёнаў людзей. Адпрацоўка напісання вывучаных вялікіх і малых літар | |
| 28 | Літары **я**, **Я** | 1 | Пазнаёміць з літарай **я**, якая абазначае мяккі склад (у пачатку слова і пасля галоснага), фарміраваць навык правільнага напісання літар **я**, **Я**, слоў з літарай **я** | Знаёмства з пісьмовай вялікай і малой літарамі **Я**, **я**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, самастойнае пісьмо літар, слоў, імёнаў людзей, сказаў. Аналіз слоў, у якіх **Я** абазначае асобны склад. Пастаноўка націску ў словах. Спісванне з узору сказаў. Вызначэнне: вялікая літара ў пачатку сказа, кропка ў канцы сказа | 31 |
| 29 | Літара **у** | 1 | Вучыць правільна пісаць малую літару **у**; працаваць над рознымі тыпамі злучэнняў у слове; фарміраваць уменне спісваць напісаныя ад рукі сказы, правільна афармляючы іх на пісьме, знаёмства з клічным сказам, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай і малой літарамі **У**, **у**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў, імёнаў людзей, сказаў. Знаёмства з клічным сказам | 32 |
| 30 | Літара **У** | 1 | Вучыць правільна пісаць вялікую літару **У**, працаваць над рознымі тыпамі злучэнняў у слове; фарміраваць уменне спісваць напісаныя ад рукі сказы, правільна афармляючы іх на пісьме, знаёмства з клічным сказам, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **У**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў, імёнаў людзей, сказаў | 32 |
| 31 | Літары **і**, **І** | 1 | Вучыць правільна пісаць літары **і**, **І**; працаваць над рознымі тыпамі злучэнняў у слове; вучыць чытаць і спісваць сказы з рукапіснага шрыфту, замацоўваць навык напісання імёнаў людзей з вялікай літары, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай і малой літарамі **і**, **І**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў, імёнаў людзей. Практыкаванне ў складанні і напісанні сказаў | 33 |
| 32 | Літара **х** | 1 | Вучыць пісаць літару **х**, удасканальваць уменне спісваць словы, напісаныя ад рукі, фарміраваць уменне правільна размяшчаць сшытак, трымаць ручку, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **х**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай малой літары **х**. Пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літар, складоў і слоў з вывучанымі літарамі. Назіранне за словамі, якія адрозніваюцца адной літарай | 34 |
| 33 | Літара **Х** | 1 | Вучыць пісаць вялікую літару **Х**, практыкаваць у напісанні вывучаных літар, слоў і сказаў, замацоўваць уменне правільна афармляць сказ на пісьме, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **Х**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **Х**, самастойнае пісьмо літар, сказаў | 34 |

| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 34 | Літара **б** | 1 | Вучыць пісаць літару **б** і фарміраваць уменне ў яе правільным злучэнні з іншымі літарамі ў словах, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **б**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай малой літары **б**, самастойнае пісьмо літар, сказаў. Практыкаванне ў вылучэнні літар, якімі адрозніваюцца словы | 35—37 |
| 35 | Літара **Б** | 1 | Вучыць пісаць вялікую літару **Б**, практыкаваць у напісанні вывучаных літар, слоў і сказаў, вучыць напісанню складоў, трохлітарных слоў з вывучанымі літарамі, фарміраваць уменне дзяліць словы на склады; правільна афармляць сказ на пісьме, спісваць друкаваныя сказы; сачыць за правільнай паставай, размяшчэннем сшытка пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **Б**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **Б**, самастойнае пісьмо літар, сказа. Напісанне складоў, трохлітарных слоў з вывучанымі літарамі, падзел слоў на склады. Гульнёвае практыкаванне «Засялі літару» (састаўленне слоў са зменай галоснай літары) | 35—37 |
| 36 | Літара **з** | 1 | Вучыць пісаць літару **з**, адпрацоўваць розныя тыпы злучэнняў, вучыць правільна спісваць склады, словы, сказы, напісаныя ад рукі, сачыць за правільнай паставай, размяшчэннем сшытка пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **з**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай малой літары **з**, самастойнае пісьмо літар, сказаў. Падзел тэксту на сказы, сказаў на словы | 38 |
| 37 | Літара **З** | 1 | Вучыць пісаць літару **З**, адпрацоўваць уменне чытаць і спісваць сказы, напісаныя ад рукі, фарміраваць уменне ў яе правільным напісанні, адпрацоўваць правільнае злучэнне літар у складах, словах, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **З**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **З**, самастойнае пісьмо літар, слоў, сказаў | 38 |
| 38 | Літары **о**, **О** | 1 | Навучыць пісаць літары **о**, **О**, запісваць склады з **о** пад дыктоўку; замацаваць правіла напісання імёнаў з вялікай літары, вучыць чытаць і спісваць сказы, напісаныя ад рукі, фарміраваць правільную паставу пры пісьме і ўменне правільна карыстацца вучэбнымі прыладамі | Знаёмства з пісьмовай вялікай і малой літарамі **О**, **о**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў, імёнаў людзей. Практыкаванне ў складанні і напісанні сказаў. Спісванне друкаваных слоў. Назіранне за словамі, якія адрозніваюцца адной літарай | 39—40 |
| 39 | Літары **в**, **В** | 1 | Фарміраваць навык правільнага напісання малой і вялікай літар **в**, **В** і злучэння іх з іншымі літарамі; фарміраваць правільную паставу пры пісьме, культуру пісьма | Знаёмства з пісьмовай вялікай і малой літарамі **В**, **в**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў, імёнаў людзей. Практыкаванне ў складанні і напісанні сказаў, падзел слоў на склады | 1, Пропісь 2 |

| 1 | 2 | 3 |  | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 40 | Літары **г**, **Г** | 1 | Фарміраваць навык правільнага напісання малой і вялікай літар **г**, **Г** і злучэння іх з іншымі літарамі; замацоўваць навык напісання імёнаў людзей з вялікай літары, культуру пісьма; пашырыць веды вучняў аб птушках, фарміраваць правільную паставу пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай і малой літарамі **Г**, **г**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў, імёнаў людзей. Практыкаванне ў складанні і напісанні сказаў, падзел слоў на склады. Гульнёвае практыкаванне «Хто лішні» (вылучэнне назваў птушак сярод назваў іншых прадметаў). Складанне сказаў пра птушак | 2 |
| 41 | Пісьмо слоў з вывучанымі літарамі | 1 | Адпрацоўваць правільнае злучэнне літар у словах, уменне захоўваць правільны нахіл літар, аднолькавую адлегласць паміж літарамі на рабочым радку; практыкаваць у напісанні вывучаных літар, слоў, сказаў, замацоўваць навык напісання імёнаў людзей з вялікай літары | Пісьмо слоў з вывучанымі літарамі, сказаў, імёнаў людзей. Гукавы аналіз слоў, падзел слоў на склады. Гульнёвае практыкаванне «Аднаві словы». Чытанне, развучванне і пісьмо скорагаворкі. Пісьмо па дыктоўку літар **Б**, **б**, **Г**, **г**, **О**, **о**, **З**, **з**, **Я**, **я**, **В**, **в**, аднаскладовых слоў тыпу «гул», «гол», «квас» | 3 |
| 42 | Літары **ч**, **Ч** | 1 | Пазнаёміць з пісьмовымі літарамі **ч**, **Ч**, фарміраваць уменне ў іх правільным напісанні, адпрацоўваць правільнае злучэнне літар у складах, словах, практыкаваць у гукалітарным аналізе слоў, пазнаёміць з напісаннем з вялікай літары мянушак жывёл, фарміраваць правільную паставу пры пісьме | Знаёмства з пісьмовымі літарамі **Ч**, **ч**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў. Практыкаванне ў правільным напісанні мянушак жывёл з вялікай літары, складанні і напісанні сказаў, спісванне сказаў | 4 |
| 43 | Літара **ы** | 1 | Вучыць пісаць літару **ы**, замацаваць першаснае ўяўленне пра ўтварэнне множнага ліку (адзін прадмет — многа прадметаў); навучыць правільна пісаць літару **ы**, склады з ёй, адпрацоўваць уменне чытаць і спісваць сказы, напісаныя ад рукі, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай літарай **ы**, яе элементамі, суаднясенне яе пісьмовага графічнага вобраза з друкаваным. Пісьмо слоў, складоў (ты, мы). Гульнёвае практыкаванне «Адзін — многа» (для адпрацоўкі ўяўлення вучняў пра ўтварэнне множнага ліку). Пісьмо і назіранне за словамі, якія розняцца адной літарай. Спісванне тэксту. Завучванне верша | 5 |
| 44 | Пісьмо літар **о**, **а**, **ы** | 1 | Адпрацоўваць навык напісання вывучаных літар, складоў і слоў з імі; уменне ставіць націск у словах, адпрацоўваць уменне запісваць пад дыктоўку вывучаныя літары, склады, словы з трох-чатырох літар, вымаўленне якіх не разыходзіцца з напісаннем, вучыць правяраць напісанае, фарміраваць правільную паставу пры пісьме | Пісьмо слоў з вывучанымі літарамі, сказаў. Гукавы аналіз слоў. Гульнёвае практыкаванне «Аднаві словы» (запіс слоў з літарамі **а**, **о**, **ы**). Чытанне, развучванне і пісьмо вершаванкі. Пісьмо па дыктоўку літар **Ч**, **ч**, **ы**, **А**, **Л**, **Н**, **л**, **н**, **О**, **о**, **З**, **з**, **Я**, **я**, **В**, **в**, слоў з **ы**, **а**, **о** (рак — рык, дом, дам, дым) | 6—7 |
| 45 | Літара **ж** | 1 | Пазнаёміць з пісьмовай літарай **ж**, фарміраваць уменне ў яе правільным напісанні, адпрацоўваць правільнае злучэнне літар у складах, словах, адпрацоўваць уменне чытаць і спісваць сказы, напісаныя | Знаёмства з пісьмовай літарай **ж**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў. Звярнуць | 8 |

| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | ад рукі, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | увагу на тое, што гук [ж] у словах ніколі не бывае мяккім. Практыкаванне «Адзін — многа» (запіс па ўзоры слоў) для адпрацоўкі ўяўлення вучняў пра ўтварэнне множнага ліку | |
| 46 | Літара **Ж** | 1 | Вучыць пісаць вялікую літару **Ж**, практыкаваць у напісанні вывучаных літар, слоў і сказаў, замацоўваць уменне правільна афармляць сказ на пісьме, фарміраваць навык напісання імёнаў людзей з вялікай літары, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **Ж**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай вялікай літары **Ж**, пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літары. Адпрацоўка напісання вывучаных вялікіх і малых літар, слоў з вывучанымі літарамі, сказаў, імёнаў людзей | 9 |
| 47 | Спісванне слоў, сказаў. Пісьмо імёнаў | 1 | Адпрацоўваць уменне вучняў пісаць словы і сказы з вывучанымі літарамі, спісваць з друкаванага і рукапіснага тэксту, запісваць літары і склады пад дыктоўку настаўніка, адпрацоўваць навык напісання імёнаў людзей з вялікай літары | Пісьмо слоў з вывучанымі літарамі, сказаў. Утварэнне слоў — імёнаў людзей са складоў. Гульнёвае практыкаванне «Аднаві словы». Аднаўленне і запіс слоў — імёнаў людзей. Пісьмо пад дыктоўку вывучаных літар, складоў, слоў | 10 |
| 48 | Літары **ф**, **Ф** | 1 | Пазнаёміць з пісьмовымі літарамі **ф**, **Ф**, фарміраваць уменне ў іх правільным напісанні, адпрацоўваць правільнае злучэнне літар у складах, словах, адпрацоўваць уменне спісваць з узораў з арфаграфічным прагаворваннем і правяраць напісанае, замацоўваць навык напісання імёнаў людзей з вялікай літары | Знаёмства з пісьмовымі літарамі **Ф**, **ф**, суаднясенне іх графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літар, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў. Практыкаванне ў правільным напісанні сказаў, імёнаў людзей з вялікай літары. Назіранне за пастаноўкай адпаведнага знаку прыпынку ў канцы клічных сказаў. Запіс, прагаворванне і завучванне скорагаворкі | 11 |
| 49 | Пісьмо складоў з **і**, **ы** | 1 | Паказаць ролю літары **і** ў складзе пасля зычнай; звярнуць увагу на сэнсаадрознівальнае значэнне слоў з гукамі **і**, **ы** ў складзе; вучыць абазначаць мяккасць папярэдняга зычнага на пісьме літарай **і**, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Практыкаванне ў адпрацоўцы напісання літары **і**, складоў і слоў з літарай **і**. Гукалітарны аналіз складоў тыпу «зы — зі». Тлумачэнне ролі літары **і** ў словах пасля зычных як паказчыка мяккасці папярэдняга зычнага. Адгадванне загадак, завучванне і запіс скорагаворак. Спісванне сказаў, напісаных ад рукі | 12 —14 |
| 50 | Пісьмо складоў з **і**, **ы** | 1 | Паказаць ролю літары **і** ў складзе пасля зычнай; звярнуць увагу на сэнсаадрознівальнае значэнне слоў з гукамі **і**, **ы** ў складзе; вучыць абазначаць мяккасць папярэдняга зычнага на пісьме літарай **і**, сачыць за правільнай паставай пры пісьме | Практыкаванне ў адпрацоўцы напісання літары **і**, складоў і слоў з літарай **і**. Завучванне і запіс скорагаворак. Спісванне сказаў, напісаных ад рукі. Гульнёвае практыкаванне «Хто на лыжні?» (адпрацоўка ўмення складаць словы са складоў, запісваць імёны людзей з вялікай літары) | |
| 51 | Пісьмо слоў са збегам зычных у пачатку і ў канцы | 1 | Вучыць напісанню і чытанню слоў са збегам зычных у пачатку і канцы слова, замацоўваць уменне спісваць з рукапіснага тэксту, адпрацоўваць уменне каліграфічнага спісвання | Чытанне і запіс слоў са збегам зычных у пачатку і канцы слоў, пісьмо пад дыктоўку вывучаных літар, складоў, слоў | 14 |

| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 52 | Пісьмо слоў з вывучанымі літарамі | 1 | Замацоўваць уменне спісваць з друкаванага тэксту, вызначаць месца націску ў словах, вучыць рашаць лінгвістычныя задачы, замацоўваць навык напісання імёнаў людзей з вялікай літары, адпрацоўваць навык каліграфічнага пісьма | Рашэнне лінгвістычных задач, запіс імёнаў людзей, спісванне друкаванага тэксту. Пастаноўка націску ў словах | 15 |
| 53 | Літара **э** | 1 | Вучыць пісаць малую літару **э**, працаваць над рознымі тыпамі злучэнняў у слове, удасканальваць уменне спісваць з тэксту, напісанага ад рукі, адпрацоўваць навыкі каліграфічнага пісьма, фарміраваць уменне правяраць напісанае | Знаёмства з пісьмовай літарай **э**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў. Практыкаванне ў правільным напісанні сказаў. Праверка напісанага | 16 |
| 54 | Літара **Э** | 1 | Вучыць пісаць літару **Э**, працаваць над рознымі тыпамі злучэнняў у слове, удасканальваць уменне спісваць з тэксту, напісанага ад рукі, адпрацоўваць навык напісання імёнаў людзей з вялікай літары | Знаёмства з пісьмовай літарай **Э**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў. Практыкаванне ў правільным напісанні сказаў, імёнаў людзей з вялікай літары. Назіранне за пастаноўкай адпаведнага знаку прыпынку ў канцы клічных сказаў | 17 |
| 55 | Літара **й** | 1 | Вучыць правільна пісаць літару **й** і словы з ёй, удасканальваць уменне пісаць вывучаныя літары, спісваць з друкаванага тэксту, адпрацоўваць уменне каліграфічнага пісьма | Знаёмства з пісьмовай літарай **й**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным, параўнанне яе з літарамі **ш**, **у**. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры пісьмовай літары **й**, пісьмо элементаў літары, самастойнае пісьмо літары. Адпрацоўка напісання слоў з вывучанымі літарамі, клічных сказаў. Разважанні на тэму «Ветлівыя словы». Аналіз літар па падабенстве элементаў | 18 |
| 56 | Пісьмо слоў з **й**, **і** | 1 | Адпрацоўваць навык чытання і пісьма слоў з **й**, **і**, развіццё ўмення дыферэнцыраваць гукі [й’], [і] у словах і адлюстроўваць гэта на пісьме; даваць характарыстыку вывучаным гукам; фарміраваць уменне спісваць з друкаванага тэксту | Пісьмо літар **й**, **і**, гукавы аналіз. Чытанне, аналіз вымаўлення і напісання пар слоў з **й**, **і**. Спісванне з друкаванага тэксту. Гульнёвае практыкаванне «Будаўнікі» (састаўленне і запіс двухскладовых слоў з **й**) | 19 |
| 57 | Пісьмо слоў з **й**, **і** | 1 | Адпрацоўваць навык чытання і пісьма слоў з **й**, **і**, развіццё ўмення дыферэнцыраваць гукі [й’], [і] у словах і адлюстроўваць гэта на пісьме; даваць характарыстыку вывучаным гукам; фарміраваць уменне дзяліць словы з **й** на склады, спісваць з друкаванага тэксту, вызначаць месца націску ў словах | Пісьмо літар **й**, **і**, гукавы аналіз. Чытанне, аналіз вымаўлення і напісання пар слоў з **й**, **і**. Спісванне з друкаванага тэксту. Гульнёвае практыкаванне «Будаўнікі» (састаўленне і запіс двухскладовых слоў з **й**). Вызначэнне націску ў словах | 20 |

| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 58 | Літара **ь** | 1 | Пазнаёміць з літарай **ь**, яе роляй у слове; вучыць чытаць і пісаць словы з **ь** у канцы, удасканальваць уменне пісаць вывучаныя літары, спісваць з друкаванага тэксту, адпрацоўваць уменне каліграфічнага пісьма | Знаёмства з пісьмовай літарай **ь** (мяккі знак), суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Пісьмо літары **ь** (мяккі знак). Пісьмо слоў з літарамі **і**, **ь** па ўзоры. Назіранне за словамі-прадметамі, якія абазначаюць адзін або некалькі прадметаў, выбар напісання ў іх літар **і** або **ь**. Гульнёвае практыкаванне «Знайдзі пару» (запіс адпаведных слоў пад прадметнымі малюнкамі). Складанне сказаў са словамі. Перавод друкаванага тэксту ў пісьмовы | 21 |
| 59 | **Ь** — паказчык мяккасці | 1 | Замацаваць веды пра **ь** як паказчык мяккасці зычных гукаў, вучыць чытаць словы з **ь** у сярэдзіне; спісваць з пісьмовага і друкаванага тэксту з арфаграфічным прагаворваннем, практыкаваць у спісванні слоў з мяккім знакам, пісаць па памяці, пашыраць уяўленні вучняў пра рыб, асваенне прыёмаў абагульнення, групоўкі, класіфікацыі прадметаў | Чытанне слоў (рыс — рысь) парамі, вызначэнне лексічнага значэння слоў, адрозненне ў напісанні. Гукалітарны аналіз слоў. Высвятленне значэння літары **ь** — паказчык мяккасці папярэдняга зычнага гука. Пісьмо пар слоў. Гульнёвыя практыкаванні «Вясёлыя пераўтварэнні» (вугал — вугаль), «Хто тут лішні?» (групоўка прадметаў па асобых прыметах). Спісванне з друкаванага тэксту. Практыкаванне ў напісанні слоў з **ь** у канцы і сярэдзіне слоў. Чытанне і пісьмо па памяці скорагаворкі | 22—23 |
| 60 | Літара **е** | 1 | Навучыць пісаць літару **е**, словы, у якіх літара **е** — асобны склад, запісваць адказ на пытанне; вучыць абазначаць мяккасць папярэдняга зычнага на пісьме літарай **е**, пісьмова адказваць на пытанні, пашырыць веды вучняў па тэме «Свойскія жывёлы» | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **е**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літары, слоў (тыпу «свае», «твае»). Разгляд прадметных малюнкаў, вусныя адказы вучняў, выказванні па тэме «Свойскія жывёлы», практыкаванне ў падборы мянушак жывёлам, складанне сказаў. Пісьмовыя адказы на пытанні. Назіранне, гукалітарны аналіз складоў **ве**, **бе**. Вызначэнне ролі галоснай літары **е** як паказчыка мяккасці зычнага гука на пісьме. Пісьмо слоў, складоў з літарамі **і**, **е**. Чытанне, завучванне, спісванне чыстагаворкі | 24—25 |
| 61 | Літара **Е** | 1 | Вучыць пісаць вялікую літару **Е**, замацаваць веды пра цвёрдыя і мяккія гукі; адпрацоўваць уменне спісваць з друкаванага тэксту, асваенне прыёмаў групоўкі і класіфікацыі, замацоўваць навык напісання імёнаў людзей з вялікай літары, адпрацоўваць уменне каліграфічнага пісьма | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **Е**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў, імёнаў людзей. Практыкаванне ў групоўцы і класіфікацыі прадметаў па асобных прыметах. Спісванне друкаваных слоў. Падзел слоў на склады | 26 |
| 62 | Літара **ц** | 1 | Вучыць пісаць малую літару **ц**, адпрацоўваць правільнае злучэнне літар у слове, адпрацоўваць уменне спісваць з друкаванага і рукапіснага тэксту, асваенне | Знаёмства з пісьмовай малой літарай **ц**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, | 27 |

| 1 | 2 | 3 | | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | прыёмаў групоўкі і класіфікацыі, фарміраваць правільную паставу пры пісьме | самастойнае пісьмо літары, слоў з ёй. Назіранне за роднаснымі словамі, запіс па ўзоры. Класіфікацыя і групоўка слоў — назваў ягад. Вылучэнне ў словах літар мяккіх зычных гукаў. Спісванне з друкаванага тэксту, адрозненне пытальных і клічных сказаў | |
| 63 | Літара **Ц** | 1 | Вучыць пісаць вялікую літару **Ц**, адпрацоўваць тыпы злучэння ў працэсе спісвання з друкаванага і рукапіснага тэксту, адпрацоўваць навык напісання імёнаў людзей і мянушак жывёл з вялікай літары, асваенне прыёмаў групоўкі і класіфікацыі, знаёмства са словамі-«сваякамі» | Знаёмства з пісьмовай вялікай літарай **Ц**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літар, слоў. Напісанне імёнаў людзей і мянушак жывёл з вялікай літары. Практыкаванне ў групоўцы і класіфікацыі прадметаў па асобных прыметах: гульнёвае практыкаванне «Птушкі». Спісванне з друкаванага тэксту. Падзел слоў на склады. Назіранне за словамі-«сваякамі» | 28—29 |
| 64 | Літара **ў** | 1 | Вучыць правільна пісаць літару **ў** і словы з ёй, адпрацоўваць навык чытання і спісвання слоў і сказаў, напісаных ад рукі | Знаёмства з напісаннем літары **ў**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літары, слоў. Спісванне з рукапіснага тэксту | 30 |
| 65 | Пісьмо слоў з **й**, **у** | 1 | Вучыць дыферэнцыраваць гукі [ў], [й] у словах і правільна абазначаць іх на пісьме, адпрацоўваць навык спісвання, развіваць лагічнае мысленне | Пісьмо літар **й**, **у**, пар слоў з гэтымі літарамі. Практыкаванне ў правільным вымаўленні і абазначэнні літар **й**, **у** на пісьме. Групоўка і класіфікацыя слоў-прадметаў. Спісванне з друкаванага і рукапіснага тэксту. Назіранне і запіс слоў з супрацьлеглым значэннем | 31—32 |
| 66 | Літара **я** пасля зычных | 1 | Паказаць ролю літары **я** ў складзе пасля зычнай, вучыць абазначаць мяккасць папярэдняга зычнага на пісьме адпаведнымі літарамі, адпрацоўваць навык напісання імёнаў людзей з вялікай літары | Адпрацоўка пісьма малой літары **я**. Суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары. Абвядзенне па контуры, самастойнае пісьмо літары. Запіс слоў, аналіз напісання, знаходжанне літар, якімі розняцца пары слоў. Назіранне за роляй літары **я** ў слове як паказчыка мяккасці папярэдняй літары. Пісьмовы адказ на пытанне. Пісьмо складоў з **а**, **я**, **е** | 33 |
| 67 | Літара **Я** | 1 | Вучыць пісаць вялікую літару **Я**, адпрацоўваць навык каліграфічнага напісання вывучаных літар, практыкаваць у спісванні з друкаванага і пісьмовага тэксту, замацоўваць уменне вызначаць месца націску ў словах, паказваць літары мяккіх зычных гукаў | Знаёмства з напісаннем вялікай літары **Я**, суаднясенне яе графічнага пісьмовага вобраза з друкаваным. Тлумачэнне напісання літары, узор настаўніка. Абвядзенне па контуры, дапісванне, самастойнае пісьмо літары, слоў — імёнаў людзей. Гульнёвыя практыкаванні «Хто ў парку» (састаўленне са складоў і запіс слоў — імёнаў людзей), «Кветкі» (паказ літар мяккіх зычных). Спісванне з друкаванага тэксту з папярэдняй групоўкай слоў. Адгадванне загадкі, пастаноўка націску ў словах | 34 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 41 | Састаў ліку 9 | 1 | Пазнаёміць з саставам ліку 9;<br>практыкаваць у параўнанні лікаў ад 1 да 9 на прадметнай аснове і на аснове ведаў саставу лікаў;<br>вучыць запісваць лікавыя роўнасці і няроўнасці з лікамі ад 1 да 9;<br>фарміраваць уменне рашаць простыя задачы, якія раскрываюць сэнс дзеянняў складання і аднімання | *Састаўленне схем і лікавых роўнасцей, якія ілюструюць састаў ліку 9*<br>*Параўнанне лікаў на прадметнай аснове і на аснове ведаў саставу лікаў*<br>*Рашэнне простых задач, якія раскрываюць сэнс дзеянняў складання і аднімання*<br>[1] Ч. 1: урок 42 (с. 86—87)<br>[2] Ч. 1: урок 42 (с. 44) |
| 42 | Складанне і адніманне ў межах дзевяці на практычнай аснове | 1 | Практыкаваць у выкананні складання і аднімання лікаў на практычнай аснове;<br>практыкаваць у параўнанні лікаў ад 1 да 9;<br>фарміраваць уменне рашаць простыя задачы, якія раскрываюць сэнс дзеянняў складання і аднімання | *Выкананне дзеянняў складання і аднімання на практычнай аснове і на аснове парадку следавання лікаў у натуральным радзе*<br>*Параўнанне лікаў*<br>*Рашэнне простых задач, якія раскрываюць сэнс дзеянняў складання і аднімання*<br>[1] Ч. 1: урок 43 (с. 88—89)<br>[2] Ч. 1: урок 43 (с. 45) |
| 43 | Задачы, якія раскрываюць сэнс дзеяння складання са словамі «столькі ж» | 1 | Фарміраваць уменне рашаць простыя задачы, якія раскрываюць сэнс дзеяння складання, са словамі «столькі ж»;<br>практыкаваць у выкананні складання і аднімання лікаў на практычнай аснове;<br>практыкаваць у параўнанні лікаў ад 1 да 9 | *Рашэнне простых задач, якія раскрываюць сэнс дзеяння складання, са словамі «столькі ж»*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове парадку следавання лікаў у натуральным радзе*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>[1] Ч. 1: урок 44 (с. 90—91)<br>[2] Ч. 1: урок 44 (с. 46) |
| 44 | Замацаванне | 1 | Замацоўваць веды саставу вывучаных лікаў;<br>фарміраваць уменне выконваць складанне і адніманне лікаў на практычнай аснове;<br>замацоўваць уменне параўноўваць лікі ад 1 да 9;<br>фарміраваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Састаўленне і запіс лікавых роўнасцей, якія ілюструюць састаў вывучаных лікаў*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на практычнай аснове*<br>*Параўнанне лікаў*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 1: урок 45 (с. 92—93)<br>[2] Ч. 1: урок 45 (с. 47) |
| 45 | Лік і лічба 0 | 1 | Пазнаёміць з лікам і лічбай 0;<br>вызначыць месца ліку 0 у радзе цэлых неадмоўных лікаў;<br>практыкаваць у параўнанні лікаў ад 0 да 9;<br>фарміраваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое не ўтрымлівае ніводнага элемента, лікам 0*<br>*Вызначэнне месца ліку 0 у радзе лікаў*<br>*Параўнанне вывучаных лікаў з лікам 0*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на практычнай аснове*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 1: урок 46 (с. 94—95)<br>[2] Ч. 1: урок 46 (с. 48) |
| 46 | Складанне і адніманне з нулём на практычнай аснове | 1 | Пазнаёміць з выпадкамі складання і аднімання з лікам 0;<br>вучыць параўноўваць лікі на аснове ведаў саставу ліку;<br>фарміраваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Выкананне дзеянняў складання і аднімання з лікам 0 на практычнай аснове*<br>*Параўнанне лікаў на аснове ведаў саставу лікаў*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 1: урок 47 (с. 96—97)<br>[2] Ч. 1: урок 47 (с. 49) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 47<br>48<br>49<br>50 | Замацаванне | 4 | Абагуліць веды, атрыманыя пры вывучэнні нумарацыі лікаў першага дзясятка;<br>замацоўваць веды саставу вывучаных лікаў;<br>замацоўваць уменне выконваць складанне і адніманне ў межах дзевяці на практычнай аснове;<br>замацоўваць уменне параўноўваць вывучаныя лікі;<br>фарміраваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Упарадкаванне лікаў, павелічэнне і памяншэнне лікаў на 1*<br>*Параўнанне лікаў на практычнай аснове, на аснове парадку следавання лікаў у натуральным радзе, саставу лікаў*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на практычнай аснове, на аснове парадку следавання лікаў у натуральным радзе*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 1: урокі 48—50 (с. 98—103)<br>[2] Ч. 1: урокі 48—50 (с. 50—52) |
| ***3 чвэрць* (36 г)** | | | | |
| **Частка 2 (70 г)** | | | | |
| **Двухзначныя лікі да 20 (60 г)** | | | | |
| 51 | Лік 10 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем і абазначэннем ліку 10, паняццем «дзясятак»;<br>разгледзець разнастайныя выпадкі саставу ліку 10;<br>вучыць запісваць лікавыя роўнасці і няроўнасці з лікам 10;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з дзесяці элементаў, лікам 10*<br>*Састаўленне і запіс лікавых роўнасцей, якія ілюструюць састаў ліку 10*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў лікавых выразаў*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 51 (с. 4—5)<br>[2] Ч. 2: урок 51 (с. 3) |
| 52 | Лік 11 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем, абазначэннем і дзесятковым саставам ліку 11;<br>вучыць складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу;<br>вучыць запісваць лікавыя роўнасці і няроўнасці з лікам 11;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з адзінаццаці элементаў, лікам11*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу ліку 11*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на практычнай аснове і на аснове парадку следавання лікаў у натуральным радзе*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 52 (с. 6—7)<br>[2] Ч. 2: урок 52 (с. 4) |
| 53 | Лік 12 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем, абазначэннем і дзесятковым саставам ліку 12;<br>вучыць складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з дванаццаці элементаў, лікам 12*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу ліку 12*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 53 (с. 8—9)<br>[2] Ч. 2: урок 53 (с. 5) |
| 54 | Лік 13 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем, абазначэннем і дзесятковым саставам ліку 13;<br>вучыць складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу;<br>замацоўваць веды саставу ліку 10;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з трынаццаці элементаў, лікам 13*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу ліку 13*<br>*Запаўненне табліцы, якая ілюструе састаў ліку 13* |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | | | *Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 54 (с. 10—11)<br>[2] Ч. 2: урок 54 (с. 6) |
| 55 | Лік 14 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем, абазначэннем і дзесятковым саставам ліку 14;<br>вучыць складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу;<br>замацоўваць веды саставу вывучаных лікаў;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з чатырнаццаці элементаў, лікам 14*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу ліку 14*<br>*Запаўненне схем, якія ілюструюць састаў вывучаных лікаў*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 55 (с. 12—13)<br>[2] Ч. 2: урок 55 (с. 7) |
| 56 | Лік 15 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем, абазначэннем і дзесятковым саставам ліку 15;<br>вучыць складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу;<br>замацоўваць веды саставу вывучаных лікаў;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з пятнаццаці элементаў, лікам 15*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу ліку 15*<br>*Састаўленне роўнасцей, якія ілюструюць састаў вывучаных лікаў*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 56 (с. 14—15)<br>[2] Ч. 2: урок 56 (с. 8) |
| 57 | Замацаванне | 1 | Замацоўваць:<br>веды аб утварэнні, абазначэнні і дзесятковым саставе лікаў ад 10 да 15;<br>веды саставу лікаў у межах 10;<br>уменне выконваць складанне і адніманне, заснаванае на веданні дзесятковага саставу лікаў;<br>уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Утварэнне, чытанне і запіс лікаў ад 10 да 15*<br>*Вызначэнне дзесятковага саставу вывучаных двухзначных лікаў, саставу адназначных лікаў*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу лікаў*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 57 (с. 16—17)<br>[2] Ч. 2: урок 57 (с. 9) |
| 58 | Адзінка часу: гадзіна | 1 | Пазнаёміць з адзінкай вымярэння часу — гадзінай;<br>вучыць вызначаць час з дакладнасцю да гадзіны;<br>замацоўваць навыкі вылічэнняў на практычнай аснове, на аснове ведаў дзесятковага саставу лікаў, на аснове парадку следавання лікаў у натуральным радзе;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Вызначэнне часу па цыферблатным гадзінніку*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на практычнай аснове, на аснове ведаў дзесятковага саставу лікаў, месца ліку ў радзе лікаў, парадку следавання лікаў у натуральным радзе*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 58(с. 18—19)<br>[2] Ч. 2: урок 58 (с. 10) |
| 59 | Лік 16 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем, абазначэннем і дзесятковым саставам ліку 16;<br>вучыць складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з шаснаццаці элементаў, лікам 16*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу ліку 16*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 59 (с. 20—21)<br>[2] Ч. 2: урок 59 (с. 11) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 60 | Лік 17 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем, абазначэннем і дзесятковым саставам ліку 17; вучыць складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу і парадку следавання лікаў у натуральным радзе; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з сямнаццаці элементаў, лікам 17* *Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу вывучаных лікаў і на аснове парадку следавання лікаў у натуральным радзе* *Рашэнне простых задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урок 60 (с. 22—23) [2] Ч. 2: урок 60 (с. 12) |
| 61 | Лік 18 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем, абазначэннем і дзесятковым саставам ліку 18; вучыць складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу і парадку следавання лікаў у натуральным радзе; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з васямнаццаці элементаў, лікам 18* *Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу вывучаных лікаў і парадку следавання лікаў у натуральным радзе* *Рашэнне простых задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урок 61 (с. 24—25) [2] Ч. 2: урок 61 (с. 13) |
| 62 | Задачы на павелічэнне ліку на некалькі адзінак (з адным мноствам прадметаў) | 1 | Пазнаёміць з задачамі на павелічэнне ліку на некалькі адзінак («стала на ... больш»); замацоўваць веды дзесятковага саставу вывучаных лікаў; змацоваць уменне параўноўваць, складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу, парадку следавання лікаў у натуральным радзе, на практычнай аснове | *Абгрунтаванне выбару арыфметычнага дзеяння да задачы* *Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове ведаў дзесятковага саставу лікаў, парадку следавання лікаў у натуральным радзе, на практычнай аснове* *Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў* [1] Ч. 2: урок 62 (с. 26—27) [2] Ч. 2: урок 62 (с. 14) |
| 63 | Лік 19 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем, абазначэннем і дзесятковым саставам ліку 19; вучыць складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу і парадку следавання лікаў у натуральным радзе; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з дзевятнаццаці элементаў, лікам 19* *Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу вывучаных лікаў і на аснове парадку следавання лікаў у натуральным радзе* *Рашэнне простых задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урок 63 (с. 28—29) [2] Ч. 2: урок 63 (с. 15) |
| 64 | Лік 20 | 1 | Пазнаёміць з утварэннем, абазначэннем і дзесятковым саставам ліку 20; вучыць складаць і аднімаць лікі на аснове дзесятковага саставу і парадку следавання лікаў у натуральным радзе; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Абазначэнне колькасці мноства, якое складаецца з дваццаці элементаў, лікам 20* *Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу вывучаных лікаў і на аснове парадку следавання лікаў у натуральным радзе* *Рашэнне простых задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урок 64 (с. 30—31) [2] Ч. 2: урок 64 (с. 16) |
| 65 | Задачы на памяншэнне ліку на некалькі адзінак (з адным мноствам прадметаў) | 1 | Пазнаёміць з задачамі на памяншэнне ліку на некалькі адзінак («засталося на ... менш»); фарміраваць уменне выконваць складанне і адніманне, заснаванае на ведах дзесятковага саставу лікаў; замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў | *Абгрунтаванне выбару арыфметычнага дзеяння да задачы* *Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу ліку* *Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў* [1] Ч. 2: урок 65 (с. 32—33) [2] Ч. 2: урок 65 (с. 17) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 66<br>67 | Замацаванне | 2 | Замацоўваць веды дзесятковага саставу лікаў;<br>замацоўваць уменне выконваць складанне і адніманне, заснаванае на ведах дзесятковага саставу лікаў;<br>замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў;<br>замацоўваць уменне вызначаць час з дакладнасцю да гадзіны | *Утварэнне, чытанне і запіс лікаў ад 10 да 20*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове ведаў дзесятковага саставу лікаў*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Вызначэнне часу з дакладнасцю да гадзіны*<br>[1] Ч. 2: урок 66 (с. 34—35)<br>[2] Ч. 2: урок 66 (с. 18) |
| 68 | Прамая лінія. Крывая лінія | 1 | Пазнаёміць з прамой і крывой лініямі;<br>замацоўваць веды дзесятковага саставу двухзначных лікаў да 20;<br>замацоўваць уменне выконваць складанне | *Распазнаванне і пабудова прамой і крывой ліній*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання на аснове дзесятковага саставу ліку і на практычнай аснове*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 67 (с. 36—37)<br>[2] Ч. 2: урок 67 (с. 19) |
| 69 | Таблічнае складанне і адніманне з лікам 1 | 1 | Навучыць прылічваць па адзінцы без апоры на прадметную нагляднасць і састаўляць адпаведныя табліцы;<br>замацоўваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў;<br>замацоўваць уменне распазнаваць і будаваць прамую і крывую лініі | *Выкананне дзеянняў складання і аднімання з выкарыстаннем прыёму прылічвання і адлічвання 1*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Пабудова прамой і крывой ліній*<br>[1] Ч. 2: урок 68 (с. 38—39)<br>[2] Ч. 2: урок 68 (с. 20) |
| 70 | Прыём прыбаўлення па частках | 1 | Разгледзець прыём прыбаўлення ліку па частках;<br>адпрацоўваць навык прыбаўлення і аднімання адзінкі без апоры на прадметную нагляднасць;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Выкананне дзеянняў складання і аднімання з выкарыстаннем прыёму прыбаўлення і аднімання па частках*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 69 (с. 40—41)<br>[2] Ч. 2: урок 69 (с. 21) |
| 71 | Таблічнае складанне<br>і адніманне з лікам 2 | 1 | Фарміраваць уменне выкарыстоўваць пры выкананні вылічэнняў прыём прыбаўлення і аднімання ліку 2 па частках;<br>замацоўваць веды таблічных выпадкаў прыбаўлення і аднімання адзінкі;<br>замацоўваць веды саставу вывучаных адназначных лікаў;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Прыбаўленне і адніманне ліку 2 у межах 10*<br>*Састаўленне роўнасцей, якія ілюструць састаў вывучаных адназначных лікаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 70 (с. 42—43)<br>[2] Ч. 2: урок 70 (с. 22) |
| 72 | Пазатаблічнае складанне і адніманне<br>з лікам 2 | 1 | Фарміраваць уменне выконваць прыбаўленне і адніманне ліку 2 у межах 20 без пераходу цераз дзясятак;<br>замацоўваць веды вывучаных таблічных выпадкаў складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў;<br>практыкаваць у вызначэнні часу па цыферблатным гадзінніку;<br>вучыць будаваць прамыя і крывыя лініі;<br>замацоўваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Прыбаўленне і адніманне ліку 2 у межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 1 і 2 у межах 10*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Вызначэнне часу па цыферблатным гадзінніку*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Пабудова прамой і крывой ліній*<br>[1] Ч. 2: урок 71 (с. 44—45)<br>[2] Ч. 2: урок 71 (с. 23) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 73 | Назвы кампанентаў і выніку дзеяння складання | 1 | Пазнаёміць з назвамі кампанентаў і выніку дзеяння складання;<br>замацоўваць вывучаныя выпадкі таблічнага і пазатаблічнага складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Чытанне прыкладаў з выкарыстаннем назваў кампанентаў і выніку дзеяння складання*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 1 і 2 у межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 72 (с. 46—47)<br>[2] Ч. 2: урок 72 (с. 24) |
| 74 | Назвы кампанентаў і выніку дзеяння аднімання | 1 | Пазнаёміць з назвамі кампанентаў і выніку дзеяння аднімання;<br>працягнуць работу над замацаваннем вывучаных выпадкаў таблічнага і пазатаблічнага складання і аднімання;<br>фарміраваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Чытанне прыкладаў з выкарыстаннем назваў кампанентаў і выніку дзеяння аднімання*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 1 і 2 у межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 73 (с. 48—49)<br>[2] Ч. 2: урок 73 (с. 25) |
| 75 | Замацаванне | 1 | Замацоўваць веды вывучаных выпадкаў таблічнага і пазатаблічнага складання і аднімання;<br>замацоўваць веды назваў кампанентаў і вынікаў дзеянняў складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў;<br>замацоўваць уменне будаваць прамую і крывую лініі;<br>замацоўваць уменне вызначаць час з дакладнасцю да гадзіны | *Прыбаўленне і адніманне лікаў 1 і 2 у межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Чытанне прыкладаў з выкарыстаннем назваў кампанентаў і выніку дзеяння аднімання*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Пабудова прамой і крывой ліній*<br>*Вызначэнне часу па цыферблатным гадзінніку*<br>Метадычныя рэкамендацыі да ўрока прапануюцца ў вучэбна-метадычным дапаможніку для настаўніка «Матэматыка ў 1 класе» (2015 г.) |
| 76 | Павялічыць на лік. Паменшыць на лік | 1 | Пазнаёміць з павелічэннем ліку на некалькі адзінак;<br>замацоўваць вывучаныя таблічныя і пазатаблічныя выпадкі складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў;<br>замацоўваць уменне вызначаць час па цыферблатным гадзінніку | *Павелічэнне і памяншэнне лікаў на 1 і 2*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 1 і 2 у межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Састаўленне і рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Вызначэнне часу па цыферблатным гадзінніку*<br>[1] Ч. 2: урок 74 (с. 50—51)<br>[2] Ч. 2: урок 74 (с. 26) |
| 77 | Задачы на павелічэнне ліку на некалькі адзінак (з двума мноствамі прадметаў) | 1 | Пазнаёміць з задачамі на павелічэнне ліку на некалькі адзінак;<br>замацоўваць вывучаныя таблічныя і пазатаблічныя выпадкі складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў | *Абгрунтаванне выбару арыфметычнага дзеяння да задачы*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 1 і 2 у межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>[1] Ч. 2: урок 75 (с. 52—53)<br>[2] Ч. 2: урок 75 (с. 27) |
| 78 | Задачы на памяншэнне ліку на некалькі адзінак (з двума мноствамі прадметаў) | 1 | Пазнаёміць з задачамі на памяншэнне ліку на некалькі адзінак;<br>замацоўваць вывучаныя таблічныя і пазатаблічныя выпадкі складання і аднімання;<br>фарміраваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Абгрунтаванне выбару арыфметычнага дзеяння да задачы*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 1 і 2 у межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 76 (с. 54—55)<br>[2] Ч. 2: урок 76 (с. 28) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 79 | Таблічнае складанне і адніманне з лікам 3 | 1 | Пазнаёміць з прыёмамі прыбаўлення і аднімання ліку 3 па частках; замацоўванне ведаў назваў кампанентаў і вынікаў дзеянняў складання і аднімання; замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў; фарміраваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Прыбаўленне і адніманне па частках ліку 3 у межах 10*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 77 (с. 56—57)<br>[2] Ч. 2: урок 77 (с. 29) |
| 80 | Пазатаблічнае складанне і адніманне з лікам 3 | 1 | Фарміраваць уменне выконваць прыбаўленне і адніманне ліку 3 ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак; замацоўваць веды вывучаных таблічных і пазатаблічных выпадкаў складання і аднімання; змацоўваць уменне вызначаць суседзяў вывучаных лікаў; вучыць устанаўліваць паказанні часу на цыферблаце; замацоўваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Прыбаўленне і адніманне ліку 3 ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 1, 2 і 3 у межах 10*<br>*Вызначэнне суседзяў ліку*<br>*Вызначэнне паказанняў часу*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 78 (с. 58—59)<br>[2] Ч. 2: урок 78 (с. 30) |
| 81 | Кропка. Адрэзак | 1 | Пазнаёміць з паняццямі «кропка», «адрэзак»; замацоўваць веды вывучаных таблічных і пазатаблічных выпадкаў складання і аднімання; замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў; замацоўваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Распазнаванне кропкі і адрэзка*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 1, 2 і 3 у межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 79 (с. 60—61)<br>[2] Ч. 2: урок 79 (с. 31) |
| 82 | Таблічнае складанне і адніманне з лікам 4 | 1 | Пазнаёміць з прыёмам прыбаўлення і аднімання ліку 4 па частках; замацоўваць веды вывучаных выпадкаў складання і аднімання; фарміраваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Прыбаўленне і адніманне па частках ліку 4 у межах 10*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 1, 2 і 3 у межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 80 (с. 62—63)<br>[2] Ч. 2: урок 80 (с. 32) |
| 83 | Пазатаблічнае складанне і адніманне з лікам 4 | 1 | Фарміраваць уменне выконваць прыбаўленне і адніманне ліку 4 у межах 20 без пераходу цераз дзясятак; працягнуць работу над замацаваннем вывучаных таблічных і пазатаблічных выпадкаў складання і аднімання; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў; замацоўваць уменне вызначаць час з дакладнасцю да гадзіны; вучыць распазнаваць прамую, крывую, кропку, адрэзак | *Прыбаўленне і адніманне лікаў 2, 3, 4 у межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 2, 3, 4 у межах 10*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Вызначэнне часу па цыферблатным гадзінніку*<br>*Распазнаванне прамой, крывой, кропкі, адрэзка*<br>[1] Ч. 2: урок 81 (с. 64—65)<br>[2] Ч. 2: урок 81 (с. 33) |
| 84<br>85<br>86 | Замацаванне | 3 | Замацоўваць веды вывучаных таблічных складання і аднімання; замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў; рыхтаваць да ўвядзення схематычнага чарцяжу для мадэлявання тэксту задачы; замацоўваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў | *Прыбаўленне і адніманне лікаў 2, 3, 4 у межах 10 і 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 82 (с. 66—67)<br>[2] Ч. 2: урок 82 (с. 34)<br>Дадатковыя метадычныя рэкамендацыі да ўрока прапануюцца ў вучэбна-метадычным дапаможніку для настаўніка «Матэматыка ў 1 класе» (2015 г.) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | ***4 чвэрць* (34 г)** | | |
| 87 | Перастаноўка складаемых. Таблічнае складанне з лікам 5 | 1 | Пазнаёміць з перамяшчальнай уласцівасцю складання;<br>пазнаёміць з прыёмам прыбаўлення ліку 5 на аснове перамяшчальнай уласцівасці складання;<br>замацоўваць веды вывучаных таблічных і пазатаблічных выпадкаў складання і аднімання;<br>вучыць працаваць са схематычным чарцяжом як сродкам мадэлявання тэксту задачы, рашаць задачы вывучаных відаў | *Прыбаўленне ліку 5 з выкарыстаннем перамяшчальнай уласцівасці складання*<br>*Прыбаўленне лікаў 2, 3, 4 у межах 10 і 20*<br>*Параўнанне значэнняў лікавых выразаў*<br>*Рашэнне задач з апорай на схематычны чарцёж*<br>[1] Ч. 2: урокі 83—84 (с. 68—71)<br>[2] Ч. 2: урокі 83—84 (с. 35—36) |
| 88 | Таблічнае складанне з лікамі 6, 7 | 1 | Пазнаёміць з прыёмам прыбаўлення лікаў 6 і 7 у межах 10;<br>замацоўваць веды вывучаных выпадкаў таблічнага і пазатаблічнага складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў;<br>замацоўваць уменне вызначаць час з дакладнасцю да гадзіны | *Прыбаўленне лікаў 6 і 7 у межах 10*<br>*Прыбаўленне лікаў 2, 3, 4 у межах 10 і 20*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Вызначэнне часу па цыферблатным гадзінніку*<br>[1] Ч. 2: урок 85 (с. 72—73)<br>[2] Ч. 2: урок 85 (с. 37) |
| 89 | Прыклады ў два дзеянні са знакамі «+» і «–» | 1 | Пазнаёміць з рашэннем прыкладаў у два дзеянні са знакамі «+» і «–»;<br>замацоўваць веды вывучаных таблічных і пазатаблічных выпадкаў складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Рашэнне прыкладаў у два дзеянні*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 2, 3, 4 у межах 10 і 20, прыбаўленне лікаў 5, 6, 7 у межах 10*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урокі 86, 89 (с. 74—75; 80—81)<br>[2] Ч. 2: урокі 86, 89 (с. 38; 41) |
| 90 | Таблічнае складанне з лікамі 8, 9 | 1 | Пазнаёміць з прыёмам прыбаўлення лікаў 8 і 9 у межах 10;<br>замацоўваць веды вывучаных таблічных і пазатаблічных выпадкаў складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Прыбаўленне лікаў 8 і 9 у межах 10*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 2, 3, 4 у межах 10 і 20, прыбаўленне лікаў 5, 6, 7 у межах 10*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 87 (с. 76—77)<br>[2] Ч. 2: урок 87 (с. 39) |
| 91 | Пазатаблічнае складанне з лікамі 5...9 | 1 | Пазнаёміць з прыбаўленнем лікаў 5, 6, 7, 8 і 9 у межах 20 без пераходу цераз дзясятак;<br>замацоўваць вывучаныя выпадкі таблічнага і пазатаблічнага складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Прыбаўленне лікаў 5, 6, 7, 8, 9 у межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Прыбаўленне адназначных лікаў у межах 10, прыбаўленне лікаў 2, 3, 4 у межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 88 (с. 78—79)<br>[2] Ч. 2: урок 88 (с. 40) |
| 92 | Пазатаблічнае складанне з утварэннем 20 | 1 | Пазнаёміць са складаннем з утварэннем 20 без пераходу цераз дзясятак;<br>замацоўваць вывучаныя выпадкі таблічнага і пазатаблічнага складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў;<br>замацоўваць уменне вызначаць час з дакладнасцю да гадзіны | *Выкананне дзеяння складання з утварэннем ліку 20*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання у межах 10 і 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Вызначэнне часу па цыферблатным гадзінніку*<br>[1] Ч. 2: урок 90 (с. 82—83)<br>[2] Ч. 2: урок 90 (с. 42) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 93 | Замацаванне | 1 | Замацоўваць вывучаныя выпадкі складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Прыбаўленне і адніманне лікаў 2, 3, 4 у межах 10 і 20, прыбаўленне лікаў 5, 6, 7, 8, 9 у межах 10 і 20*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урок 91 (с. 84—85)<br>[2] Ч. 2: урок 91 (с. 43) |
| 94 | Сувязь паміж сумай і складаемымі. Таблічнае адніманне з лікам 5 | 1 | Пазнаёміць з сувяззю паміж сумай і складаемымі;<br>пазнаёміць з прыёмам аднімання ліку 5 у межах 10 на аснове ведаў сувязі паміж сумай і складаемымі;<br>замацоўваць вывучаныя таблічныя і пазатаблічныя выпадкі складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў;<br>замацоўваць уменне вызначаць час з дакладнасцю да гадзіны | *Састаўленне прыкладаў на аснове сувязі паміж сумай і складаемымі*<br>*Адніманне ліку 5 на аснове сувязі паміж сумай і складаемымі*<br>*Прыбаўленне і адніманне лікаў 2, 3, 4 у межах 10 і 20, прыбаўленне лікаў 5, 6, 7, 8, 9 у межах 10 і 20*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Аднаўленне паказанняў цыферблатнага гадзінніка*<br>[1] Ч. 2: урокі 92—93 (с. 86—89)<br>[2] Ч. 2: урок 92—93 (с. 44—45) |
| 95 | Таблічнае адніманне з лікамі 6, 7 | 1 | Пазнаёміць з прыёмам аднімання лікаў 6 і 7 у межах 10;<br>замацоўваць веды назваў кампанентаў і вынікаў дзеянняў складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Адніманне лікаў 6 і 7 на аснове сувязі паміж сумай і складаемымі*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання вывучаных відаў*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 94 (с. 90—91)<br>[2] Ч. 2: урок 94 (с. 46) |
| 96 | Таблічнае адніманне з лікамі 8, 9 | 1 | Пазнаёміць з прыёмам аднімання лікаў 8 і 9 у межах 10;<br>замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў;<br>замацоўваць уменне рашаць і састаўляць простыя задачы вывучаных відаў | *Адніманне лікаў 8 і 9 на аснове сувязі паміж сумай і складаемымі*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання вывучаных відаў*<br>*Параўнанне лікаў і лікавых выразаў*<br>*Састаўленне простых задач па кароткім запісе і схеме*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 95 (с. 92—93)<br>[2] Ч. 2: урок 95 (с. 47) |
| 97 | Пазатаблічнае адніманне з лікамі 5, 6, 7, 8, 9 | 1 | Пазнаёміць з адніманнем віду 19 — 5 у межах 20 без пераходу цераз дзясятак;<br>пазнаёміць з адніманнем віду 19 — 14 на аснове сувязі паміж сумай і складаемымі;<br>замацоўваць уменне састаўляць і рашаць прыклады ў два дзеянні;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Адніманне лікаў 5, 6, 7, 8, 9 у межах 20 без пераходу цераз дзясятак;*<br>*Выкананне аднімання віду 19 — 14 на аснове ўзаемасувязі паміж складаннем і адніманнем*<br>*Рашэнне прыкладаў у два дзеянні*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 96 (с. 94—95)<br>[2] Ч. 2: урок 96 (с. 48) |
| 98 | Задачы, якія раскрываюць сэнс дзеяння складання са словамі «столькі, колькі...» | 1 | Пазнаёміць з задачамі, якія раскрываюць сэнс дзеяння складання са словамі «столькі, колькі...»;<br>вучыць працаваць са схематычным чарцяжом як сродкам мадэлявання тэксту задачы;<br>замацоўваць вывучаныя таблічныя і пазатаблічныя выпадкі складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне рашаць прыклады ў два дзеянні | *Абгрунтаванне выбару арыфметычнага дзеяння да задачы*<br>*Адніманне лікаў у межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Адніманне віду 19 — 14 на аснове сувязі паміж складаннем і адніманнем*<br>*Рашэнне прыкладаў ў два дзеянні*<br>[1] Ч. 2: урок 97 (с. 96—97)<br>[2] Ч. 2: урок 97 (с. 49) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 99 | Пазатаблічнае адніманне ад ліку 20 | 1 | Пазнаёміць з адніманнем ад ліку 20 без пераходу цераз дзясятак; замацоўваць уменне састаўляць і рашаць прыклады ў два дзеянні; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Адніманне адназначных лікаў ад ліку 20* *Рашэнне прыкладаў у два дзеянні* *Рашэнне простых задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урок 99 (с. 100—101) [2] Ч. 2: урок 99 (с. 51) |
| 100 | Замацаванне | 1 | замацоўваць веды вывучаных выпадкаў таблічнага і пазатаблічнага складання і аднімання; замацоўваць уменне рашаць прыклады ў два дзеянні; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Складанне і адніманне ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак* *Адніманне віду 19 — 14 на аснове сувязі паміж складаннем і адніманнем* *Рашэнне прыкладаў у два дзеянні* *Рашэнне простых задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урок 100 (с. 102—103) [2] Ч. 2: урок 100 (с. 52) |
| 101 | Параўнанне даўжынь прадметаў на аснове пачуццёвага ўспрымання і з дапамогай умоўнай меркі | 1 | Удакладніць уяўленні дзяцей пра спосабы параўнання даўжынь прадметаў (прыкладаннем, накладаннем, «на вока»); пазнаёміць са спосабам вымярэння даўжынь з дапамогай умоўнай меркі; замацоўваць веды вывучаных выпадкаў таблічнага і пазатаблічнага складання і аднімання; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Параўнанне даўжынь прадметаў на аснове пачуццёвага ўспрымання і з дапамогай умоўнай меркі* *Складанне і адніманне вывучаных відаў* *Рашэнне простых задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урокі 98; 101 (с. 98—99; 104—105) [2] Ч. 2: урокі 98; 101 (с. 50; 53) |
| 102 | Адзінка даўжыні: сантыметр. Лінейка, вымярэнне даўжынь адрэзкаў | 1 | Пазнаёміць з адзінкай вымярэння даўжыні — сантыметрам; пазнаёміць з лінейкай, вучыць карыстацца лінейкай для вымярэння даўжынь адрэзкаў; замацоўваць веды вывучаных выпадкаў таблічнага і пазатаблічнага складання і аднімання; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Параўнанне даўжынь адрэзкаў з дапамогай адзінкі даўжыні — сантыметра* *Вымярэнне даўжынь адрэзкаў з дапамогай лінейкі* *Складанне і адніманне вывучаных відаў* *Рашэнне простых задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урокі 102—103 (с. 106—109) [2] Ч. 2: урокі 102—103 (с. 54—55) |
| 103 | Пабудова адрэзка | 1 | Пазнаёміць з пабудовай адрэзка зададзенай даўжыні з дапамогай лінейкі; замацоўваць уменне карыстацца лінейкай для вымярэння даўжынь адрэзкаў; пазнаёміць з параўнаннем лікавых значэнняў даўжыні; замацоўваць веды вывучаных выпадкаў таблічнага і пазатаблічнага складання і аднімання; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Пабудова адрэзка зададзенай даўжыні* *Вымярэнне даўжыні адрэзка* *Параўнанне лікавых значэнняў даўжыні* *Складанне і адніманне вывучаных відаў* *Рашэнне простых задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урок 104 (с. 110—111) [2] Ч. 2: урокі 104 (с. 56) |
| 104 | Пабудова адрэзка, даўжэйшага (карацейшага) чым дадзены на ... см | 1 | Вучыць будаваць адрэзак даўжэйшы чым дадзены на некалькі сантыметраў; замацоўваць уменне карыстацца лінейкай для вымярэння даўжынь адрэзкаў; пазнаёміць са складаннем і адніманнем лікавых значэнняў даўжыні; замацоўваць веды вывучаных выпадкаў складання і аднімання; замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Пабудова адрэзка, даўжэйшага (карацейшага) чым дадзены Вымярэнне даўжыні адрэзка* *Складанне і адніманне лікавых значэнняў даўжыні* *Складанне і адніманне вывучаных відаў* *Рашэнне простых задач вывучаных відаў* [1] Ч. 2: урокі 105—106 (с. 112—115) [2] Ч. 2: урок 105—106 (с. 57—58) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 105 | Адзінка даўжыні: дэцыметр | 1 | Пазнаёміць з адзінкай вымярэння даўжыні — дэцыметрам;<br>увесці адносіны паміж адзінкамі вымярэння даўжыні: 1 дм = 10 см;<br>замацоўваць уменне рашаць прыклады і задачы вывучаных відаў | *Вымярэнне даўжынь прадметаў, вызначэнне значэнняў даўжынь у дэцыметрах*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання вывучаных відаў*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 107 (с. 116—117)<br>[2] Ч. 2: урок 107 (с. 59) |
| 106 | Адзінкі даўжыні: дэцыметр і сантыметр | 1 | Вучыць выражаць вынік вымярэння даўжыні ў дэцыметрах і сантыметрах;<br>вучыць параўноўваць лікавыя значэнні даўжыні, выражаныя ў дэцыметрах і сантыметрах;<br>замацоўваць уменне карыстацца лінейкай для вымярэння даўжынь адрэзкаў;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Вымярэнне даўжынь прадметаў, вызначэнне значэнняў даўжынь у дэцыметрах і сантыметрах*<br>*Выкананне дзеянняў складання і аднімання вывучаных відаў*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>[1] Ч. 2: урок 108 (с. 118—119)<br>[2] Ч. 2: урок 108 (с. 60) |
| 107 | Маса прадметаў. Параўнанне прадметаў па масе з дапамогай рычажных вагаў і з дапамогай умоўнай меркі | 1 | Пазнаёміць з тэрмінам «маса»;<br>вучыць устанаўліваць адносіны «цяжэй», «лягчэй» пры параўнанні прадметаў па масе з дапамогай рычажных вагаў;<br>пазнаёміць са спосабам параўнання мас прадметаў з дапамогай умоўнай меркі;<br>замацоўваць уменне рашаць простыя задачы вывучаных відаў | *Параўнанне прадметаў па масе з дапамогай рычажных вагаў*<br>*Параўнанне прадметаў па масе з дапамогай умоўнай меркі*<br>*Рашэнне прыкладаў і задач вывучаных відаў*<br>Метадычныя рэкамендацыі да ўрока прапануюцца ў вучэбна-метадычным дапаможніку для настаўніка «Матэматыка ў 1 класе» (2015 г.) |
| 108 | Адзінка масы: кілаграм | 1 | Пазнаёміць з адзінкай вымярэння масы — кілаграмам;<br>замацоўваць уменне рашаць прыклады і задачы вывучаных відаў | *Выкарыстанне адзінкі масы «кілаграм» для выражэння выніку вымярэння масы прадмета*<br>*Рашэнне прыкладаў і задач вывучаных відаў*<br>Метадычныя рэкамендацыі да ўрока прапануюцца ў вучэбна-метадычным дапаможніку для настаўніка «Матэматыка ў 1 класе» (2015 г.) |
| 109 | Параўнанне ёмістасцей сасудаў з дапамогай умоўнай меркі. Адзінка ёмістасці: літр | 1 | Паказаць спосаб параўнання ёмістасцей сасудаў з дапамогай вымярэння умоўнай меркай;<br>пазнаёміць з адзінкай вымярэння ёмістасці — літрам;<br>замацоўваць уменне рашаць прыклады і задачы вывучаных відаў | *Параўнанне сасудаў па ёмістасці з дапамогай умоўнай меркі*<br>*Выкарыстанне адзінкі ёмістасці «літр» для выражэння выніку вымярэння ёмістасці сасуда*<br>*Рашэнне прыкладаў і задач вывучаных відаў*<br>Метадычныя рэкамендацыі да ўрока прапануюцца ў вучэбна-метадычным дапаможніку для настаўніка «Матэматыка ў 1 класе» (2015 г.) |
| 110 | Замацаванне | 1 | Замацоўваць веды вывучаных выпадкаў складання і аднімання ў межах 20;<br>замацоўваць уменне рашаць прыклады і задачы вывучаных відаў;<br>замацоўваць вымяральныя навыкі | *Выкананне складання і аднімання вывучаных відаў*<br>*Рашэнне простых задач вывучаных відаў*<br>*Вымярэнне даўжыні адрэзка*<br>*Выражэнне масы прадмета ў кілаграмах і ёмістасці сасуда ў літрах*<br>[1] Ч. 2: урок 109—110 (с. 120—123)<br>[2] Ч. 2: урок 109—110 (с. 61—62)<br>Дадатковыя метадычныя рэкамендацыі да ўрока прапануюцца ў вучэбна-метадычным дапаможніку для настаўніка «Матэматыка ў 1 класе» (2015 г.) |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| **Паўтарэнне за 1 клас (10 г)** | | | | |
| 111<br>112<br>113<br>114<br>115<br>116<br>117<br>118 | Паўтарэнне | 8 | Замацоўваць веды нумарацыі лікаў у межах 20;<br>замацоўваць веды выпадкаў складання і аднімання;<br>замацоўваць уменне параўноўваць лікі і значэнні выразаў;<br>замацоўваць уменне рашаць задачы вывучаных відаў;<br>замацоўваць набытыя вымяральныя навыкі | *Вызначэнне дзесятковага саставу вывучаных двухзначных лікаў, саставу адназначных лікаў*<br>*Выкананне складання і аднімання вывучаных відаў*<br>*Параўнанне лікаў і значэнняў выразаў*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Вызначэнне часу па цыферблатным гадзінніку*<br>*Вымярэнне даўжыні адрэзка і пабудова адрэзка зададзенай даўжыні*<br>*Выражэнне масы прадмета ў кілаграмах і ёмістасці сасуда ў літрах*<br>[1] Ч. 2: урок 111—118 (с. 124—143)<br>[2] Ч. 2: урок 111—118 (с. 63—70) |
| 119 | Кантрольнае вуснае лічэнне | 1 | Праверыць веды нумарацыі лікаў у межах 20; умення выконваць вусныя вылічванні без пераходу цераз дзясятак і на аснове дзесятковага саставу лікаў | *Выкананне вусных вылічванняў у межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак* |
| 120 | Кантрольная работа | 1 | Праверыць:<br>веды вывучаных выпадкаў складання і аднімання;<br>уменне рашаць задачы вывучаных відаў;<br>уменне вымяраць даўжыню адрэзка і будаваць адрэзак зададзенай даўжыні | *Выкананне складання і аднімання ў межах 10 і ў межах 20 без пераходу цераз дзясятак*<br>*Рашэнне задач вывучаных відаў*<br>*Вымярэнне даўжыні адрэзка і пабудова даўжыні адрэзка зададзенай даўжыні* |

## Чалавек і свет

Агульная колькасць гадзін — 30

Удавічэнка, В. М. Чалавек і свет : вучэб. дапам. для 1 кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / В. М. Удавічэнка, Т. А. Кавальчук. — Мінск : Нар. асвета, 2012.

| № урока і дата | Тэма ўрока | Колькасць гадзін | Мэты вывучэння тэмы | Характарыстыка асноўных відаў і спосабаў дзейнасці (з рэкамендаванымі практыкаваннямі) | Дамашняе заданне: заданне для назіранняў у прыродзе, практычнай дзейнасці |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| **Уводзіны (1 г)** | | | | | |
| 1 | Наша Радзіма — Беларусь | 1 | **Мэта:** фарміраваць уяўленне аб нашай Радзіме — Беларусі.<br>**Задачы:** сфарміраваць уяўленні аб паняццях «Радзіма», «сталіца», дзяржаўная сімволіка нашай краіны; садзейнічаць выхаванню любові да роднага краю, сваёй Радзімы, пачуццяў захаплення прыгажосцю яе прыроды; фарміраванню цікавасці да вывучэння прадмета, пазнання прыроды роднага краю, а таксама развіццю ўвагі, памяці, мыслення | *Знаёмства з новым вучэбным прадметам* у ходзе гутаркі; актуалізацыя правілаў беражлівых адносін да падручніка.<br>*Актуалізацыя назвы нашай Радзімы*, засваенне паняццяў «Радзіма», «сталіца»: гутарка, апісанне малюнка вучэбнага дапаможніка на с. 3.<br>*Знаёмства з дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь*: аналіз малюнкаў вучэбнага дапаможніка, слайдаў мультымедыяпрэзентацыі, выкананне задання 2 да с. 3, усведамленне вучнямі асаблівасцей герба і сцяга Рэспублікі Беларусь, расказ настаўніка пра плошчу Дзяржаўнага сцяга ў г. Мінску. Замацаванне засвоеных уяўленняў ў працэсе гульні «Завяршы фразу».<br>*Чаму нашу Радзіму называюць краем блакітных рэк, азёр і лясоў*. Праца з картай: знаходжанне на карце сталіцы краіны, абласнога цэнтра, прыкладна населенага пункта. Гутарка, якая падводзіць вучняў да высновы, чаму нашу краіну называюць краем блакітных рэк, азёр і лясоў.<br>*Расліны і жывёлы роднага краю*. Выкананне заданняў, накіраваных на аналіз малюнкаў, на с. 5 — знаходжанне дрэў, знаёмых вучням; гульня «Загадаю — адгадай» — пазнаванне раслін па малюнках вучэбнага дапаможніка; гульня «Пляскаем у далоні» — актуалізацыя ведаў пра вядомых жывёл Беларусі | |
| **Прырода і чалавек. Восеньскія змены ў нежывой прыродзе, у жыцці раслін, жывёл і чалавека (11 г)** | | | | | |
| 2 | Што такое прырода. Жывая і нежывая прырода. Залатая восень / экскурсія | 1 | **Мэта:** вучыць вучняў адрозніваць прадметы прыроды ад прадметаў, зробленых рукамі чалавека, прадметы нежывой прыроды ад жывой, устанаўліваць восеньскія змены ў нежывой прыродзе, стварыць умовы для засваення вопыту назірання, пазнання аб'ектаў прыроды з дапамогай розных органаў пачуццяў<br>**Задачы:** фарміраваць уяўленне аб прадметах прыроды і прадметах, | *Знаёмства з тэмай і задачамі экскурсіі*, даследчыцкімі заданнямі для назірання (якое дрэва можна назваць «залатым», «самым рознакаляровым» і інш.).<br>*Прыпынак № 1. «Залатая восень»*: назіранне, успрыманне гукаў, пахаў, фарбаў восені, актуалізацыя пачуццяў захаплення восеньскай прыродай, высвятленне, чаму гэты перыяд восені называюць «залатым».<br>*Прыпынак 2. Фарміраванне ўяўлення аб прадметах прыроды і прадметах, зробленых рукамі чалавека, аб аб'ектах жывой і нежывой прыроды*, уменне іх адрозніваць: назіранне, гульня «Пляскаем у далоні, тупаем ножкамі» (калі называецца прадмет прыроды, навучэнцы пляскаюць у далоні, калі прадмет, зроблены рукамі, — тупаюць нагамі); | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | зробленых рукамі чалавека, аб прадметах нежывой і жывой прыроды; пра змены ў нежывой прыродзе восенню; канкрэтныя ўяўленні пра расліны блізкага акружэння, вучыць адрозніваць некалькі раслін; стварыць умовы для перажывання вучнямі пачуцця захаплення фарбамі восеньскай прыроды; развіцця назіральнасці, мыслення, маўлення | гульня «Жывое — нежывое» (навучэнцы ажыццяўляюць любыя рухі, калі называецца аб'ект жывой прыроды, заміраюць, калі нежывой); тлумачэнне вучнямі, як яны адрозніваюць аб'екты нежывой і жывой прыроды. *Прыпынак 3. Устанаўленне восеньскіх змен у нежывой прыродзе*: назіранне за вышынёй Сонца над зямлёй адносна прынятага аб'екта, колерам неба, тэмпературай паветра (як змяніліся ў параўнанні з летам). *Прыпынак 4. Фарміраванне канкрэтных уяўленняў аб некалькіх дрэвах* (2—4), *кустах* (1), якія сустракаюцца ў поле зроку вучняў у працэсе гульні «Пільнае вока»: навучэнцы знаходзяць расліны па ўказаных прыкметах, па раздадзеных пладах, шышках і лісці, вызначаюць, па якіх прыкметах яны могуць пазнаць аб'екты, якія назіраюць. *Падвядзенне вынікаў экскурсіі*: што новага даведаліся, чаму навучыліся, што больш за ўсё спадабалася | |
| 3 | Змены ў нежывой прыродзе восенню | 1 | **Мэта:** прадоўжыць фарміраванне ўменняў адрозніваць аб'екты жывой і нежывой прыроды, вучыць устанаўліваць змены ў нежывой прыродзе ў параўнанні з летам і тлумачыць іх прычыны. **Задачы:** стварыць умовы для замацавання элементарных паняццяў «нежывая прырода», «жывая прырода», уяўленняў аб прадметах прыроды; садзейнічаць развіццю ўмення ўстанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі, параўноўваць аб'екты | *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу, актуалізацыя раней засвоенага. Прадметы прыроды. Прырода жывая і нежывая.* Актуалізацыя агульных паняццяў (веданне на ўзроўні пералічэння аб'ектаў, якія адносяцца да таго ці іншага паняцця) «прырода», «нежывая», «жывая прырода», «расліны», «жывёлы» з дапамогай гульні з мячом «Назаві патрэбнае». Выкананне заданняў 1—3 да с. 6—7, накіраваных на замацаванне ўмення адрозніваць аб'екты нежывой і жывой прыроды, дзяліць аб'екты на групы па ўказаных прыкметах; самаправерка вынікаў на аснове эталона адказу. Гульня «Так — не» з мэтай замацавання ведаў аб істотных прыкметах паняццяў «жывая» і «нежывая» прырода. *Змены ў нежывой прыродзе восенню ў параўнанні з летам.* Гульнявое практыкаванне «Лета — восень» для замацавання ведаў вучняў пра восеньскія змены ў нежывой прыродзе, іх прычыны: педагог пачынае фразу, якую завяршаюць навучэнцы (напрыклад: «Сонца на небе летам знаходзіцца высока над зямлёй, а ўвосень ... (ніжэй)». Улетку цёпла, а ўвосень ... (халаднавата; халадней). Увосень халадней таму, што ... Улетку ідзе цёплы дождж, а ўвосень ... (халодны). Улетку вада ў вадаёмах цёплая, а ўвосень ... (халодная). Увосень вада ў вадаёмах халодная, таму што ... (холадна; сонца слаба грэе і інш.). Што ўвосень бывае? Гульня на аснове чытання вершаў або дэманстрацыі слайдаў: навучэнцы пляскаюць у далоні (або падымаюць карткі з зялёным колерам, стукаюць лёгенька пальчыкамі па парце), калі гаворка ідзе пра восеньскія змены ў прыродзе. Абагульненне ведаў пра змены ў нежывой прыродзе на аснове схемы | Разглядзець афарбоўку лісця дрэў, кустоў, якія растуць у двары дома, па дарозе ў школу |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 4 | Залатая восень. Расліны — частка жывой прыроды | 1 | **Мэта:** фарміраваць элементарныя паняцці «дрэвы», «кусты», «травяністыя расліны», уяўленні пра змены ў жыцці раслін восенню і іх прычыны.<br>**Задачы:** прадоўжыць фарміраванне канкрэтных уяўленняў пра расліны блізкага наваколля; вучыць адрозніваць дрэвы, кусты, траву, пазнаваць расліны па іх пладах і лісці; бачыць сувязі, якія існуюць паміж раслінамі, нежывой прыродай і жывёламі; садзейнічаць актуалізацыі пачуццяў захаплення прыгажосцю залатой восені, стымуляваць патрэбу ў выкарыстанні лісцяў, пладоў, насення для стварэння творчых прац | *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Актуалізацыя раней засвоенага вучэбнага матэрыялу «Залатая восень».* Актуалізацыя пачуццяў захаплення «залатой восенню» на аснове дэманстрацыі слайдаў, чытання чатырохрадкоўя І. Міхайлавай.<br>*Расліны — частка жывой прыроды.* Рашэнне сітуацыйнай задачы, гутарка з мэтай актуалізацыі прыкмет жывой прыроды, абгрунтаванне прыкмет раслін як жывых істот.<br>*Дрэвы, кусты, травы.* Выкананне задання да с. 11 (акрамя 5-га), самаправерка вынікаў выканання ў параўнанні з эталонам адказу на слайдзе.<br>Пазнаванне раслін па іх пладах і лісці з дапамогай гульняў «Знайдзі пару» і «З якой галінкі гэтыя дзеткі?»: навучэнцы вызначаюць, якім раслінам належаць лісце, плады, раздадзеныя ім; пазнаюць расліны па іх апісаннях (педагог апісвае прыкметы расліны, навучэнцы пазнаюць яе і падымаюць адпаведныя часткі расліны).<br>*Змены ў жыцці раслін восенню.* Устанаўленне змен у жыцці раслін увосень на аснове актуалізацыі назіранняў вучняў, аналізу слайдаў мультымедыяпрэзентацыі або выканання заданняў да с. 10 (першыя два заданні), прычын гэтых змен.<br>*Як насенне распаўсюджваецца?* Гульня «Юныя даследчыкі»: у працэсе назірання, практычнай работы, разваг навучэнцы вызначаюць, як распаўсюджваецца насенне некаторых раслін (напрыклад, клёна, бярозы, дзядоўніка, ваўчкоў, рабіны).<br>*Кантроль засвоенага зместу* на ўроку з дапамогай гульні «Так — Не!»: навучэнцы гавораць «Так!» і пляскаюць у далоні, калі згодны з выказваннямі педагога, калі не згодны — гавораць «Не!» і стукаюць лёгка пальчыкамі па парце | Заданне 4 на с. 12—13. Пазнаць знаёмыя дрэвы ў сваім двары каля дома |
| 5 | Восеньскія плады і насенне — крыніца здароўя | 1 | **Мэта:** забяспечыць усведамленне вучнямі значэння свежай садавіны і агародніны для захавання і ўмацавання здароўя чалавека.<br>**Задачы:** пашырыць веды аб агародніне і садавіне; сфарміраваць уяўленне пра ролю вітамінаў для ўмацавання здароўя дзяцей; паглыбіць веды аб правілах гігіены пры ўжыванні агародніны і садавіны; вучыць прымаць правільнае рашэнне ў сітуацыі выбару прадуктаў харчавання; стварыць умовы для развіцця пазнаваўчых працэсаў (увагі, мыслення, памяці) | *Актуалізацыя раней вывучанага вучэбнага матэрыялу, увядзенне ў новую тэму, мэтавызначэнне.* Гутарка пра тое, як восень дапамагае чалавеку клапаціцца пра сваё здароўе, фармулёўка вучнямі тэмы ўрока, задач на аснове дэманстрацыі агародніны і садавіны.<br>*Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Што такое вітаміны? Галоўныя крыніцы вітамінаў.* Расказ педагога пра вітаміны, іх групы, значэнне для здароўя і развіцця чалавека.<br>*Дзе ж «жывуць» вітаміны*: на аснове вершаў, якія чытае педагог, навучэнцы вызначаюць, у якой агародніне і садавіне знаходзяцца вітаміны групы А, С. Знаёмства вучняў з ягаднымі раслінамі, што спеюць летам і восенню, у працэсе выканання заданняў 1, 2 да с. 16 і гульні «Ягады ў кошыку». Фарміраванне ўяўленняў пра агародніну і садавіну на аснове выканання задання 3 да с. 16 і гульні «Збіраем ураджай», расказ педагога пра вітаміны, якія змяшчаюцца ў агародніне і садавіне, іх значэнні для здароўя чалавека. | Падсыпаць разам з бацькамі корм у кармушкі, асабліва ў дажджлівае і халоднае надвор’е |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | *Правілы ўжывання агародніны і садавіны.* Пошук адказу на пытанне, як правільна ўжываць агародніну і садавіну ў ежу, у працэсе гутаркі, аналізу малюнкаў слайдаў мультымедыяпрэзентацыі, ацэнкі паводзін дзяцей у сітуацыях, паказаных на іх.<br>*Чаму трэба вучыцца рабіць правільны выбар.* Фарміраванне ў вучняў умення прымаць абгрунтаванае рашэнне ў сітуацыі выбару ежы: праца са слайдамі ў гульнявой форме «Я выбіраю ... таму што ...».<br>*Замацаванне вывучанага на ўроку.* Гульня «Ці добра, ці дрэнна?»: навучэнцы пляскаюць у далоні і гавораць «Так-так-так!», калі згодны са сцвярджэннем педагога; калі не — маўчаць | |
| 6 | Уплыў змяненняў у прыродзе на жыццё чалавека восенню | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для фарміравання ў вучняў умення правільна апранацца ў адпаведнасці з умовамі надвор'я і інтэнсіўнасцю руху.<br>**Задачы:** садзейнічаць разуменню таго, як сезонныя змены ў прыродзе восенню ўплываюць на здароўе і настрой чалавека; стымуляваць жаданне займацца фізічнай працай, рухомымі і спартыўнымі гульнямі на свежым паветры | *Актуалізацыя раней вывучанага вучэбнага матэрыялу* на аснове гульні «Што восенню бывае?»: навучэнцы пляскаюць у далоні, калі чытаюцца ўрыўкі вершаў, якія адлюстроўваюць восеньскія з'явы ў прыродзе. Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Якія змены ў жыцці чалавека адбываюцца восенню? Аналіз зместу слайдаў, якія адлюстроўваюць розныя заняткі дзяцей на прыродзе (чым займаюцца дзеці; чым карысныя такія заняткі і інш.).<br>Выкананне задання да с. 14 вучэбнага дапаможніка; адказы вучняў на пытанні, параўнанне іх з тэкстам вучэбнага дапаможніка на с. 15; падвядзенне вучняў да высновы аб тым, чым карысныя восеньскія прагулкі на свежым паветры.<br>*Як трэба апранацца ў рознае надвор'е восенню*: аналіз слайдаў (або гульня, прапанаваная ў заданні 5 на с. 87 вучэбнага дапаможніка) для фарміравання ў вучняў ведаў пра тое, як правільна апранацца восенню ў рознае надвор'е для прагулак, гульняў, іншых заняткаў | Падсыпаць разам з бацькамі корм у кармушкі, асабліва ў дажджлівае і халоднае надвор'е |
| 7 | Правілы асабістай гігіены | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для актуалізацыі ў вучняў патрэбнасці ў выкананні правілаў асабістай гігіены.<br>**Задачы:** пашырыць уяўленні аб правілах асабістай гігіены, правілах догляду зубоў, пазногцяў і валасоў; садзейнічаць усведамленню значэння правілаў асабістай гігіены ў захаванні здароўя чалавека; развіццю ўменняў правільнага догляду зубоў, пазногцяў, а таксама пазнавальных працэсаў (увагі, мыслення, памяці) | *Актуалізацыя раней вывучанага вучэбнага матэрыялу.* Выкананне задання на картках (індывідуальная праца) — навучэнцы адзначаюць малюнкі, на якіх паказаны карысныя для здароўя заняткі; праверка правільнасці выканання задання па методыцы «Узаемаправерка».<br>*Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу.*<br>*Што такое правілы асабістай гігіены*: рашэнне сітуацыйнай задачы, канструяванне вучнямі сэнсу паняцця «асабістая гігіена».<br>*Правілы асабістай гігіены.* Выкананне заданняў 2—5 да с. 18.<br>*Сродкі асабістай гігіены*: фарміраванне ўяўленняў у працэсе гульні «Чароўны мяшочак» або «Чароўны куфэрак» (навучэнцы адгадваюць загадкі, прадметы-адгадкі выкладваюцца на стале), практыкаванні «Што агульнага?», выкананне задання 6 да с. 18.<br>*Як правільна мыць рукі, чысціць зубы і многае іншае*: сюжэтная гульня «Экзамен у Май- | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | дадыра» (навучэнцы адказваюць на пытанні); практычная работа (практыкаванне, як правільна чысціць зубы); выкананне заданняў 4—5 да с. 19 вучэбнага дапаможніка. *Замацаванне вывучанага вучэбнага матэрыялу*: гульня з мячом «Я буду — я не буду» або «Закончы фразу»: педагог кідае мяч аднаму з вучняў; навучэнец, які злавіў мяч, завяршае фразу (напрыклад: «Каб мікробы не трапілі ўнутр арганізма, я буду ... / мыць рукі перад ядой») | |
| 8 | Рэжым дня першакласніка | 1 | **Мэта:** актуалізаваць у навучэнцаў патрэбу ў захаванні рэжыму дня на аснове ўсведамлення яго значэння для захавання і ўмацавання здароўя. **Задачы:** пашырыць уяўленне аб рэжыме дня, аб яго абавязковых складніках; забяспечыць разуменне вучнямі таго, што ў кожнага чалавека свой рэжым дня, гэта значыць тыя дзеянні, якія абавязкова выконваць у адзін і той жа час; садзейнічаць развіццю пазнавальных працэсаў, фарміраванню ўменняў прадуктыўнай камунікацыі | *Актуалізацыя раней вывучанага вучэбнага матэрыялу, увядзенне ў тэму, мэтавызначэнне* на аснове праблемнай сітуацыі (гульнявога сюжэта), які патрабуе актуалізацыі асвоеных ведаў аб мерах па захаванні і ўмацаванні здароўя. *Вывучэнне новага, актуалізацыя раней вывучанага вучэбнага матэрыялу. Што такое рэжым дня? Значэнне рэжыму дня.* Чытанне верша «Валя-непаспяваля» (А. Орач), яго аналіз, фармулёўка вываду аб значэнні рэжыму дня. Фарміраванне ўяўлення аб рэжыме дня (праца ў парах або мікрагрупах): гульня «Што раней, што потым») — выкладванне картак з выявай асноўных рэжымных момантаў раніцы, дня, вечара ў неабходнай паслядоўнасці; самаправерка вынікаў на аснове эталона адказу (на слайдзе мультымедыяпрэзентацыі). *Асаблівасці рэжыму дня першакласніка*: гутарка на аснове аналізу зместу слайда з апісаннем прыкладнага рэжыму дня першакласніка, уласнага вопыту вучняў. *Замацаванне вывучанага вучэбнага матэрыялу* з дапамогай заданняў на прымяненне ведаў у зменenай сітуацыі: аналіз слайдаў мультымедыяпрэзентацыі, гульня «Я буду — я не буду» (заданне 7 да с. 20—21) | Паназіраць за тым, як выконваецца рэжым дня |
| 9 | Дзікія і свойскія жывёлы. Мэтавая прагулка «Позняя восень» | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для фарміравання ўмення аперыраваць уяўленнямі аб дзікіх і свойскіх жывёлах у розных сітуацыях, вучыць тлумачыць прычыны восеньскіх змен у жыцці дзікіх жывёл. **Задачы:** сфарміраваць уяўленні аб дзікіх і свойскіх жывёлах, аб прычынах восеньскіх змен у жыцці дзікіх жывёл; садзейнічаць фарміраванню лагічнага мыслення (аперацый сінтэзу, аналізу, абагульнення, класіфікацыі і інш.), актуалізацыі цікавасці да вывучэння жывёл | *Актуалізацыя раней вывучанага вучэбнага матэрыялу* з дапамогай гутаркі, выканання заданняў па аналізе дэманстраваных слайдаў: што такое рэжым дня, што важна рабіць раніцай, вечарам, днём і інш. *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Канкрэтныя ўяўленні аб некаторых дзікіх і свойскіх жывёлах.* Гульня «Загадаю — адгадай» на аснове малюнкаў жывёл на с. 23: па прапанаваным апісанні навучэнцы пазнаюць жывёл. Гульня з мячом «Якая? Што робіць?», накіраваная на актуалізацыю канкрэтных уяўленняў аб жывёле, напрыклад, пра вавёрачку: навучэнец, які злавіў мяч, адказвае на пытанне:«Вавёрачка якая?» (з гэтым пытаннем кідаецца мяч некалькім вучням; аналагічна і з другім). Агульныя ўяўленні аб дзікіх і свойскіх жывёлах. Засваенне сутнасці паняццяў «свойскія» і «дзікія» жывёлы: выкананне заданняў 3—4 да с. 23, а таксама прапанаваных на слайдах (індывідуальная праца — заданні на аналіз, класіфікацыю); | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | самаправерка вынікаў з дапамогай эталона адказу на слайдзе; гутарка, якая падводзіць вучняў да высновы пра тое, хто такія свойскія і дзікія жывёлы.<br>*Мэтавая прагулка ў школьны двор.* Устанаўленне, якія змены адбыліся ў прыродзе позняй восенню: як змянілася тэмпература паветра, як выглядаюць дрэвы, кусты, травяністыя расліны, ці можна ўбачыць насякомых.<br>*Да якіх змен у жыцці нежывой прыроды, жыцця раслін прыстасоўваюцца жывёлы восенню?* Гутарка, якая падводзіць вучняў да высновы аб тым, што жывёлы восенню рыхтуюцца да пахаладання, памяншэння і знікнення корму | |
| 10 | Змены ў жыцці птушак, насякомых, звяроў і іншых жывёл | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для фарміравання ўмення аперыраваць уяўленнямі аб дзікіх і свойскіх жывёлах у розных сітуацыях, вучыць тлумачыць прычыны восеньскіх змен у жыцці дзікіх жывёл.<br>**Задачы:** сфарміраваць уяўленні аб некалькіх відах птушках, пералётных птушак, прычынах восеньскіх змен у жыцці дзікіх жывёл (насякомых, птушак, звяроў, іншых жывёл); спрыяць выхаванню гуманнага стаўлення да жывёл | *Актуалізацыя раней вывучанага вучэбнага матэрыялу* (уяўленняў «дзікія» і «свойскія» жывёлы) з дапамогай гутаркі, выканання заданняў на аналіз, класіфікацыю.<br>*Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Змены ў жыцці дзікіх жывёл восенню.* Гульня «Пляскаем у далоні»: педагог называе дзікіх жывёл (напрыклад, пчала, матылёк-крапіўніца, жаба, змяя, вавёрка, бусел, яшчарка, вожык, верабей, галка), а навучэнцы пляскаюць у далоні ў тым выпадку, калі называецца жывёла, якую нельга ўбачыць позняй восенню; гутарка на высвятленне прычын знікнення некаторых жывёл позняй восенню. Выкананне заданняў 2—4 да с. 24 з мэтай замацавання ведаў, фарміравання ўменняў устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі.<br>*Восеньскія змены ў жыцці птушак.* Выкананне першай часткі задання 1 да с. 25; правядзенне гульні «Назаві мяне па імені» (адгадванне загадак пра птушак); выкананне заданняў 2—4 да с. 25 вучэбнага дапаможніка: фарміруецца ўяўленне аб пералётных птушках і птушках, якія зімуюць, канкрэтныя ўяўленні аб некалькіх птушках блізкага наваколля.<br>*Замацаванне вучэбнага матэрыялу* з дапамогай гульні «Лаві памылку»: навучэнцы пляскаюць у далоні, калі педагог гаворыць (пра змены ў жыцці дзікіх жывёл восенню) з памылкай, а таксама выпраўляюць памылку | Паназіраць, якіх птушак можна ўбачыць каля дома, па дарозе ў школу, на прагулцы ў парку або скверы |
| 11 | Змены ў жыцці свойскіх жывёл восенню. Уплыў змяненняў у прыродзе на працу чалавека | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для ўсведамлення вучнямі таго, як змены ў прыродзе восенню ўплываюць на жыццё свойскіх жывёл, працу людзей.<br>**Задачы:** пашырыць уяўленні вучняў пра свойскіх жывёл, іх выкарыстанне чалавекам, працу людзей восенню; садзейнічаць развіццю мыслення, назіральнасці, цікавасці да вывучэння свету | *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу, актуалізацыя раней вывучанага. Актуалізацыя ўяўленняў «дзікія» і «свойскія» жывёлы* на аснове выканання заданняў на аналіз, абагульненне (заданні на слайдах).<br>*Фарміраванне канкрэтных уяўленняў аб некаторых свойскіх жывёлах, іх знешнім выглядзе, выкарыстанні чалавекам*: гульня «Загадаю — адгадай» (адгадванне загадак), гульня «Хто схаваўся» (трэба пазнаць свойскую жывёлу на малюнку па яго частцы).<br>*Як змянілася жыццё дзікіх і свойскіх жывёл восенню* — гульня «Адгадай»: педагог называе змены, а навучэнцы вызначаюць, пра | Паназіраць за свойскімі выхаванцамі (калі ёсць), як яны праяўляюць сваё задавальненне або незадавальненне, што ім падабаецца і інш. |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | жывёл, выхаванню клапатлівых адносін да свойскіх жывёл, усведамлення адказнасці за іх жыццё | якіх жывёл ідзе гаворка (адлятаюць у вырай...; запасяць корм... і інш.).<br>*Выкарыстанне чалавекам свойскіх жывёл або што даюць чалавеку каза, авечка, карова, свіння, свойскія птушкі*: выкананне задання 3 да с. 26 вучэбнага дапаможніка; вызначэнне вучнямі паходжання прадуктаў, прадстаўленых на выставе; расказ педагога пра гісторыю прыручэння свойскіх жывёл.<br>*Замацаванне і кантроль вывучанага* на ўроку на аснове выкарыстання гульні «Ці дакладна, што ...» ці «Лаві памылку»: прапануюцца сцвярджэнні пра змены ў жыцці хатніх жывёл восенню; калі навучэнцы не згодны з імі, пляскаюць у далоні | Паназіраць, як выконваюцца абавязкі па доглядзе свойскіх жывёл |
| 12 | Восеньскія з'явы ў прыродзе (абагульняючы ўрок) | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для абагульнення і сістэматызацыі ўяўленняў вучняў пра змены ў прыродзе восенню і іх прычыны.<br>**Задачы:** вучыць бачыць і разумець паслядоўнасць змен у жыцці прыроды восенню, залежнасць змен у жыцці раслін і жывёл ад змен у жыцці нежывой прыроды; працягнуць фарміраваць уменні тлумачыць прычынна-выніковыя сувязі ў прыродзе, садзейнічаць развіццю лагічнага мыслення, выхаванню пачуцця прыроды, успрымання і ўсведамлення яе прыгажосці, гуманнага стаўлення да ўсяго жывога | *Паслядоўнасць змяненняў у прыродзе восенню.* Выконваюцца першыя два заданні да с. 28—29 вучэбнага дапаможніка (с. 90), адгадваюцца загадкі пра асеннія месяцы, карткі з назвамі месяцаў размяшчаюцца на парце ці дошцы ў неабходным парадку.<br>*Змены ў жыцці нежывой прыроды восенню.* Навучэнцы называюць змены, тлумачаць сувязі паміж вышынёй Сонца над зямлёй, тэмпературай паветра, ападкамі ў ходзе выканання задання 3 да с. 28—29, выканання задання на картцы (навучэнцы малююць становішча Сонца ў адносінах да бярозы позняй восенню), працы па аналізе малюнка на с. 22.<br>*Змены ў жыцці раслін і жывёл восенню.* Праца па замацаванні ўмення адрозніваць некалькі дрэў па іх лісці і пладах (выкарыстоўваюцца натуральныя аб'екты). Мадэляванне сезонных змен у прыродзе ў перыяд «залатой» восені, позняй восені, тлумачэнне прычын змяненняў, што адбываюцца. Замацаванне ўяўленняў аб пералётных птушках і птушках, якія зімуюць, умення адрозніваць некалькі пералётных птушак з дапамогай выканання задання на картцы (індывідуальная праца) — навучэнцы адзначаюць зялёным кружком малюнкі пералётных птушак.<br>Распазнаванне птушак, якія зімуюць (франтальная работа са слайдамі). Гульня «Што восенню бывае?»: навучэнцы ўстаюць, калі дэманструюцца на слайдах малюнкі, якія паказваюць не асеннія з'явы.<br>*Абагульненне і сістэматызацыя ведаў* пра сувязі ў прыродзе, развіццё ўмення ўстанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі ў прыродзе — гульня «Таму, што ...»: навучэнец, які злавіў мяч, завяршае фразу, распачатую педагогам, называе прычыну з'явы або вынік і вяртае мяч (напрыклад: «стала халадней, таму што Сонца над зямлёй ... / знаходзіцца ніжэй». Або: «Сонца стала ніжэй над зямлёй, таму стала ... / халадней» | Падсыпаць разам з бацькамі корм у кармушкі, асабліва ў дажджлівае і халоднае надвор'е |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| **Зімовыя змены ў нежывой прыродзе, жыцці раслін, жывёл і чалавека (5 г)** | | | | | |
| 13 | Змены ў нежывой прыродзе зімой. Як зімуюць расліны (экскурсія ў парк ці тэматычная прагулка ў школьны двор) | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для атрымання вучнямі вопыту назіранняў за зімовымі зменамі ў нежывой і жывой прыродзе, выканання элементарнай прыродаахоўнай дзейнасці (падкормкі птушак).<br>**Задачы:** садзейнічаць фарміраванню ўяўленняў аб зімовых зменах у прыродзе, развіццю ўмення назіраць, бачыць сувязі ў прыродзе, вучыць адрозніваць вядомыя дрэвы ў зімовы час; спрыяць фарміраванню пачуццяў захаплення прыгажосцю зімовай прыроды; усведамлення неабходнасці аказання дапамогі птушкам, якія зімуюць | *Прыпынак 1.* Арганізацыя работы па ўспрыманні фарбаў, гукаў і пахаў зімы, актуалізацыя пачуццяў захаплення прыгажосцю зімовай прыроды.<br>*Прыпынак 2* (там, дзе восенню назіралі за становішчам Сонца на небе): устанаўліваюцца змены ў нежывой прыродзе — вышыня Сонца, тэмпература паветра, ападкі.<br>Прыпынкі, на якіх навучэнцы вучацца адрозніваць знаёмыя дрэвы зімой (2—4) — па ствалах, галінках, пладах, што засталіся, лісці, шышках з дапамогай гульні «Следапыт» або «Пільнае вока»: па названых прыкметах навучэнцы знаходзяць дрэвы, вызначаюць, па якіх прыкметах яны змогуць іх пазнаць у прыродзе.<br>Падчас экскурсіі арганізуюцца назіранні за птушкамі: знешнім выглядам, асаблівасцямі паводзін (як перамяшчаюцца, шукаюць і ядуць корм); навучэнцы вучацца адрозніваць птушак, якія зімуюць, па іх адметных прыкметах; ажыццяўляецца падкормка птушак.<br>Гульня «Назаві мяне па імені» (па дарозе дадому) — на замацаванне ўмення адрозніваць знаёмыя дрэвы, птушкі | Паназіраць за сняжынкамі ў час снегападу: якой формы сняжынкі, ці ёсць аднолькавыя, колькі праменьчыкаў у сняжынак |
| 14 | Змены ў жыцці дзікіх жывёл зімой | 1 | **Мэта:** сфарміраваць уяўленне пра змены ў жыцці дзікіх жывёл зімой як прыстасаванні да ўмоў жыцця — пахаладання, памяншэння або знікнення корму.<br>**Задачы:** сфарміраваць уяўленне пра асаблівасці паводзін птушак, якія зімуюць, звяроў, іх прычыны; садзейнічаць актуалізацыі пачуццяў спагады дзікім жывёлам, жадання аказаць дапамогу птушкам; замацаваць уяўленні аб птушках, якія зімуюць, і пералётных птушках, спрыяць развіццю ўмення пазнаваць птушак, устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі, а таксама мыслення, памяці, увагі, маўлення | *Кантроль (актуалізацыя) раней вывучанага* ў працэсе франтальнай гутаркі; выкананне задання на картцы (індывідуальна або ў пары): навучэнцы адзначаюць кружком з'явы, якія назіраюцца зімой у нежывой прыродзе. Самаправерка вынікаў працы на аснове эталона адказу на слайдзе.<br>*Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Птушкі, якія зімуюць*: праца па замацаванні ўмення адрозніваць некалькі птушак, якія зімуюць, па малюнках і фота слайдаў, апісанні.<br>*Як дапамагчы птушкам, якія зімуюць? Хто мае патрэбу ў нашай дапамозе?* Метад экалагічнай эмпатыі: актуалізацыя пачуццяў спагады птушкам на аснове аповеду педагога, дэманстрацыі слайдаў.<br>*Асаблівасці жыцця зімой дзятла, крыжадзюба, некаторых звяроў.* Устанаўленне, на які корм пераходзяць некаторыя птушкі, якія зімуюць, і звяры і чаму, на аснове аналізу малюнка на с. 32 вучэбнага дапаможніка, слайдаў; устанаўленне прычын з'яўлення зімой птушанят у крыжадзюба. Гульня «Даследчыкі»: вызначэнне па шышках, якія жывёлы харчаваліся іх насеннем; па пакінутых слядах — якія жывёлы прайшлі па лесе (на аснове малюнкаў слайдаў).<br>*Абагульненне вучэбнага матэрыялу*: гульня «Завяршы фразу», напрыклад: «Дзятлы перайшлі на харчаванне насеннем шышак елкі і хвоі таму, што стала мала ...»; «Вожык, мядзведзь спяць у сваіх хованках таму, што няма ...» | Падсыпаць разам з бацькамі корм у кармушкі, асабліва ў дажджлівае і халоднае надвор'е |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| 15 | Змены ў жыцці свойскіх жывёл зімой. Уплыў зімовых змяненняў у прыродзе на працу чалавека | 1 | **Мэта:** садзейнічаць усведамленню вучнямі таго, чым выкліканы змены ў працы людзей у розны час года. **Задачы:** канкрэтызаваць уяўленні першакласнікаў пра жыццё свойскіх жывёл зімой, пра змены ў працы людзей зімой; прадоўжыць фарміраванне ўмення ўстанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі; стварыць умовы для развіцця маўлення, мыслення, памяці, увагі, цікавасці да вывучэння жывёл | *Кантроль, актуалізацыя раней вывучанага.* Выкананне задання на картцы: навучэнцы адзначаюць знакам «+» тыя змены, якія адбываюцца ў жыцці дзікіх жывёл зімой (індывідуальная работа). Выкананне заданняў: на знаходжанне на малюнку памылак і іх тлумачэнне (франтальная работа); на пазнаванне птушак, якія зімуюць, па іх частках — гульня «Каго фатаграфаваў мастак?». *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Актуалізацыя ўяўленняў пра свойскіх жывёл*, фарміраванне ўмення апісваць свойскіх жывёл — гульня з мячом «Снежны камяк», гульня «Загадаю — адгадай». *Як людзі даглядаюць свойскіх жывёл зімой*: складанне апаведу (прапановы) аб доглядзе свойскіх жывёл зімой на аснове апорных слоў, чытанне тэксту на с. 37 вучэбнага дапаможніка; выкананне заданняў 2, 4, 5 да с. 36—37. *Праца людзей зімой у сельскай мясцовасці.* Аналіз малюнкаў на с. 38—39, выкананне першых двух заданняў да с. 38—39. *Праца людзей зімой у горадзе.* Выкананне заданняў 3—5 да с. 38—39. *Замацаванне, абагульненне навучальнага зместу* з дапамогай заданняў на слайдзе (вызначэнне малюнкаў з выявай заняткаў людзей зімой; складанне прыказак аб працы) | Запомніць адну прыказку аб працы, якая больш за ўсё спадабалася (прыказкі аб працы вывешваюцца на стэндзе ў класе) |
| 16 | Клопат чалавека пра сваё здароўе зімой | 1 | **Мэта:** сфарміраваць уяўленне аб тым, як клапаціцца пра сваё здароўе зімой. **Задачы:** фарміраваць уяўленне пра спосабы загартоўвання арганізма зімой, стымуляваць імкненне выконваць працэдуры па загартоўванні арганізма; вучыць правільна выбіраць вопратку і абутак для прагулак у зімовы час, выконваць правілы бяспекі пры катанні на каньках, санках, лыжах; садзейнічаць развіццю пазнавальных працэсаў, маўлення | *Кантроль, актуалізацыя раней вывучанага вучэбнага матэрыялу.* Гульня «Назаві патрэбнае»: педагог кідае мяч вучню і называе адно з паняццяў — «дзікая жывёла / свойская жывёла / пералётная птушка / птушка, якая зімуе»; навучэнец, які злавіў мяч, называе любы аб'ект, які адносіцца да названага паняцця, і вяртае мяч. Выкананне (індывідуальна) задання на картцы: «Адзнач чырвоным кружком від працы, якой не займаюцца зімой». *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу.* Чым карысна займацца зімой для ўмацавання здароўя: адгадванне загадак аб відах заняткаў зімой. *Як і для чаго трэба гартавацца*: чытанне вершаў, аналіз іх зместу, выкананне задання да с. 41 вучэбнага дапаможніка. *Замацаванне вывучанага на ўроку ў форме прымянення ведаў у змененых сітуацыях*: аналіз малюнкаў на слайдах — тлумачэнне, чым карысна займацца зімой; як гартавацца зімой; як правільна апранацца па надвор'і для розных відаў заняткаў | Падсыпаць разам з бацькамі корм у кармушкі, асабліва ў даждж-лівае і халоднае надвор'е |
| 17 | Зімовыя з'явы ў прыродзе (абагульняючы ўрок) | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для абагульнення і сістэматызацыі ведаў вучняў пра змены ў жыцці нежывой і жывой прыроды, іх уплыве на працу людзей. **Задачы:** садзейнічаць фарміраванню ўменняў вучняў тлумачыць і ўстанаўліваць сувязі паміж | *Зімовая казка. Чаму зімовую прыроду называюць казачнай, чароўнай?* Чытанне вершаў, гутарка пра тое, чым падабаецца зіма. *Зімовыя месяцы, зімовыя з'явы ў нежывой прыродзе*: адгадванне загадак аб зімовых месяцах, зімовых з'явах у нежывой прыродзе. *Змены ў жыцці жывой прыроды.* Выкананне заданняў да с. 42—43 (акрамя задання 2) вучэбнага дапаможніка, заданняў да слайдаў, накіраваных на актуалізацыю ведаў пра | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | аб'ектамі і з'явамі нежывой і жывой прыроды, пазнаваць расліны і жывёл; вучыць успрымаць прыгажосць зімовай прыроды, садзейнічаць падтрыманню жадання клапаціцца пра птушак, якія зімуюць, працягнуць развіццё ўменняў параўноўваць, аналізаваць, рабіць высновы | змены ў жыцці раслін зімой, развіццё ўменняў тлумачыць і ўстанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі.<br>Гульня з мячом «Таму, што ...»: педагог пачынае сказ, а заканчваюць яго тыя навучэнцы, якім кінуты мяч, напрыклад: «Узімку холадна, таму што Сонца над зямлёй знаходзіцца ... / нізка». Выкананне заданняў на праверку ўмення адрозніваць некалькі птушак, якія зімуюць.<br>*Змена ў жыцці і працы чалавека*: аналіз зместу слайдаў — выкананне заданняў на прымяненне ведаў у новай сітуацыі: вызначэнне заняткаў, якімі людзі займаюцца зімой, ці правільна апранутыя дзеці, тлумачэнне памылак у вопратцы. Рашэнне сітуацыйных задач на актуалізацыю ведаў аб правілах правільнай падкормкі птушак зімой, фарміраванне ўмення ацэньваць учынкі людзей у адносінах да птушак | |
| **Чалавек і грамадства (3 г)** | | | | | |
| 18 | Мой горад / вёска (экскурсія па родным горадзе / мікрараёне / вуліцы / вёсцы) | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для фарміравання канкрэтных уяўленняў пра памятныя месцы, культурна-асветніцкія ўстановы, галоўныя прадпрыемствы свайго горада (мікрараёна) / вёскі.<br>**Задачы:** садзейнічаць фарміраванню ў вучняў цікавасці да гісторыі роднага населенага пункта, яго славутасцей, дасягненняў; стварыць умовы для фарміравання практычнага вопыту выканання правілаў дарожнага руху, бяспечных паводзін пешаходаў зімой | *Перад экскурсіяй* актуалізацыя правілаў дарожнага руху, дэманстрацыя фотаздымкаў аб'ектаў, за якімі будуць назіраць навучэнцы, паведамленне некаторых цікавых звестак з мэтай фарміравання цікавасці да экскурсіі, вывучэння роднага краю.<br>*На экскурсіі*: знаёмства з культурна-асветніцкімі ўстановамі населенага пункта / мікрараёна, дзе захаваліся адметнасці (гісторыка-культурнымі аб'ектамі — з 1—2), вызначэнне, чым яны адметныя, якія гістарычныя падзеі адлюстроўваюць, якую ролю адыгрываюць у жыцці населенага пункта — у працэсе назірання, аповеду настаўніка, гутаркі пра тое, што ўжо ведаюць навучэнцы. Знаёмства з прамысловымі або сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі: што выпускаюць, як выкарыстоўваецца прадукцыя, дасягненні прадпрыемстваў і інш.<br>*Выніковая рэфлексія*: што новага і цікавага даведаліся, пра што хацелася б расказаць бацькам; як выконвалі правілы: правілы дарожнага руху, паводзін у грамадскіх месцах. Падрыхтоўка фотаматэрыялаў, малюнкаў да выставы або фотарэпартаж | |
| 19 | Я і мая сям'я | 1 | **Мэта:** забяспечыць усведамленне вучнямі значэння сям'і ў жыцці чалавека.<br>**Задачы:** сфарміраваць уяўленне пра сям'ю як родных людзей, аб абавязках і правах дзяцей у сям'і, а таксама ўсіх членаў сям'і; садзейнічаць выхаванню паважлівых і клапатлівых адносін дзяцей да членаў іх сям'і | *Што такое сям'я? Значэнне сям'і ў жыцці чалавека.* Гутарка, чытанне верша «Сям'я» (М. Шварц), у працэсе якіх фарміруецца паняцце пра сям'ю. Выкананне задання на картцы (індывідуальна): «Пазнач знакам «+» тыя словы, якія адлюстроўваюць значэнне сям'і ў нашым жыцці ...»; самаправерка вынікаў працы на аснове эталона адказу на слайдзе.<br>Складанне вучнямі прыказак (у мікрагрупах або парах), чытанне вершаў пра значэнне сям'і; гутарка (адказы на пытанні аб тым, што значыць дружная, добрая сям'я і інш.).<br>*Добразычлівыя адносіны ў сям'і. Правы і абавязкі дзяцей і бацькоў у сям'і*: выкананне | Прыйшоўшы дадому, сказаць прыемныя словы маме, тату, бабулі, дзядулю, выканаць асабліва старанна тыя хатнія абавязкі, якія вызначаны |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | заданняў да с. 81 вучэбнага дапаможніка, праслухоўванне верша «Мамчыны слёзы» (Т. Петуховой), яго аналіз.<br>Рашэнне сітуацыйных задач на аснове дэманстрацыі слайдаў з выявай розных сітуацый у сям'і (навучэнцы расказваюць пра тое, што можна даведацца аб той ці іншай сям'і зыходзячы з намаляванага сюжэта) | вам у вашай сям'і |
| 20 | Небяспечныя сітуацыі ў доме | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для ўсведамлення вучнямі неабходнасці выканання правілаў бяспечных паводзін пры рабоце з прадметамі хатняга ўжытку, вучыць звяртацца за экстранай дапамогай у выпадку небяспечных сітуацый у доме.<br>**Задачы:** сфарміраваць уяўленне аб небяспечных сітуацыях у доме, іх прычынах, сігналах трывогі; садзейнічаць фарміраванню ўменняў аналізаваць небяспечныя сітуацыі ў доме, прагназаваць наступствы небяспечнага абыходжання з прадметамі хатняга ўжытку, фармуляваць правілы бяспечных паводзін у побыце, прымаць правільнае рашэнне ў розных сітуацыях | *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Небяспечныя сітуацыі ў доме і іх прычыны.* Выкананне вучнямі заданняў (у мікрагрупах) з мэтай вызначэння прадметаў у доме, якія з'яўляюцца крыніцай пажару, ран, апёкаў, атручвання; самаправерка правільнасці выканання на аснове прапанаваных эталонаў адказу, у працэсе гутаркі (навучэнцы тлумачаць, у якім выпадку тыя ці іншыя прадметы могуць стаць прычынай небяспечнай сітуацыі).<br>Гульня «Што будзе, калі...» (напрыклад: калі пакінуць прас уключаным ... і да т. п.).<br>*Правілы бяспечных паводзін з прадметамі хатняга ўжытку.* Рашэнне сітуацыйных задач (як адкрыць вечка з гарачай каструлі або патэльні? Як правільна выключаць тэлевізар з разеткі?) з паказам выкананых дзеянняў, практычнай работай вучняў.<br>Складанне вучнямі правілаў бяспечных паводзін з дапамогай картак з запісанымі на іх словамі; фармулёўка правілаў на аснове чытання вершаў (Г. Шалаева, А. Жураўлёва). Сігналы трывогі. Выкананне задання да с. 83 вучэбнага дапаможніка. Замацаванне ведаў аб сігналах трывогі з дапамогай схемы на слайдзе або на аснове гульні «Завяршы фразу» (напрыклад: «Калі пажар, трэба тэлефанаваць па нумары...» і інш.). Чытанне вершаў Г. Шалаева, А. Жураўлёва пра тое, што трэба рабіць у выпадку пажару, званка чужых людзей у кватэру або дом; іх аналіз | Паназіраць, як захоўваюць правілы бяспечных паводзін дома |
| **Вясеннія змены ў нежывой прыродзе, у жыцці раслін, жывёл і чалавека (6 г)** | | | | | |
| 21 | Ранняя вясна. Вясна — час абуджэння раслін / экскурсія або тэматычная прагулка | 1 | **Мэта:** арганізаваць назіранні за зменамі ў нежывой прыродзе, за абуджэннем раслін, зменамі ў жыцці жывёл (птушак, насякомых), стварыць умовы для набыцця вопыту прыродаахоўных паводзін.<br>**Задачы:** стварыць умовы для фарміравання ўменняў адрозніваць расліны і жывёл блізкага наваколля; садзейнічаць развіццю назіральнасці, здольнасці заўважаць прыгажосць вясновай прыроды, цікавасці да вывучэння прыроды; | *Перад экскурсіяй*: актуалізацыя правілаў бяспечных паводзін, правілаў паводзін у прыродзе, знаёмства з даследчыцкімі заданнямі: «Ці наступіла вясна ў прыродзе? Як гэта даведацца? Як змяніліся паводзіны гракоў, галак, вераб'ёў, варон, сініц з прыходам вясны? Якія пералётныя птушкі ўжо прыляцелі з цёплых краёў? Якіх насякомых можна ўжо сустрэць у прыродзе?»<br>*На экскурсіі*: вызначэнне змяненняў у нежывой прыродзе ў параўнанні з зімой (як змянілася становішча Сонца на небе адносна вядомых аб'ектаў, колер неба, тэмпература паветра, ападкі, снегавое покрыва (калі захавалася); назіранне за з'яўленнем праталін (высвятляецца, дзе яны з'яўляюцца і чаму), капяжом. Назіранне змен у жыцці раслін: пачатак руху соку ў бярозы, клёна (устанаўліваецца з дапамогай праколу вострым | Падсыпаць разам з бацькамі корм у кармушкі, асабліва ў даждлівае і халоднае надвор'е |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | вучыць выконваць правілы прыродаахоўных паводзін у прыродзе, арганізаваць сітуацыю, накіраваную на аказанне дапамогі птушкам, фарміраванне гуманных адносін да іх | прадметам галінкі дрэў), набраканне пупышак на дрэвах і кустах, красаванне раслін, якія рана цвітуць. Пазнаванне знаёмых раслін. Назіранне за насякомымі, якія вылятаюць, — матылькамі (лімонніца, крапіўніца, дзённае паўлінавае вока і інш.), пчоламі, птушкамі; выяўленне змен у паводзінах птушак у параўнанні з зімой; падкормка птушак; пазнаванне птушак па іх адметных прыкметах. *Падвядзенне вынікаў у класе*: абмеркаванне вынікаў выканання даследчыцкіх заданняў; правядзенне віктарыны з мэтай праверкі назіральнасці вучняў: «Мы, гуляючы, правяраем, што мы ведаем, назіраем» (напрыклад: Якія расліны зацвітаюць да распускання лісця? Якія матылі з'яўляюцца першымі? і інш.) | |
| 22 | Вясна і здароўе чалавека | 1 | **Мэта:** садзейнічаць усведамленню карысці прагулак, рухомых гульняў на свежым паветры, вучыць ажыццяўляць правільны выбар месцаў для іх ажыццяўлення. **Задачы:** сфарміраваць уяўленне аб жыватворных сілах прыроды вясной, аб небяспечных і бяспечных месцах для гульняў і прагулак; вучыць апранацца ў адпаведнасці з умовамі надвор'я і магчымай інтэнсіўнасцю дзейнасці (хада, рухомыя гульні і інш.); стымуляваць у вучняў патрэбу ўжываць у ежу веснавую багатую вітамінамі зеляніну; стварыць умовы для фарміравання ўмення прымаць правільнае рашэнне ў сітуацыі выбару, прагназаваць развіццё небяспечнай сітуацыі | *Вывучэнне новага матэрыялу. Што такое жыватворныя сілы прыроды*: слоўнікавая праца, канструяванне вучнямі ўласнага сэнсу паняцця «жыватворныя» сілы прыроды; гутарка пра тое, чаму святло і цяпло з'яўляюцца вясновымі жыватворнымі сіламі, а таксама водар квітнеючых раслін, прыгажосць вясновай прыроды, якая абуджаецца. *Карысныя заняткі вясной. Як апранацца вясной адпаведна надвор'ю?* Гульня «Пляскаем у далоні»: калі педагог называе заняткі, якімі карысна займацца вясной на свежым паветры, навучэнцы пляскаюць у далоні (катанне на ролікавых іканьках, язда на веласіпедзе, прагулкі ў парку, гульня ў хакей, у футбол, катанне на каньках, на санках, катанне на самакаце); тлумачэнне вучнямі, чаму нельга вясной катацца на каньках, гуляць у хакей на вадаёмах. Гульня «Жывая карціна — вясновыя клопаты»: навучэнцы паказваюць з дапамогай пантамімы той занятак, які яны маглі б выканаць вясной на лецішчы, у сваім двары. Аналіз малюнкаў на с. 48 вучэбнага дапаможніка: на якім малюнку намалявана ранняя вясна, позняя, што дазваляе зрабіць такую выснову і інш. *Чаму вясной трэба ўжываць у ежу больш зеляніны?* Чытанне апошняга абзаца тэксту на с. 48, адказы на пытанні: «Аб чым ідзе гаворка ў гэтай частцы тэксту?», «Чаму трэба ўжываць больш зеляніны?». Выкананне (індывідуальна або ў парах) задання на картцы: «адзначай знакам«+» тыя расліны, якія згадваліся ў прачытаным тэксце. Адзнач зялёным кружком тыя расліны, якія ты часцей за ўсё ўжываеш у ежу». *Бяспечныя і небяспечныя месцы для гульняў і прагулак.* Выкананне задання да с. 49 вучэбнага дапаможніка, заданні на картцы, на якой адзначаюцца зялёным колерам малюнкі месцаў, дзе можна гуляць, а чырвоным — дзе нельга (або правядзенне гульні «Можна — нельга»: педагог называе месца і пытаецца, ці можна тут гуляць, а навучэнцы адказваюць «Так-так-так!» або «Не-не-не!»). | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Гульнявое практыкаванне на прагназаванне «Што можа быць, калі ...»: «калі гуляць на будоўлі, дзе працуе кран ...; дзе могуць тырчаць цвікі, кавалкі шкла» і інш. | |
| 23 | Змены ў жыцці дзікіх жывёл вясной. Змены ў жыцці птушак вясной | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для пашырэння і паглыблення ведаў вучняў пра птушак, пра змены ў іх жыцці вясной. **Задачы:** пашырыць уяўленне пра пералётных птушак, забяспечыць вучням вопыт удзелу ва ўстанаўленні залежнасці тэрмінаў прылёту птушак ад з'яўлення корму для іх; вучыць адрозніваць некалькі відаў пералётных птушак; садзейнічаць усведамленню таго, што вясна — адказны перыяд у жыцці птушак, стымуляваць выкананне правілаў прыродаахоўных паводзін вясной у адносінах да птушак; спрыяць развіццю ўменняў устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі, фармуляваць пытанні | *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Актуалізацыя раней засвоеных ведаў пра птушак, замацаванне ўменняў распазнаваць птушак.* Гульня «Загадаю — адгадай» — адгадванне загадак з дапамогай малюнкаў на слайдзе або на с. 50—51 вучэбнага дапаможніка. *Чаму птушкі прылятаюць у розны час: адны раней, іншыя пазней?* Гульня «Хто раней, хто потым» (хто раней прылятае — ластаўка, шпак, жаваранак, пліскі); выказванне вучнямі сваіх здагадак, аналіз малюнкаў на с. 50 вучэбнага дапаможніка, параўнанне сваіх адказаў з тэкстам на с. 50. Праслухоўванне апаведу (можна выкарыстоўваць метад драматызацыі апісанай сітуацыі) пра шпака, які вяртаецца на радзіму і запрашае з сабой ластаўку; тлумачэнне вучнямі, чаму ластаўка не можа ляцець са шпаком. «Займальная старонка» (або рубрыка «Чытаючы кнігу прыроды») «А ці ведаеце вы...» (Чаму пліска атрымала такую назву? і да т. п.). *Чаму вясна — адказны перыяд у жыцці птушак?* Выкананне задання 1 да с. 51; праслухоўванне апаведу настаўніка пра цуды вынаходлівасці птушак пры будаўніцтве гнёздаў (суправаджаецца дэманстрацыяй слайдаў). Праца са схемай, якая адлюстроўвае, чым заняты птушкі з прыходам вясны, тлумачэнне вучняў з яе дапамогай, чаму вясна — самы адказны час у жыцці птушак. *Правілы прыродаахоўных паводзін у адносінах да птушак.* Выкананне задання на картцы (праца ў парах): «Адзначце чырвоным кружком тое, што нельга вясной рабіць у адносінах да птушак, а зялёным — што можна». Тлумачэнне вучнямі неабходнасці выканання тых ці іншых правілаў паводзін пасля самаправеркі вынікаў працы (на аснове эталона адказу на слайдзе) | Падсыпаць разам з бацькамі корм у кармушкі, асабліва ў дажджлівае і халоднае надвор'е |
| 24 | Змены ў жыцці насякомых і іншых жывёл вясной | 1 | **Мэта:** сфарміраваць у вучняў уяўленне пра змены ў жыцці насякомых і іншых жывёл вясной і іх прычынах. **Задачы:** пашырыць веды аб вядомых вучням насякомых, звярах, іншых жывёлах, вучыць бачыць і тлумачыць узаемасувязі, якія існуюць паміж раслінамі і жывёламі, living рознымі групамі жывёл; стварыць умовы для ўсведамлення значэння насякомых у прыродзе | *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Хто ў лесе прачнуўся ад зімовага сну?* Выкананне вучнямі задання на картках (праца ў пары або мікрагрупе): «Разгледзьце малюнкі жывёл. Адзначце зялёным кружком жывёл, якія прачынаюцца вясной ад «зімовага сну»». Аналіз малюнкаў на с. 52, 53, адказы на пытанні: «Чаму барсук, вожык, жаба, божыя кароўкі, чмялі зімой "спяць"?», «Чаму вясной вылятаюць са сваіх сховішчаў, "домікаў" пчолы, чмялі, божыя кароўкі, жабы, вожыкі?». *Такія цікавыя і такія важныя.* У працэсе гульні «Загадаю — адгадай» адгадванне загадак на с. 52 з дапамогай малюнкаў вучэбнага дапаможніка; вызначэнне вучнямі, чым | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | як абаронцаў і апыляльнікаў раслін; садзейнічаць фарміраванню станоўчых адносін да такіх жывёл, як жабы | падобны і чым адрозніваюцца пчала і чмель, тлумачэнне значэння яркай афарбоўкі насякомых. Выкананне гульнявога задання «Хто хутчэй?» (у мікрагрупах): складанне прымавак з асобных слоў, напісаных на картках. Тлумачальнае чытанне тэксту на с. 52, чытанне тэксту пра жабу і яго аналіз.<br>*Змены ў жыцці дзікіх звяроў вясной*: адгадванне загадак пра вожыка, барсука, чытанне тэкстаў і іх аналіз, гульня з мячом «Хто? Які? Што робіць?».<br>*Абагульненне, замацаванне вучэбнага матэрыялу*. У пераліку (на слайдзе) змен у жыцці жывёл вясной навучэнцы знаходзяць памылку і тлумачаць свой выбар | |
| 25 | Змены ў жыцці свойскіх жывёл вясной. Уплыў вясновых змен у прыродзе на працу чалавека | 1 | **Мэта:** сфарміраваць уяўленне пра змены ў жыцці свойскіх жывёл вясной, у працы людзей.<br>**Задачы:** пашырыць уяўленні пра свойскіх жывёл, вучыць пазнаваць іх па апісанні, правільна называць дзіцянят; арганізаваць сітуацыю, накіраваную на выхаванне гуманнага стаўлення да жывёл, павагі да людзей, якія займаюцца сельскагаспадарчай працай; актуалізаваць жаданне ў аказанні дапамогі бацькам у пасадцы і доглядзе раслін; стварыць умовы для развіцця ўмення працаваць разам, прадуктыўна размаўляць адзін з адным, ацэньваць працу сваёй групы | *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Свойскія жывёлы і іх дзіцяняты.* Гульня «Хто хутчэй?» для актуалізацыі ведаў вучняў аб свойскіх жывёлах, замацавання ўмення пазнаваць іх па апісанні ў загадцы. Аналіз сітуацыі, вызначэнне вучнямі жывёл, апісаных у ёй (праца ў мікрагрупах). Выкананне задання на картцы «Чыё дзіцяня?»: «Злучы лініяй малюнак дзіцяняці з малюнкам яго мамы». Праверка правільнасці выканання задання спосабам самаправеркі на аснове эталона правільнага адказу. Практыкаванне па назве дзіцянят свойскіх жывёл: навучэнцы пазнаюць жывёл на слайдзе і з дапамогай вучэбнага дапаможніка вызначаюць, як называецца яго дзіцяня. Гульня «Завяршы фразу» для замацавання ўмення правільна называць дзіцянят свойскіх жывёл: педагог пачынае фразу, у якой называецца свойская жывёла, а заканчвае яе той навучэнец, якому кінуты мяч. Напрыклад, у каня нараджаецца ...; у каровы — ...; у авечкі — ... і інш. Гульня «Пазлы»: кожная мікрагрупа з пазлаў складае адну са свойскіх жывёл.<br>*Змены ў жыцці свойскіх жывёл вясной.* Аналіз малюнкаў на с. 55 вучэбнага дапаможніка, устанаўленне змен у жыцці свойскіх жывёл вясной, іх прычын.<br>*Праца людзей вясной.* Выконваюцца заданні да с. 56—57 вучэбнага дапаможніка, а затым заданне «Узнаві прыказку» (кожная з мікрагруп аднаўляе з дапамогай слоў-падказак па 2 прыказкі) | |
| 26 | Вясновыя з'явы ў прыродзе (абагульняючы ўрок) | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для абагульнення і сістэматызацыі ведаў вучняў аб вясновых зменах у нежывой і жывой прыродзе.<br>**Задачы:** садзейнічаць пашырэнню і паглыбленню ведаў вучняў пра вясновыя змены ў жыцці нежывой прыроды, жыцця раслін і жывёл, вучыць тлумачыць і ўстанаўліваць сувязі, якія існуюць | *Актуалізацыя вучэбнага матэрыялу. Месяцы вясны.* Увядзенне гульнявога сюжэта пра зачараваную фею Вяснянку; адгадванне загадак пра вясновыя месяцы, аналіз іх зместу.<br>*Сакавік.* Складанне «партрэта» сакавіка на аснове аналізу слайдаў, уласных назіранняў вучняў, фіксацыя асноўных прыкмет на схеме, складанне апаведу пра месяц на аснове схемы. Выкананне гульнявога практыкавання (праца ў мікрагрупах) «Лаві памылку»: чытаецца апавед, у якім трэба выправіць памылку.<br>*Красавік.* Параўнанне малюнкаў на с. 60 вучэбнага дапаможніка ў працэсе гульні «Хто | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | паміж з’явамі прыроды; стварыць умовы для развіцця ўмення пазнаваць вядомыя расліны і жывёлы, устанаўліваць паслядоўнасць вясновых з’яў у прыродзе; спрыяць развіццю лагічнага мыслення, памяці, уяўлення, здольнасці да прадуктыўнай камунікацыі | знойдзе хутчэй 5 адрозненняў» (праца ў мікрагрупах), тлумачэнне, якія змены адбываюцца ў красавіку ў параўнанні з сакавіком. Складанне і чытанне схемы ««Партрэт «красавіка».<br>*Май.* Устанаўленне адрозненняў малюнка прыроды ў маі ад малюнка прыроды ў красавіку, адгадванне загадак пра май, «дамалёўка» малюнка з паказам прыроды ў маі з дапамогай пытанняў: «Якая з’ява назіраецца ў маі? (Навальніца). Якія яшчэ расліны можна дамаляваць на малюнак прыроды ў маі? Складанне схемы «“Партрэт” мая».<br>*Абагульненне засвоенага вучэбнага матэрыялу.* Гульня «Што раней, што потым»: навучэнцы (праца ў мікрагрупах) выкладваюць малюнкі вясновых з’яў у неабходнай паслядоўнасці. Аднаўленне прыказак пра вясновыя месяцы, гульня «Ці верыце вы, што ...»: педагог зачытвае выказванні, а навучэнцы, калі згодны з імі, пляскаюць у далоні, калі не — стукаюць пальчыкамі па парце (або махаюць рукамі, устаюць), напрыклад: «У красавіку на рацэ заўсёды бывае крыгаход» | |
| **Змены ў нежывой прыродзе, у жыцці раслін, жывёл і чалавека летам (4 г)** | | | | | |
| 27 | Змены ў нежывой прыродзе і жыцці раслін летам | 1 | **Мэта:** сфарміраваць уяўленні пра змены ў нежывой прыродзе і жыцці раслін летам і іх сувязі.<br>**Задачы:** сфарміраваць уяўленне пра лета як самай цёплай пары года, залежнасці тэмпературы і працягласці дня ад вышыні Сонца над зямлёй; фарміраваць уяўленне аб атрутных раслінах, правілах паводзін пры сустрэчы з імі, уменне распазнаваць 1—2 атрутныя расліны па іх характэрных прыкметах; працягнуць вучыць вучняў тлумачыць сувязі паміж зменамі ў нежывой прыродзе і жыцці раслін, распазнаваць вядомыя расліны па іх малюнках; арганізаваць сітуацыі, якія забяспечваюць развіццё назіральнасці, увагі, мыслення, уяўлення | *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Месяцы лета.* Адгадванне загадак пра лета, летнія месяцы. Выяўленне галоўных прыкмет лета на аснове аналізу малюнка на с. 63, гульні «Супрацьлегласці». Напрыклад: «Узімку холадна, а ўлетку ... (цёпла ці горача)», «Увосень дождж халодны, а ўлетку ... (цёплы)», «Зіма — самы халодны час года, а лета — самае ... (цёплае)». Адгадванне загадак на с. 63 і 64, выкананне заданняў 4, 5 да с. 63 для знаёмства вучняў са з’явай навальніцы, вясёлкі.<br>Гульня «Лаві памылку»: пры чытанні тэксту на с. 64 дапускаюцца 1—2 памылкі, якія павінны заўважыць навучэнцы і выправіць іх.<br>*Замацаванне ведаў* пра змены ў нежывой прыродзе летам з дапамогай схемы (на дошцы, на слайдзе) «Прыкметы лета ў нежывой прыродзе». Чаму лета — самая цёплая пара года? Пошук адказу на пытанне ў працэсе гутаркі, аналізу малюнка з відарысам вышыні Сонца над зямлёй зімой і летам. Гульня «Закончы сказ», напрыклад: «Улетку — самы цёплы час года таму, што ... (Сонца высока над зямлёй, грэе мацней)», «Сонца летам падымаецца вышэй над зямлёй, таму становіцца ... (цяплей)».<br>*Змены ў жыцці раслін летам.* Дэманстрацыя слайдаў, аналіз малюнкаў на с. 65; высвятленне, чым багата лета (кветкамі, ягадамі), чаму лета самы спрыяльны час для росту і развіцця раслін і інш. Параўнанне вучнямі сваіх адказаў з тэкстам на с. 65 вучэбнага дапаможніка.<br>*Атрутныя расліны*: складанне правілаў бяспечных паводзін пры сустрэчы з атрутнымі | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | раслінамі (са слоў на картках); выкананне задання да с. 66. *Замацаванне вывучанага* на аснове адгадвання загадак пра поры года, летнія з'явы ў прыродзе | |
| 28 | Жыццё дзікіх і свойскіх жывёл летам | 1 | **Мэта:** стварыць умовы для пашырэння ўяўленняў вучняў пра жыццё дзікіх і свойскіх жывёл летам. **Задачы:** садзейнічаць пашырэнню ўяўленняў вучняў аб дзікіх і свойскіх жывёлах, арганізаваць сітуацыю, накіраваную на фарміраванне пачуццяў здзіўлення, захаплення жывёламі, іх асаблівасцямі жыцця; фарміраваць веды аб правілах паводзін у прыродзе, вучыць вучняў даваць ацэнку ўчынкаў чалавека ў адносінах да прыроды | *Актуалізацыя раней засвоеных ведаў. Месяцы лета.* Гульня «Пазнай месяц па апісанні». *Свойскія жывёлы летам.* Гульня «Загадаю — адгадай» на актуалізацыю канкрэтных уяўленняў аб свойскіх жывёлах (навучэнцы пазнаюць жывёл па іх апісанні і малюнках на с. 67). *Дзікія жывёлы летам.* На аснове малюнкаў на с. 68—69 вучэбнага дапаможніка гульня «Пільнае вока»: педагог называе некалькі прыкмет, па якіх трэба вызначыць, які малюнак ён апісвае, якія жывёлы на іх намаляваны, напрыклад: «Клапатлівая мама, ёлка, мышаня, трое яго ловяць ...» і інш. Развагі вучняў аб тым, чаму лісу, мядзведзіцу, бабрыху, ястраба і многіх іншых жывёл можна назваць клапатлівымі бацькамі. *Правілы паводзін у адносінах да жывёл.* Аналіз малюнкаў на с. 58—59, чытанне тэксту пад малюнкамі, параўнанне адказаў вучняў з яго зместам. Гульня з мячом «Я не буду...»: педагог пачынае фразу, а заканчвае яе той навучэнец, якому кінуты мяч, напрыклад: «Каб не нашкодзіць прыродзе, я не буду...»; «Каб не крыўдзіць насякомых, я не буду...» | |
| 29 | Лета і здароўе чалавека | 1 | **Мэта:** забяспечыць засваенне вучнямі правілаў паводзін летам у лесе, на вадаёмах для папярэджання няшчасных выпадкаў. **Задачы:** актуалізаваць канкрэтныя ўяўленні аб атрутных раслінах; прадоўжыць вучыць пазнаваць расліны па іх малюнку, апісанні; сфарміраваць уяўленне пра жывёл, якія могуць быць небяспечнымі; садзейнічаць усведамленню значэння летняга загартоўвання, вучыць мерам прафілактыкі цеплавых і сонечных удараў, аказваць першую дапамогу пры цеплавых ударах, правільна апранацца ў гарачы летні дзень, а таксама для прагулкі ў лес | *Актуалізацыя раней засвоенага вучэбнага матэрыялу* з дапамогай гульні «Завяршы фразу», напрыклад: «Лета самае ...», «Улетку шмат ...». *Вывучэнне новага вучэбнага матэрыялу. Небяспечныя або атрутныя расліны. Небяспечныя жывёлы. Правілы паводзін у адносінах да небяспечных раслін, жывёл.* Выкананне першага задання да с. 70—71 вучэбнага дапаможніка, заданні на картцы: «Разгледзь малюнкі раслін. З дапамогай малюнкаў вучэбнага дапаможніка назаві расліны. Адзнач чырвоным кружком малюнкі раслін, якія з'яўляюцца атрутнымі, зялёным — расліны, ягады якіх карысныя для здароўя чалавека». Чытанне тэксту на с. 71, выкананне заданняў 5—7 да с. 71. *Летняе загартоўванне арганізма. Правілы паводзін каля вадаёмаў і ў вадзе.* Гутарка па пытаннях: «Дзе прыемна праводзіць час у гарачы летні дзень? Чаму? Якія «лепшыя сябры» здароўя чалавека летам?», Чытанне прыказак і аналіз малюнка на с. 72 вучэбнага дапаможніка. Выкананне задання (праца ў парах або мікрагрупах «Можна — нельга»: у першую групу змяшчаюцца карткі, на якіх запісана тое, што можна рабіць на вадаёмах і ў вадаёмах, у другую — што нельга; тлумачэнне неабходнасці захавання тых ці іншых правілаў. Рашэнне сітуацыйных задач на | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | вызначэнне правілаў бяспечных паводзін на вадаёмах. Знаёмства вучняў з парадамі доктара Айбаліта, тлумачэнне, чаму іх трэба прытрымлівацца.<br>Гульня «Пляскаем у далоні» для праверкі таго, наколькі навучэнцы свядома засвоілі правілы паводзін каля вадаёмаў і на вадаёмах: навучэнцы пляскаюць у далоні, калі яны не згодны з выказаным сцвярджэннем | |
| 30 | Змены ў прыродзе і працы людзей у розныя поры года (абагульняючы ўрок) | 1 | **Мэта:** абагуліць, сістэматызаваць і замацаваць асвоеныя веды пра сезонныя змены ў прыродзе, стварыць умовы для развіцця ўмення устанаўліваць прычынна-выніковыя сувязі ў прыродзе.<br>**Задачы:** актуалізаваць веды вучняў пра змены ў нежывой і жывой прыродзе ў розны час года, стварыць сітуацыі для замацавання ўмення распазнаваць поры года па апісанні, малюнку; стымуляваць патрэбу ў асцярожных і клапатлівых адносінах да прыроды роднага краю, выкананні правілаў прыродаахоўных паводзін | *Абагульненне і сістэматызацыя асвоеных ведаў. Першая старонка «Круглае і яркае».* Адгадванне загадкі пра Сонца, выбар на слайдзе малюнка Сонца, характэрнага для кожнай пары года.<br>*Другая старонка «Месяцы пор года».* Адгадванне загадак, тлумачэнне адгадак.<br>*Старонка «Паэтычная».* Чытанне вучнямі вершаў пра поры года, тлумачэнне вучнямі, па якіх прыкметах яны пазналі пару года.<br>*Старонка «Партрэт пары года».* Выкананне задання на картцы: каманды адзначаюць тыя малюнкі, на якіх намаляваны сезонныя з'явы, характэрныя для прадстаўлення імі пары года. Гульня «Пазнай па адной прыкмеце»: педагог называе тыя ці іншыя сезонныя з'явы; навучэнцы каманд пляскаюць у далоні, калі называецца прыкмета іх пары года. Гульня «Што раней, што потым».<br>*Старонка «Народная мудрасць пра поры года».* Выбар членамі каманд сярод пераліку прыказак тых, якія прысвечаны іх пары года (прапануецца па 3—4 прыказкі).<br>*Старонка «За што я люблю зіму / вясну / лета / восень».* Члены кожнай каманды завяршаюць сказ «Больш за ўсё я люблю зіму / вясну / лета / восень за тое, што ...».<br>*Выніковая рэфлексія* «Востраў эмоцый» | |

# Працоўнае навучанне

Агульная колькасць гадзін — 30

1. Журба, А. Ф. Працоўнае навучанне : падруч. для 1 кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / А. Ф. Журба, Н. А. Юрчанка. — Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2010.
2. Журба, А. Ф. Цуда-майстэрня : альбом па працоўным навучанні : 1 клас / А. Ф. Журба, Н. А. Юрчанка. — Мінск : Новое знание, 2014.
3. Журба, А. Ф. Працоўнае навучанне ў 1 класе : вучэб.-метад. дапаможнік для настаўнікаў агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / А. Ф. Журба, Н. А. Юрчанка — Мінск : НІА, 2010.
4. Журба, А. Ф. Працоўнае навучанне : 1 клас : сшытак самаацэнкі : дапаможнік для настаўнікаў агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / А. Ф. Журба. — Мінск : НІА, 2014.

Умоўныя абазначэнні:
🕮 — падручнік
🗁 — альбом па працоўным навучанні
🗍 — матэрыялы
✂ — інструменты і прыстасаванні
🗐 — вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўніка
⚙ — сшытак самаацэнкі

| № урока, дата | Тэма ўрока | Мэта ўрока | Характарыстыка асноўных відаў і спосабаў дзейнасці вучняў | УМК, матэрыялы, інструменты і прыстасаванні |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| **Тэхналогія і грамадства** | | | | |
| 1 | Свет тэхналогій | Даць уяўленне пра свет тэхналогій і свет прафесій, аб прыгажосці і карысці навакольных рэчаў, пра змест навучання ў першым класе, абагульніць вопыт пазнавальна-працоўнай дзейнасці | Расказваюць аб прафесіях сваіх бацькоў, родных, знаёмых; тлумачаць, чаму сучасны свет называюць светам тэхналогій, чаму трэба асвойваць азбуку ручной працы; расказваюць пра тое, як дапамагаюць бацькам. Расказваюць аб сваім вопыце ў вырабе карысных і прыгожых вырабаў | 🕮 — с. 4—5<br>🗐 — с. 20—26<br>⚙ — с. 7 |
| 2 | Арганізацыя працоўнага месца | Пазнаёміць з матэрыяламі і інструментамі, неабходнымі для працы, правіламі бяспекі працы; стварыць умовы для фарміравання навыкаў арганізацыі працоўнага месца | Тлумачаць, што значыць беражлівая ставіцца да прыроды і навакольных рэчаў. Знаёмяцца з матэрыяламі і інструментамі, якія яны будуць выкарыстоўваць на ўроках; размяшчаюць на працоўным месцы прылады і матэрыялы, неабходныя для працы з паперай; расказваюць правілы бяспекі працы, тлумачаць, чаму іх неабходна выконваць; расказваюць і паказваюць, што ўмеюць рабіць сваімі рукамі. Вырабляюць падстаўку пад пэндзлік для клею | 🕮 — с. 6—7, форзацы 1, 2<br>🗍 — папера<br>✂ — нажніцы, гладзілка, падкладная дошка<br>🗐 — с. 26—29, 122—123<br>⚙ — с. 7 |
| **Тэхналогія народных рамёстваў** | | | | |
| ***Фларыстыка*** | | | | |
| 3 | Узор з засушанага лісця ў паласе | Пазнаёміць з відамі прыроднага матэрыялу, іх уласцівасцямі; з прыёмамі нарыхтоўкі, апрацоўкі і захоўвання лісця; кампазіцыйнымі заканамернасцямі пабудовы арнаменту ў паласе; вучыць выконваць аплікацыю з засушанага лісця | Расказваюць, якое лісце сабралі, як засушвалі; параўноўваюць уласцівасці свежага і засушанага лісця. Аналізуюць гатовыя работы, якія дэманструюцца. Арганізоўваюць працоўнае месца. Вырэзваюць па нанесенай разметцы аснову для кампазіцыі (з альбома), падбіраюць невялікае па памеры лісце, складаюць арнамент у паласе, наклейваюць лісце на аснову. Выконваюць правілы працы з клеем | 🕮 — с. 46—47, форзацы 1, 2<br>🗁 — ліст 2а<br>🗍 — засушанае лісце, клей<br>✂ — падкладная дошка, нажніцы, пэндзлік для клею<br>🗐 — с. 83—89<br>⚙ — с. 30—31 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 4 | Узор з засушанага лісця ў квадраце | Пазнаёміць з кампазіцыйнымі заканамернасцямі пабудовы ўзору, арнаменту ў квадраце; прадоўжыць фарміраванне навыкаў выканання аплікацыі з засушанага лісця | Параўноўваюць уласцівасці засушанага лісця і паперы. Аналізуюць гатовыя работы, якія дэманструюцца. Арганізуюць працоўнае месца. Выразваюць па нанесенай разметцы аснову для кампазіцыі (з альбома), падбіраюць невялікае па памеры лісце, складаюць узор у квадраце, наклейваюць лісце на аснову. Выконваюць правілы працы з клеем. Падчас працы падтрымліваюць парадак на працоўным месцы | — с. 48—49<br>— ліст 1а<br>— засушанае лісце, клей<br>— падкладная дошка, нажніцы, пэндзлік для клею<br>с. 89—91<br>— с. 30—31 |
| 5 | Сюжэтная кампазіцыя з засушанага лісця | Працягнуць фарміраванне навыкаў выканання аплікацыі з засушаных раслін; спрыяць фарміраванню творчых адносін да працы | Арганізуюць працоўнае месца. Прыдумліваюць сюжэт кампазіцыі, складаюць паслядоўнасць вырабу кампазіцыі, падбіраюць ліст тоўстай каляровай паперы для асновы (з альбома) і неабходнае засушанае лісце, складаюць кампазіцыю, прыклейваюць лісце на аснову, аналізуюць ход працы | — с. 50—51<br>— ліст тоўстай каляровай паперы<br>— засушанае лісце, клей<br>— падкладная дошка, пэндзлік для клею<br>— с. 91—93<br>— с. 30—31 |
| **Тэхналогія апрацоўкі матэрыялаў** | | | | |
| ***Выкананне вырабаў з прыродных матэрыялаў*** | | | | |
| 6 | Мадэляванне з гатовых формаў прыроднага матэрыялу | Пашырыць уяўленні аб разнастайнасці прыродных матэрыялаў; фарміраваць навыкі аналізу гатовых вырабаў з прыроднага матэрыялу, выраб фігурак; садзейнічаць фарміраванню беражлівых адносін да прыроды | Удзельнічаюць у гутарцы, расказваюць, як трэба паводзіць сябе ў лесе, полі. Называюць знаёмыя прыродныя матэрыялы (шышкі, каштаны, жалуды і інш.), расказваюць, на якіх дрэвах яны растуць. Аналізуюць гатовы выраб з пазіцыі выбару адпаведных матэрыялаў. Прыводзяць прыклады замены выкарыстаных у вырабе матэрыялаў на іншыя. Арганізуюць працоўнае месца. Выбіраюць вобраз фігуркі, падбіраюць з дапамогай настаўніка неабходныя матэрыялы для яе вырабу, вырабляюць фігурку, злучаюць дэталі пластылінам | — с. 34—35, форзац 2<br>— прыродныя матэрыялы (шышкі, каштаны, жалуды, палачкі і інш.), пластылін<br>—падкладная дошка, стэкі<br>— с. 66—71<br>— с. 22—23 |
| 7 | Мадэляванне з гатовых формаў прыроднага матэрыялу | Фарміраваць навыкі аналізу гатовых вырабаў з прыроднага матэрыялу, мадэлявання і вырабу фігурак | Называюць асноўныя прыродныя матэрыялы, якія выкарыстоўваюцца, расказваюць, якімі ўласцівасцямі яны валодаюць (форма, колер). Аналізуюць гатовы выраб з пазіцыі выбару адпаведных матэрыялаў і спосабаў мацавання. Арганізуюць працоўнае месца. Выбіраюць вобраз фігуркі, падбіраюць з дапамогай настаўніка неабходныя матэрыялы для яе вырабу, вырабляюць фігурку, злучаюць дэталі пластылінам. Расказваюць і выконваюць правілы працы з пластылінам | — с. 36—37<br>— прыродныя матэрыялы (шышкі, каштаны, жалуды, палачкі і інш.), пластылін<br>— падкладная дошка, стэкі<br>— с. 71<br>— с. 22—23 |
| 8 | Мадэляванне з прыроднага матэрыялу па задуме вучняў | Пашырыць уяўленні аб узаемасувязі, прапарцыянальнасці і суразмернасці частак вырабу, прадоўжыць фарміраванне навыкаў аналізу вырабаў, мадэлявання і вырабу фігурак з прыроднага матэрыялу | Арганізуюць працоўнае месца. Аналізуюць існуючы прыродны матэрыял, выбіраюць неабходны для стварэння вырабу. Вырабляюць індывідуальныя фігуркі і сумесныя (групай вучняў) шматфігурныя кампазіцыі. Падчас працы падтрымліваюць парадак на працоўным месцы. Расказваюць пра ўласную задуму, пра тое, чым задаволеныя і што не атрымалася | — с. 36—37<br>— прыродныя матэрыялы (шышкі, каштаны, жалуды, палачкі і інш.), пластылін<br>— падкладная дошка, стэкі<br>— с. 72—74<br>— с. 22—23 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| ***Выкананне вырабаў з паперы і кардону*** | | | | |
| 9 | Абрыўная аплікацыя | Пазнаёміць з відамі паперы, іх уласцівасцямі; з кампазіцыйнымі заканамернасцямі размяшчэння ліста паперы (асновы); навучыць выконваць абрыўную аплікацыю | Арганізуюць працоўнае месца. Праводзяць доследы з узорамі паперы: разглядаюць, абмацваюць, робяць высновы — расказваюць пра назіраныя ўласцівасці розных відаў паперы. Расказваюць пра рэчы, зробленыя з паперы. Тлумачаць, чаму трэба беражліва ставіцца да падручнікаў, кніг, часопісаў і інш. Расказваюць паслядоўнасць выканання абрыўной аплікацыі і выконваюць яе. З лістоў альбома выбраляюць дэталі аплікацыі і кампануюць іх. Вызначаюць правільнае становішча асновы. Наклейваюць дэталі аплікацыі на аснову. Выконваюць правілы працы з клеем | — с. 8—9, форзацы 1, 2<br>— ліст 3, 4, ліст тоўстай каляровай паперы<br>— клей<br>— падкладная дошка, пэндзлік для клею<br>— с. 29—33, 36—40<br>— с. 8—9 |
| 10 | Мадэляванне з палосак паперы | Сфарміраваць паняцце аб здольнасці паперы да скручвання; садзейнічаць фарміраванню ўменняў аналізу канструкцыі вырабаў з палосак паперы, замацаваць уменне разрэзаць паперу па прамой лініі, навучыць выконваць выраб з палосак паперы склейваннем | Арганізуюць працоўнае месца. Аналізуюць вырабы з палосак паперы. Расказваюць правілы разрэзвання паперы па прамых лініях і бяспекі працы пры карыстанні нажніцамі; правілы склейвання паласы ў аб'ёмную дэталь і дэталей паміж сабой. На лісце альбома выконваюць практыкаванні па разрэзванні паперы па прамых лініях з захаваннем правілаў бяспекі працы. Мадэлююць і выконваюць вырабы з выразаных палосак паперы. З двухколерных палосак пад кіраўніцтвам настаўніка выбраляюць петлі Мёбіуса | — с. 10—11, форзацы 1, 2, 3<br>— ліст 5 (без нумара)<br>—клей<br>— падкладная дошка, нажніцы, пэндзлік для клею<br>— с. 40—42<br>— с. 8, 10 |
| **Тэхналогія народных рамёстваў** | | | | |
| ***Выцінанка*** | | | | |
| 11 | Мастацтва выцінанкі. Выразанне сіметрычнай і рапортнай выцінанкі | Пазнаёміць з беларускім мастацтвам выцінанкі, матэрыяламі і тэхналогіяй вырабу, сфарміраваць першапачатковае ўяўленне аб сіметрыі, прадоўжыць фарміраванне навыкаў складвання паперы, навучыць вырэзваць сіметрычныя і рапортныя ўзоры | Арганізуюць працоўнае месца. Прыводзяць прыклады сіметрычных і рапортных узораў (карагодаў). З выкарыстаннем загатовак з альбома выконваюць практыкаванні па складванні загатоўкі і вырэзванні сіметрычных і рапортных узораў па гатовай разметцы. Выбраляюць сіметрычныя і рапортныя выцінанкі разам з настаўнікам, па ўласнай задуме. Падчас працы падтрымліваюць парадак на працоўным месцы і выконваюць правілы бяспекі працы пры карыстанні нажніцамі | — с. 42—43, форзацы 1, 3<br>— ліст 7<br>— падкладная дошка, нажніцы<br>— с. 77—81<br>— с. 27, 28 |
| 12 | Вырэзванне разеткавай выцінанкі | Развіваць уменне аналізаваць узаемасувязь формы выразаных частак і формы, атрыманай на вырабе, прадоўжыць фарміраванне навыкаў складвання паперы, навучыць вырэзваць простыя разеткавыя ўзоры | Арганізуюць працоўнае месца. З выкарыстаннем загатовак з альбома (маленькіх квадратаў) выконваюць практыкаванні па вырэзванні геаметрычных элементаў простых выцінанак, аналізуюць розныя варыянты выразак на паперы, складзенай у два, чатыры пласты. Вырэзваюць разеткавую выцінанку па гатовай разметцы. Выконваюць разеткавыя выцінанкі па ўласнай задуме, ствараюць калектыўную кампазіцыю «Сняжынкі-цуд» | — с. 44—45, форзац 3<br>— ліст 8<br>— падкладная дошка, нажніцы<br>— с. 81—83<br>— с. 27, 29 |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | **Тэхналогія апрацоўкі матэрыялаў** | | |
| | | ***Выкананне вырабаў з паперы і кардону*** | | |
| 13 | Арнамент з геаметрычных фігур у паласе | Замацаваць паняцце аб геаметрычных фігурах, працягнуць знаёмства з кампазіцыйнымі заканамернасцямі складання арнаменту ў паласе (рытм формаў, памераў, колеру), замацаваць уменне выразаць акруглыя формы, наклейваць папяровыя дэталі на аснову | Арганізуюць працоўнае месца. Называюць геаметрычныя фігуры і іх характэрныя прыкметы. Выразаюць з альбома аснову для кампазіцыі. Ліст альбома з размечанымі геаметрычнымі фігурамі разразаюць на палосы, а затым палосы на асобныя фігуры. Складаюць і выконваюць арнаменты з геаметрычных фігур у паласе. Выконваюць правілы працы нажніцамі, з клеем. Тлумачаць і паказваюць на сваіх працах, што такое рытм формаў, памераў і колеру элементаў. Падчас працы падтрымліваюць парадак на працоўным месцы | 🕮 — с. 12—14<br>🗀 — ліст 1б, 6<br>🗍 — клей<br>✂ — падкладная дошка, нажніцы, пэндзлік для клею<br>🗐 — с. 33—34, 42—44<br>⚙ — с. 8, 11 |
| 14 | Мадэляванне з геаметрычных фігур | Навучыць складаць з геаметрычных фігур больш складаныя формы; замацаваць уменне пазначаць дэталі пры дапамозе трафарэта, шаблону; выразаць па прамой, па крузе, наклейваць папяровыя дэталі на аснову | Арганізуюць працоўнае месца. Пазначаюць геаметрычныя фігуры па трафарэце і шаблоне на адваротным баку каляровай паперы. Выразаюць дэталі па гатовай і выкананай разметцы. Складаюць з геаметрычных фігур кампазіцыю, наклейваюць дэталі на аснову. Выконваюць правілы працы нажніцамі, з клеем. Тлумачаць і паказваюць на сваіх працах, як правільна выбраць становішча асновы | 🕮 — с. 12, 13, 15<br>🗀 — ліст 6, лісты каляровай паперы<br>🗍 — клей<br>✂ — падкладная дошка, нажніцы, пэндзлік для клею<br>🗐 — с. 44—45<br>⚙ — с. 8, 12 |
| 15 | Мадэляванне з геаметрычных фігур. Танграм | Навучыць аналізаваць форму і канструкцыю аб'екта, складаць форму з геаметрычных фігур; удасканальваць уменне выразаць дэталі па гатовай разметцы | Арганізуюць працоўнае месца. З альбома выразаюць танграм (або іншую галаваломку) і разразаюць яго на часткі. Мадэлююць фігуркі з элементаў танграма па схеме, сілуэтным малюнку, уласнай задуме, аналізуюць іх форму, прыдумліваюць назвы. З альбома выразаюць канверт для захоўвання дэталей танграма, складаюць яго па размечаных лініях згіну і склейваюць | 🕮 — с. 16—17<br>🗀 — ліст 9, 10, 11<br>🗍 — клей<br>✂ — падкладная дошка, нажніцы, пэндзлік для клею<br>🗐 — с. 34, 45—46<br>⚙ — с. 8, 12 |
| 16 | Сюжэтная аплікацыя | Пазнаёміць з сюжэтнай аплікацыяй, кампазіцыйнай пабудовай сюжэтнай аплікацыі, навучыць выконваць сюжэтную аплікацыю з каляровай паперы, прадоўжыць фарміраванне паняцця аб прыгажосці і карысці рэчаў | Расказваюць пра сюжэтную аплікацыю і яе месца ў інтэр'еры пакоя або класа. Арганізуюць працоўнае месца. Выразаюць дэталі аплікацыі з ліста альбома. Прыдумліваюць сюжэт, складаюць кампазіцыю на аснове (з альбома), выконваюць аплікацыю і аналізуюць ход працы. Падчас працы выконваюць правілы бяспекі і падтрымліваюць парадак на працоўным месцы | 🕮 — с. 18—19<br>🗀 — ліст 12, 13 (без нумара), лісты каляровай паперы<br>🗍 — клей<br>✂ — падкладная дошка, нажніцы, пэндзлік для клею<br>🗐 — с. 30—33, 47—48<br>⚙ — с. 8, 13 |
| 17 | Мадэляванне ў тэхніцы арыгамі (базавая форма «трохвугольнік») | Замацаваць веды аб уласцівасці паперы (згінанне), пазнаёміць з інструментамі (гладзілкай); замацаваць уменні згінаць паперу наўскос, апрацоўваць згін гладзілкай, вырабляць фігуркі спосабам шматразовага згінання | Арганізуюць працоўнае месца. Выразаюць квадраты для вырабу фігурак з альбома. Выконваюць практыкаванні па згінанні паперы, называюць асноўныя правілы згінання. Аналізуюць якасць згіну да і пасля выкарыстання гладзілкі. Вырабляюць фігуркі разам з настаўнікам і па схеме афармляюць фігуркі пры дапамозе каляровай паперы, каляровых алоўкаў, фламастараў | 🕮 — с. 20—23, форзац 4<br>🗀 — ліст 16, 17, 18 (брашура для арыгамі)<br>🗍 — клей<br>✂ — падкладная дошка, нажніцы, пэндзлік для клею |

*Працяг*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | | | — с. 34—36, 48—53<br>— с. 8, 14 |
| 18 | Мадэляванне ў тэхніцы арыгамі (базавая форма «дзверы») | Навучыць пазначаць квадрат згінаннем, замацаваць уменні згінаць паперу напалову, да лініі папярэдняга згіну, працягнуць вучыць выраблять фігуркі спосабам шматразовага згінання | Арганізуюць працоўнае месца. На лісце альбома пазначаюць квадрат згінаннем на вугал. Адрэзваюць размечаную дэталь. Выконваюць практыкаванні па згінанні паперы напалову, да лініі папярэдняга згіну, згінаюць з квадрата базавую форму «дзверы» і на яе аснове разам з настаўнікам складаюць скрыначку. Затым афармляюць яе. Вучні, якія раней за іншых справіліся з заданнем, могуць самастойна скласці фігуркі «свінка» або «мышка» | — с. 24—25, форзац 4<br>— ліст 21, 22 (брашура для арыгамі)<br>— падкладная дошка, нажніцы, гладзілка<br>— с. 54—57<br>— с. 8, 16 |
| 19 | Сюжэтная кампазіцыя (спалучэнне розных тэхнік) | Працягнуць фарміраванне навыкаў пабудовы кампазіцыі з выкарыстаннем вядомых правілаў, фарміраваць паняцце аб спалучэнні розных тэхнік у вырабе, навучыць выконваць камбінаваныя вырабы, фарміраваць навыкі калектыўнай работы | Арганізуюць працоўнае месца. Расказваюць аб кампазіцыйных правілах (выкарыстоўваючы прыклады), аб правілах бяспекі працы, правілах выканання аплікацыі і складання фігурак арыгамі. З лістоў альбома выраблююць фігуркі і сумесна з аднакласнікамі складаюць сюжэтную кампазіцыю. Падчас працы захоўваюць правілы бяспекі і падтрымліваюць парадак на працоўным месцы | — с. 26—27<br>— ліст 23 (брашура для арыгамі), лісты каляровай паперы<br>— клей, ліст паперы вялікага фармату<br>— падкладная дошка, нажніцы, гладзілка, аловак, пэндзлік для клею<br>— с. 57—60<br>— с. 8, 17 |
| ***Выкананне вырабаў з тэкстыльных матэрыялаў*** | | | | |
| 20 | Асновы тэхналогіі апрацоўкі тканіны | Пазнаёміць з бавоўнянымі тканінамі, іх атрыманнем, уласцівасцямі, ужываннем; пазнаёміць з асноўнымі інструментамі і прыстасаваннямі для працы з тканінай; навучыць пазначаць, выкройваць дэталі з тканіны, наклейваць іх на паперу | Размяшчаюць на працоўным месцы матэрыялы і інструменты. Распавядаюць правілы бяспекі працы. Разглядаюць паркаль і фланель, параўноўваюць іх уласцівасці: мяккасць, таўшчыня, трываласць. Аналізуюць асаблівасці разрэзвання паркалю і фланелі. З альбома вырэзваюць аснову і лякала фланелевай устаўкі ігольніка. Пазначаюць і выкройваюць дэталь ігольніка з фланелі. Выраблююць ігольнік і афармляюць яго па ўласнай задуме | — с. 28—29, форзацы 1, 2<br>— ліст 2б, 2в, лісты каляровай паперы<br>— фланель, клей<br>— падкладная дошка, шавецкая крэйда, нажніцы, пэндзлік для клею<br>— с. 60—62<br>— с. 18, 19 |
| 21 | Раскрой дэталей з тканіны | Пашырыць уяўленне пра ролю тканіны ў нашым жыцці, прадоўжыць фарміраванне навыкаў па разметцы і раскрою дэталей з тканіны | Арганізуюць працоўнае месца. Прыводзяць прыклады выкарыстання тканін у жыцці, варыянты вырабаў з тканіны. Успамінаюць правілы разметкі і выкройванне дэталей з тканіны. Пазначаюць з дапамогай лякала і выкройваюць сурвэтку квадратнай формы (з улікам напрамку нітак тканіны). Падчас працы падтрымліваюць парадак на працоўным месцы і выконваюць правілы бяспекі працы | — с. 30—31<br>— бавоўняная тканіна<br>— падкладная дошка, нажніцы, шавецкая крэйда, лякала квадратнай формы<br>— с. 62—63<br>— с. 18, 19 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 22 | Апрацоўка краю тканіны махрамі | Сфарміраваць уяўленне аб прафесіі ткача; навучыць апрацоўваць край вырабу махрамі | Арганізуюць працоўнае месца. Выконваюць практыкаванні па выцягванні нітак з краю на абрэзках тканіны. Выцягваюць ніткі з чатырох бакоў сурвэткі, выкраенай на папярэднім уроку, да атрымання махроў неабходнага памеру. Пры жаданні могуць выцягнуць ніткі па полі сурвэткі | 🕮 — с. 31<br>▯ — баваўняная тканіна, сурвэтка, выкраеная на папярэднім уроку<br>✂ — падкладная дошка<br>▤ — с. 63—64<br>⚙ — с. 18, 20 |
| | | ***Выкананне вырабаў з нетрадыцыйных матэрыялаў*** | | |
| 23 | Плоскаснае мадэляванне | Пазнаёміць з нетрадыцыйнымі матэрыяламі, магчымасцямі іх выкарыстання; пашырыць уяўленне аб мадэляванні; навучыць аналізаваць узор вырабу і працэс яго выканання, выконваць злучэнне лінейных матэрыялаў і тоўстай паперы з дапамогай клею | Арганізуюць працоўнае месца. Параўноўваюць уласцівасці лінейных матэрыялаў, знаходзяць адрозненні, падабенства. Прыводзяць прыклады традыцыйнага выкарыстання лінейных матэрыялаў. Выконваюць практыкаванні па скручванні шпагату ў кружочкі. З ліста альбома выразваюць шаблоны і выконваюць вырабы па ўзоры. Афармляюць гатовыя працы. Магчыма выкананне вырабаў па ўласнай задуме і складанне калектыўнай кампазіцыі. Падчас працы выконваюць правілы бяспекі працы і падтрымліваюць парадак на працоўным месцы | 🕮 — с. 38—39, форзацы 1, 2<br>🗀 — ліст 14<br>▯ — шнур, клей<br>✂ — падкладная дошка, нажніцы, пэндзлік для клею<br>▤ — с. 74—76<br>⚙ — с. 24, 25 |
| 24 | Мадэляванне з трубачак | Садзейнічаць фарміраванню беражлівых адносін да рэчаў, пазнаёміць з магчымасцю нетрадыцыйнага выкарыстання матэрыялаў, вучыць мадэляваць вырабы з дэталей трубчастай формы | Арганізуюць працоўнае месца, расказваюць правілы бяспекі працы, прыводзяць прыклады нетрадыцыйнага і / або другаснага выкарыстання матэрыялаў. Мадэлююць з трубачак услед за настаўнікам, па схеме, па ўласнай задуме. Нанізваюць трубачкі і вырабляюць простыя канструкцыі. Падчас працы выконваюць правілы бяспекі працы і падтрымліваюць парадак на працоўным месцы | 🕮 — с. 40—41<br>▯ — пластмасавыя трубачкі, ніткі<br>✂ — падкладная дошка, нажніцы, тоўстая іголка<br>▤ — с. 76—77<br>⚙ — с. 24, 26 |
| | | ***Выкананне вырабаў з тэкстыльным матэрыялам*** | | |
| 25 | Мадэляванне з нітак | Пашырыць уяўленне аб выкарыстанні тэкстыльных матэрыялаў, навучыць вырабляць пэндзлікі з нітак | Прыводзяць прыклады выкарыстання нітак. Арганізуюць працоўнае месца. Расказваюць правілы бяспекі працы інструментамі. Вырабляюць пэндзлік з нітак аднаго або некалькіх колераў, выкарыстоўваючы кардонны шаблон, пакінуты пасля выкройвання дэталі з тканіны. Прыводзяць прыклады выкарыстання пэндзліка | 🕮 — с. 32—33<br>🗀 — ліст 2в<br>▯ — ніткі<br>✂ — падкладная дошка, нажніцы,<br>▤ — с. 65—66<br>⚙ — с. 18, 21 |
| | | **Тэхналогія гаспадарання** | | |
| | | ***Забеспячэнне побыту сям'і*** | | |
| 26 | Забеспячэнне побыту сям'і | Спрыяць выхаванню ўзаемадапамогі, адказнасці, павагі да працы іншых, беражлівых адносін да навакольных прадметаў; пазнаёміць з электрычнымі прыборамі ў побыце | Расказваюць, як дапамагаюць бацькам, што робяць дома. Разгадваюць загадкі пра розныя электрычныя «памагатыя», расказваюць правілы абыходжання з імі. Тлумачаць неабходнасць беражлівых адносін да навакольных прадметаў. Прыводзяць прыклады эканомнага карыстання электраэнергіяй і вадой | 🕮 — с. 52—53<br>▤ — с. 93—99<br>⚙ — с. 32, 33 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| **Тэхналогія раслінаводства** | | | | |
| ***Догляд пакаёвых раслін*** | | | | |
| 27 | Догляд пакаёвых раслін | Пашырыць уяўленні аб ролі пакаёвых раслін у нашым жыцці, пазнаёміць з асноўнымі правіламі догляду пакаёвых раслін, навучыць даглядаць расліны | Прымаюць удзел у гутарцы «Прыгажосць і карысць пакаёвых раслін». Апісваюць пакаёвыя расліны, што растуць у класным кабінеце, дома. Даглядаюць расліны: паліваюць, апырскваюць, праціраюць лісце, рыхляць глебу | 🕮 — с. 58—59<br>✂ — лейка, палачка для рыхлення глебы, пульверызатар, анучка<br>▤ — с. 109—115<br>⚙ — с. 36, 37 |
| **Тэхналогія гаспадарання** | | | | |
| 28 | Афармленне інтэр'еру і падарункаў | Пашырыць уяўленне аб дызайне, пазнаёміць з варыянтамі афармлення класнага кабінета да свята, навучыць афармляць падарункі | Прапаноўваюць варыянты афармлення класнага кабінета да свята (Дзень імяніннніка), пакуюць падарункі ў гафрыраваную паперу, афармляюць пры дапамозе атласнай стужкі. З альбома выразваюць карткі і выконваюць надпісы. Прымацоўваюць карткі да падарункаў | 🕮 — с. 54—55<br>🗀 — ліст 15<br>🗍 — гафрыраваная папера, лента<br>✂ — нажніцы, дзіркакол<br>▤ — с. 105—106<br>⚙ — с. 32, 34 |
| 29 | Сервіроўка стала да чаю | Садзейнічаць выхаванню культуры паводзін у гасцях, за сталом; пазнаёміць з асаблівасцямі сервіроўкі святочнага стала да чаю | Расказваюць правілы паводзін у гасцях, за сталом. Аналізуюць прадметныя сітуацыі. Адгадваюць загадкі пра посуд. Выбіраюць посуд, неабходны для сервіроўкі стала да чаю, складаюць сурвэткі, сервіруюць стол | 🕮 — с. 56—57<br>🗍 — посуд, папяровыя сурвэткі<br>▤ — с. 99—104, 106—109<br>⚙ — с. 32, 35 |
| **Я і свет тэхналогіі** | | | | |
| 30 | Я і свет тэхналогіі (Выніковыя заняткі) | Садзейнічаць усведамленню вопыту працоўнай дзейнасці, фарміраванні эмацыянальна-каштоўнасных адносін да працэсу і вынікаў працы, пазнаёміць з матэрыяламі, неабходнымі для навучання ў другім класе, спосабамі нарыхтоўкі прыродных матэрыялаў | Расказваюць, чаму навучыліся за год, што спадабалася рабіць, што атрымлівалася, якія цяжкасці адчувалі ў творчай дзейнасці. Прыдумліваюць уласны варыянт вырабу матыля з вывучаных матэрыялаў, пад кіраўніцтвам настаўніка складаюць паслядоўнасць выканання вырабу. Падбіраюць матэрыялы, інструменты, размячаюць і выразваюць дэталі, вырабляюць матылька. З індывідуальных вырабаў складаюць калектыўную кампазіцыю | 🕮 — с. 60—63<br>🗀 — лісты каляровай паперы<br>🗍 — матэрыялы, з якімі працавалі ў навучальным годзе<br>✂ — інструменты, якімі карысталіся ў навучальным годзе<br>▤ — с. 115—117<br>⚙ — с. 38, 39 |

## Змест